Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 49 (4644) 9 снежня 2011 г.

# Наша моладзь — лепшая!

### Што патрэбна сёння прадстаўнікам творчай моладзі Беларусі, каб плённа працаваць на карысць сваёй Радзімы?

Адказ на гэтае пытанне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку далі маладыя мастакі, музыкі, архітэктары, рэжысёры, акцёры, журналісты і пісьменнікі.

Сустрэча адбылася 1 снежня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, куды моладзь прыйшла не столькі прасіць дапамогі, колькі паказаць, што дзяржава недарма ўкладае сілы ў выхаванне талентаў: ад пачатку стварэння Фонду Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі яго лаўрэатамі і стыпендыятамі сталі амаль дзве тысячы маладых людзей. “Мы выгадавалі новае пакаленне творчай інтэлігенцыі, тых, каму можна даверыць памнажэнне патэнцыялу айчыннай культуры”, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

Аляксандр Лукашэнка пабачыў і матэрыяльныя доказы пленнай працы маладых аўтараў: мастацкія і скульптурныя работы, мадэлі адзення, архітэктурныя праекты, вырабы з керамікі, металу і шкла, першыя кнігі пісьменнікаў і многае іншае.

Практычны падыход сучаснай моладзі адчуваўся па многіх узнятых пытаннях: музыкантам патрэбны інструменты, акцёрам і рэжысёрам — тэатры, мастакам — майстэрні, пісьменнікам — чытачы… Але ці павінна дзяржава клапаціцца пра ўсё гэта? Нягледзячы на тое, што выхаванне талентаў — адзін з важнейшых напрамкаў сацыяльнай палітыкі Беларусі, Прэзідэнт акцэнтаваў увагу на тым, што “сёння ў культуры акрамя творчых здольнасцей яшчэ патрэбны ініцыятыва, энергія і прадпрымальнасць”. А значыць, павінны развівацца таксама інстытуты прадзюсарства ды мецэнацтва. Гэта ж дазволіць пазбегнуць папрокаў у заангажаванасці творцаў, у тым, што яны працуюць “пад уладу”.

(Заканчэнне на 2-й стар.)



# Універсальнасць класіка

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

**Здавалася б, што можна новага сказаць пра Максіма Багдановіча? Але, калі пераадрасаваць пытанне пісьменнікам — “што новага можна сказаць пра чалавека?” —мяркую, усе адказалі б прыкладна аднолькава. Тэма гэтая — невычарпальная. Балазе, калі гаворка ідзе пра класіка. А Багдановіч з усіх нашаніўцаў пад азначэнне “класік” падыходзіць найлепшым чынам.**



*Валянцін Волкаў, “Максім Багдановіч”*

Хто такі класік наогул? Томас Эліят, пераймаючыся гэтым пытаннем, адзначаў, што асноўных тыпаў два: гэта можа быць універсальны аўтар, а можа — ідал пэўнага пакалення ці літаратурнай групы. Вяртаючыся да Багдановіча, трэба адзначыць, што 120-годдзе — час, дастатковы для падвядзення пэўных рахункаў. Ці з’яўляўся Багдановіч сцягам пакалення? Бадай, адназначнага адказу тут даць немагчыма. Багдановіч да кожнага з паэтаў-наступнікаў (а такія былі ва ўсіх літаратурных пакаленнях пасля яго) прыходзіў і падыходзіў індывідуальна. Ён — паэт камерны, як адзначалася яшчэ пры жыцці, але ў той жа час адкрыты — тым, хто пачуе.

Вось толькі ці можна назваць Багдановіча класікам універсальным? Эліят піша, што з’яўленне яго магчымае толькі пры ўмове, што “цывілізацыя дасягнула паўнаты развіцця, распрацаваныя мовы і літаратура, класіка — заўжды спараджэнне спелага мыслення”. Як бачым, усё гэта з цяжкасцю суадносіцца з Багдановічам: мова ў той час (а ў яго, адарванага ад Бацькаўшчаны, тым больш) была распрацавана слаба; беларуская культура толькі пачынала абуджацца.

Патрабаванні Эліята слушныя, ды таксама слушнымі будуць і пярэчанні яму. Напрыклад, ці правамерна назваць класікам дэміурга пэўнай традыцыі? Пэўна, што ніхто не стане адмаўляць відавочнага. І тое іранічнае выказванне Адама Ягоравіча пры ложку хворага сына: “Беларускі Гамер…” — нечакана становіцца фактам неаспрэчным. Так, наш Гамер — гэта Багдановіч, гэта Купала, Колас. Тыя людзі, чый уплыў на літаратуру нельга нават вымераць. Кожны з “залатой трыяды” казаў сваё слова en arche, і водгулле гэтых слоў чуваць на працягу стагоддзя.

Калі я кажу пра дэміургаў, то не маю на ўвазе “заснавальнікаў літаратуры”. Зразумела, што пісьменнікі былі і да “Нашай Нівы”. Але толькі ў пачатку XX стагоддзя ў Беларусі пачала складацца *рэгулярная літаратура*. І першым гэта напоўніцу адчуў менавіта Максім Багдановіч. Для яго тэкстаў выключна характэрнае адчуванне “саўдзелу” ў тварэнні нацыі, літаратуры і гісторыі. Ён разумее, што кожнае яго слова — застанецца. І таму патрабуе многага. І ад сябе, і ад іншых (бескампраміснасць у крытыцы), ведаючы, што менавіта ў дадзены момант можна вельмі многае вырашыць і змяніць. Дарэчы, падобная сітуацыя адбывалася ў часы рускіх класіцыстаў і, пазней, Пушкіна — сітуацыя тварэння рэгулярнай літаратуры як сістэмы, а таксама выбудоўванне літаратурнай іерархіі.

Багдановіч ініцыюе мадэрнізацыю нацыянальнай літаратуры, пашырэнне яе межаў і паглыбленне перспектывы, выхад на поліфанічнасць праз вызваленне ад штампаў і рыторыкі дамінантнай багушэвічаўскай плыні.

Пякельная праца... Возьмем у рукі, узважым дыхтоўны трохтомнік паэта. Ці многія ў 25 гадоў могуць пахваліцца хаця б падобным аб’ёмам напісанага і перакладзенага? Не кажучы ўжо пра якасць і разнастайнасць… І гэта ж яшчэ далёка не ўсё. Варта прыгадаць зніклы ў гады Вялікай Айчыннай архіў паэта, а таксама тыя кашы з паперамі, якія паўдня выносілі на сметнік родныя Багдановіча пасля ад’езду таго ў Мінск у 1916 г.

Такая ўсёпаглынальная праца вялася Багдановічам менавіта праз усведамленне адказнасці перад нацыяй. Адказнасці за кожнае слова. Ён разумеў, што можа змяніць эстэтыку, заняць нішу — і рабіў гэта. Што такое цыклы вершаў у “Вянку”, як не заваяваныя Багдановічам надзелы мастацкай рэчаіснасці: міфалогія, гісторыя, горад. Голле Багдановічавага дрэва паэтыкі — незавершанае ў прасторы і часе. Яно дагэтуль прырастае наступнікамі, якія рэалізоўваюць нерэалізаванае, здзяйсняюць не здзейсненае паэтам.

З усіх эстэтычных плыняў ён выбіраў лепшае для сябе: з класіцызму — увагу да формы, антычныя матывы, з рамантызму — пачуццёвасць, з народніцтва — грамадзянскі пафас, з сімвалізму і акмеізму — шматслойнасць і ў той жа час канкрэтнасць вобраза. Але найперш — класіцызм. Ён дае асновы, спосабы вершавання, задае паэту планку. Багдановіч пераносіць агульныя правілы паэтыкі ў беларускі дыскурс. Нібы гімназічны настаўнік каля дошкі, ён вучыць паэтаў-самавукаў вершаваць правільна. Багдановіч нібыта запэўнівае і чытачоў, і сябе: “Я не Моцарт, я — Сальеры, я проста даю прыклад дакладнасці ў тэхніцы”. “Вянок”, па сутнасці, з’яўляецца хрэстаматыяй, падручнікам “Ars poetica” для паэта-пачаткоўца. Тут справа не толькі ў тэматычнай разнастайнасці. Гэта ўзорна-паказальны зборнік у многіх адносінах. Багдановіч патрабуе разнастайнасці і дакладнасці: каб санет быў санетам, каб думка выказвалася ясна, каб вытрымліваліся рытм, рыфма і памер. Аднак сам для сябе ён песціць значна больш напалеонаўскія планы. Ён хоча стварыць сістэму, якая б працавала. Бясспрэчны тут уплыў Андрэя Белага (кніга “Символизм”, 1910), але і не толькі яго. Стварыць трывалую светапоглядную і эстэтычную сістэму — памкненне ці не кожнага буйнога творцы часоў сімвалізму і постсімвалізму. Пытанні філасофска-светапогляднага характару, філасофскія пабудовы наогул у Багдановіча выяўлены слаба. Амаль усе тэарэтычныя выкладкі выпрабоўваліся ім на практыцы, тэорыя вельмі рэдка выстаўлялася напаказ.

Багдановіч, як ужо сказана вышэй, — не толькі класіцыст. Наадварот, ён палемізуе з цвердалобай маналітнасцю іх дактрын. Ён кажа, што пры дасканалай форме патрэбна яшчэ “хваля пачуцця”, “краса” (гэта сінтэз класічнай і рамантычнай плыні, але ці не схіляецца ўсё ж такі Багдановіч пры гэтым да класікі, да падпарадкавання і пачуцця, і эмоцыі майстэрству паэта?). Аднак праз гэтую палеміку (“Ліст да Вацлава Ластоўскага”) відаць і наследаванні. Асабліва кнізе Буало — лёгкай, свабоднай кнізе, вольнай ад якой-кольвек забранзавеласці.

Праз 120 гадоў пасля нараджэння цяжка нават уявіць, што быў у нашай літаратуры час, калі апісанне паэтам таго, як ён сеў на лаву, газету свежую купіў і прачытаў усё да імені выдаўца — было ў паэзіі нонсэнс. Праверныя народнікі, кшталту шляхціца Ядвігіна Ш., які і ў горадзе падкрэслена хадзіў у лапцях і світцы, не маглі падобным вершам узрадавацца. Але сёння такі сюжэт нікога не здзівіць. Багдановіч незаўважна перамог усіх сваіх апанентаў, і першы доказ гэтаму — тое, што мы не адчуваем гэтай перамогі, настолькі глыбока яна ўвайшла ў свядомасць.

* * *

Трэба адзначыць, што сёлетняе святкаванне багдановічаўскага юбілею было беспрэцэдэнтным па маштабе. Акрамя ўласна святочных мерапрыемстваў выдавецтвамі быў выпушчаны цэлы шэраг выдатных кніг, якія даўно былі патрэбныя для лепшага асэнсавання творчасці класіка. Сярод іх трэба, безумоўна, вылучыць энцыклапедыю “Максім Багдановіч”, а таксама мультымедыйны дыск, падрыхтаваны Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Застаецца толькі пажадаць, каб і наступны, юбілейны для Купалы і Коласа год, быў не менш плённы для нашай культуры.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ “Аб некаторых пытаннях падрыхтоўкі і атэстацыі навуковых супрацоўнікаў вышэйшай кваліфікацыі”, згодна з якім беларускія навукоўцы атрымліваюць магчымасць абароны доктарскай дысертацыі без кандыдацкай ступені пры наяўнасці высокіх навуковых дасягненняў. Прадугледжаны яшчэ цэлы шэраг новых патрабаванняў да атэстацыі навуковых кадраў: наяўнасць у доктарскіх дысертацыях вынікаў сусветнага ўзроўню; дэбюракратызацыя асобных працэдур праходжання атэстацыі; магчымасць абароны дысертацый на замежнай мове і іншае.

✔ Кіраўнік дзяржавы падпісаў указ аб узнагароджанні Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі Лу Гуйчэна ордэнам Францыска Скарыны за значны асабісты ўнёсак у развіццё і ўмацаванне палітычных, эканамічных, навуковых і культурных сувязей паміж нашымі дзяржавамі.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў дзяржаўнымі ўзнагародамі дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу чацвёртага склікання за плённую дзяржаўную і грамадскую дзейнасць, значны ўнёсак у развіццё заканадаўства і парламентарызму. У тым ліку ордэнам Францыска Скарыны ўзнагароджаны старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Уладзімір Здановіч; медалём “За працоўныя заслугі” — архітэктар, старшыня Пастаяннай камісіі па жыллёвай палітыцы, будаўніцтве, гандлі і прыватызацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Галіна Палянская.

✔ Урачыстая імпрэза і ўскладанне кветак да помніка Максіму Багдановічу праходзіць сёння ў Мінску. У мерапрыемстве бяруць удзел прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, творчая інтэлігенцыя.

✔ У Варшаве ўрачыста адкрыты Культурны цэнтр Беларусі. У цырымоніі ўзялі ўдзел Міністр культуры Беларусі Павел Латушка, прадстаўнікі пасольства і ў Польшчы, дзеячы культуры і мастацтва. Цэнтр будзе спрыяць больш шырокаму прадстаўленню беларускай культуры ў суседняй краіне, узмацненню беларуска-польскіх культурных сувязей.

✔ Кніга нашай землячкі, публіцысткі Святланы Алексіевіч “У вайны не жаночае аблічча”, напісаная ёю яшчэ ў савецкія часы, узнагароджана літаратурнай прэміяй “Angelus”. Прэмія лічыцца даволі прэстыжнай. Яна прысуджаецца аўтару найлепшай кнігі з тых, што выйшлі на польскай мове ў папярэдні год. Выдаўцы могуць вылучаць на яе жывых аўтараў з 21 краіны Цэнтральнай Еўропы.

✔ Рэканструкцыю будынка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы плануецца завяршыць восенню 2012 года. Тэатру вернуць выгляд, які ён меў да рэстаўрацыі ў 1950-х гадах, і ўстановяць сучаснае абсталяванне.

✔ Па блаславенні вікарыя Мінскай епархіі епіскапа Барысаўскага Веніяміна і пры падтрымцы Мінскага Петрапаўлаўскага сабора пры Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі будзе дзейнічаць студыя іканапісу.

**Падрыхтавала Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

# Наша моладзь — лепшая!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Дарэчы, з вуснаў многіх удзельнікаў сустрэчы прагучала думка, што яны хочуць жыць толькі на сваёй зямлі. І хаця многія з іх як пераможцы міжнародных конкурсаў і гастралюючыя артысты больш вядомыя менавіта за мяжой, творчая моладзь адчувае падтрымку беларускай дзяржавы і імкнецца вяртацца дадому. “Стварайце ў інтарэсах свайго народа, дзе б вы ні былі. Каб потым не было балюча і крыўдна, помніце пра свой кавалак зямлі, нават калі вы будзеце зарабляць грошы ў іншай краіне. Помніце, адкуль вашы карані. Не сварыцеся са сваёй краінай, з яе прынцыпамі і ідэаламі, якімі яны ні былі б”, — заклікаў Аляксандр Лукашэнка. На прыкладах нашай гісторыі і культуры варта выхоўваць мастакоў-патрыётаў, на думку Міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі. Апошні не толькі распавёў пра тое, што робіцца ў нас для развіцця творчых асоб, але і акрэсліў канкрэтныя задачы, сярод якіх прыцягненне прыватных сродкаў і фарміраванне пры ўстановах культуры апякунскіх саветаў з прадстаўнікоў банкаў і прыватнага бізнесу, а таксама распрацоўка і ўкараненне мэтавага падыходу да фінансавання ідэй і праектаў моладзі: “ад кіравання выдаткамі — да кіравання вынікамі”.



Фота БелТА

А ўвогуле і Прэзідэнт, і ўсе прысутныя на сустрэчы прадстаўнікі ўлады разумеюць, што для творчага чалавека найбольш важнае — прызнанне і падтрымка на самым пачатку гэтага няпростага шляху. Так, кіраўнік тэатра сучаснай харэаграфіі “D.O.Z.SK.I” Дзмітрый Залескі выказаў удзячнасць Прэзідэнту за падтрымку пазашкольнага навучання, а спявачкі Алена Ланская і Анастасія Віннікава ўзгадалі, як важна ім было ў свой час пачуць ухвальнае слова Кіраўніка дзяржавы.

Адна з праблем, якая паўстала падчас абмеркавання, — тое, што часам самі маладыя людзі не ведаюць пра існаванне адпаведных суполак і творчых цэнтраў. Магчыма, якраз 1 снежня многія знайшлі адно аднаго і надалей будуць працаваць разам.

Зразумела, не ўсе прапановы атрымалі падтрымку Кіраўніка дзяржавы, аднак галоўнае — Прэзідэнт яшчэ раз адзначыў, што “наша моладзь — лепшая”, а значыць, мы хутка ўбачым вынікі працы ў выглядзе мастацкіх твораў і прызоў на самых пачэсных сусветных конкурсах! А яшчэ Аляксандр Рыгоравіч прызнаўся, што важнасць падобных сустрэч для яго заключаецца не толькі ў вырашэнні агучаных праблем, але і ў тым уплыве, які творчая моладзь аказвае і на яго…

**Таццяна СІВЕЦ**

***На здымку: Аляксандр Лукашэнка падчас наведвання выстаўкі.***

## Адкрыты ліст

# Культура навыварат, або Як Саюз беларускіх пісьменнікаў рыхтуецца да справаздачнага з’езда

На некаторых інтэрнэт-сайтах напярэдадні з’езда Саюза беларускіх пісьменнікаў, які павінен адбыцца 10 снежня 2011 г., з’явіліся звесткі пра тое, што старшыня рэвізійнай камісіі СБП, адзін са старэйшых членаў гэтай творчай арганізацыі Васіль Цімафеевіч Якавенка, выключаны з яе складу. Матывам выключэння абвешчана яго членства ў паралельным Саюзе пісьменнікаў Беларусі. У сувязі з гэтым лічым неабходным заявіць наступнае. Прычына выключэння В. Якавенкі з’яўляецца надуманай. Пазбаўленне голасу старшыні рэвізійнай камісіі перад справаздачным з’ездам — з’ява ў жыцці грамадскіх арганізацый беспрэцэдэнтная, і адбылася яна зусім па іншых прычынах.

Васіль Якавенка ўжо амаль паўвека шчыруе на ніве беларускай літаратуры, з’яўляецца на сённяшні дзень адзіным законна абраным старшынёй рэвізійнай камісіі СБП, якая ўскрыла сур’ёзныя арганізацыйныя і фінансавыя парушэнні ў рабоце кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі, пра што ў друку ўжо паведамлялася (гл. ”ЛіМ“ за 24 снежня 2010 г.). Аднак Рада СБП прынцыповай ацэнкі ўскрытым фактам і парушэнням фінансавай дысцыпліны з боку старшыні А. Пашкевіча і яго намеснікаў не дала. Наадварот, спрыяла ім і неадназова шантажыравала рэвізійную камісію.

Нам відавочна, што цяпер, перад чарговым справаздачна-выбарчым з’ездам СБП, каб пазбавіць В. Якавенку магчымасці выступіць з крытычным дакладам, старшыня СБП і ягоныя намеснікі дамагліся выключэння вядомага літаратара з пісьменніцкай арганізацыі, на што Статут СБП, уласна, не дае ніякіх падстаў. Пры выключэнні Якавенкі прысутнічалі не ўсе сябры Рады. Такім чынам, грамадству прадэманстравана культура навыварат.

У мутнай вадзе добра лавіць рыбу. Кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў не раз заяўляла ледзь не пра палітычную арыентацыю арганізацыі, а на справе аказалася ў фінансава-карпаратыўным хаўрусе. На вачах у грамадскасці прайшла прыватызацыя пісьменніцкага аб’яднання, кіраўніцтву на развіццё арганізацыі стала напляваць. У гэтай сувязі звернем увагу толькі на адну акалічнасць: кіраўніцтва СБП не выканана пастанову Рады ад 10.07.2008 г. аб стварэнні новага аб’яднання — правапераемніка Беллітфонду, ліквідаванага Вярхоўным судом. У выніку маёмасныя прэтэнзіі на сродкі ад продажу Дома творчасці “Іслач” не былі заяўленыя, і, з-за нядбайства старшыні СБП, пісьменніцкія грошы пералічылі ў бюджэт. Наша сённяшняя перапіска з Генеральнай пракуратурай і Вярхоўным судом сведчыць пра тое, што грошы Беллітфонду было магчыма атрымаць. Гэта пытанне правасуддзем не закрыта і на сёння.

Але ці толькі матэрыяльнымі стратамі вымяраецца шкода, якую нанеслі старшыня і яго намеснікі ўсім беларускім пісьменнікам? Кіраўніцтва СБП вывезла з Дома літаратара і кінула ў аварыйнае і залітае вадой памяшканне на Іслачы каля сотні партрэтаў пісьменнікаў, класікаў беларускай і савецкай літаратуры. На трывожныя сігналы адтуль, што карціны і апроч іх 2 тысячы падтопленых кніг гінуць, — не было ніякай рэакцыі. Занепакоены В. Якавенка, ахвяруючы сваімі сродкамі і часам, вывез адтуль і перадаў па акце Лідскаму дзяржаўнаму музею на рэстаўрацыю і захоўванне партрэты пісьменнікаў, а рэдакцыі “Наша слова” — збуцвелыя кнігі. Невядомы сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў і лёс архіва арганізацыі.

На ўсе недахопы ў дзейнасці кіраўніцтва старшыня рэвізійнай камісіі звяртаў своечасовую ўвагу. Ён і цяпер прытрымліваецца прынцыповай пазіцыі, што старэйшая пісьменніцкая арганізацыя павінна стаяць на падмурку дэмакратыі і адкрыта служыць народу. У яго два дзясяткі кніг, творчы грунт і аўтарытэт. Грамадскі дзеяч. Дастаткова прыгадаць яго мужнасць і прынцыповасць пры выданні сацыяльна-экалагічнай газеты “Набат”. Яго ж намаганнямі пры падтрымцы Саюза пісьменнікаў Беларусі напрыканцы васьмідзясятых спынены дзеянні цэлай арміі меліяратараў на Палессі, якія ўзяліся былі выпрамляць і абвалоўваць раку Прыпяць, асушаць шырокую прыпяцкую пойму, што проста вяло да экалагічнай катастрофы, другой пасля Чарнобыля.

Такім літаратарам беларускае грамадства, а тым больш СБП, можа толькі ганарыцца.

Мы звяртаемся да ўсіх сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў уважліва разабрацца ў сітуацыі, аднавіць В. Якавенку ў пісьменніцкай арганізацыі і даць заслужаную ацэнку дзейнасці кіраўніцтва СБП.

А што да Саюза пісьменнікаў Беларусі, які ў 2006 годзе адгалінаваўся ад СБП, то і там шмат годных і таленавітых літаратараў і яны робяць карысную справу. Таму кіраўніцтву СБП не варта пагарджаць ні імі, ні іхняй пісьменніцкай арганізацыяй, ні літаратарамі, якія, зрэшты, не ўваходзяць ні ў адзін з пісьменніцкіх саюзаў.

**Віктар ХУРСІК, пісьменнік, выдавец, сябра Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў;**

**Эрнест ЯЛУГІН, пісьменнік, нам. старшыні Беллітфонду ў 2006 — 2009 гадах;**

**Аляксей РАГУЛЯ, прафесар культуралогіі, літаратуразнаўца, сябра рэвізійнай камісіі Саюза беларускіх пісьменнікаў**

## Рэдкалегія

# «ЛіМ» і сучаснасць: ад лірыкі да прозы жыцця

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

**Пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі газеты “Літаратура і мастацтва” прайшло пад старшынствам новага галоўнага рэдактара Таццяны Сівец.**

Якім быць “ЛіМу”-2012? Што захаваць і ад чаго адмовіцца? Якія праблемна-тэматычныя кірункі лічыць галоўнымі? На гэтыя і іншыя пытанні шукалі адказы ўдзельнікі сустрэчы. Яна, дарэчы, была запланаванай і неабходнай. Заканчваецца год, і пачынаецца падпісная кампанія. Настае адказны момант для чытача, калі ён павінен вызначыцца, якую газету выпісаць.

Выступоўцы падкрэслілі: “ЛіМ” стане цікавейшым, калі пачне засяроджваць увагу на самых важных момантах сучаснага жыцця. Пры гэтым нельга абыходзіць вострых тэм, трэба не заігрываць з чытачом, а гаварыць яму праўду.

Акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзімір Гніламёдаў, у прыватнасці, зазначыў:

— Апошнім часам у газеце публікуецца шмат інфармацыйных матэрыялаў пра прэзентацыі, выстаўкі, канцэрты, сустрэчы рознага кшталту і мала глыбокіх аналітычных артыкулаў аб праблемах развіцця літаратуры і мастацтва. Больш за тое, для некаторых з іх характэрны ментарскі тон, дэмагагічныя прыёмы, безадраснасць, словаблуддзе, абразлівыя выпады ў адрас апанента. Такім аўтарам варта закрыць шлях на старонкі “ЛіМа”. Крытыка, палеміка павінны быць канструктыўнымі, сцвярджальнымі і стваральнымі.

На думку Віктара Гардзея, абсалютная большасць вершаў, якія паступаюць у рэдакцыю, ніжэй “нулявой адзнакі”. З кожным разам скампанаваць старонку паэзіі становіцца ўсё цяжэй. “ЛіМ” — газета творчай інтэлігенцыі, таму, на думку пісьменніка, трэба часцей даваць слова прафесійным паэтам, а не выпадковым “шукальнікам” удачы.

Слушным было меркаванне начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Уладзіміра Шаўлёва: варта актыўней прапагандаваць роднае слова, вырашаць праблему чытання, асабліва сярод моладзі. Навучальныя ўстановы сферы культуры гатовы абмяркаваць гэтыя пытанні падчас дыскусій, “прамых ліній”, сустрэч за “круглым сталом”.

Члены рэдкалегіі Алесь Бадак, Святлана Берасцень, Алесь Марціновіч і іншыя раілі супрацоўнікам рэдакцыі для прапаганды газеты выкарыстоўваць Інтэрнэт, часцей бываць у творчых калектывах, сярод сваіх патэнцыяльных падпісчыкаў, паляпшаць сувязі з аўтарскім актывам.

Усе прапановы, якія прагучалі на пасяджэнні рэдкалегіі, абагульнены і знойдуць сваё адлюстраванне на старонках штотыднёвіка.

Літабсягі

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Людмілы Ганчаровай

**Стогадовы юбілей аднаго з выбітных пісьменнікаў XX стагоддзя Міколы Лобана ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры быў адзначаны адкрыццём экспазіцыі, прысвечанай яго жыццю і творчасці. Адбылася і ўрачыстая вечарына — другое мерапрыемства ў шэрагу запланаванага музеем праекта "Дыяменты беларускай літаратуры".**

# Нераскрытым і нерасчытаным

Ідэя праекта належыць супрацоўніцы музея Валянціне Ціханавецкай: "Хочацца нагадаць пра пісьменнікаў, якія зрабілі значны ўнёсак у беларускую літаратуру, беларускую культуру і з дня народзінаў якіх споўнілася сто год. У нашых фондах захоўваюцца вельмі цікавыя архівы літаратараў, і ў межах гэтага праекта мы можам знаёміць з імі наведвальнікаў музея. Першым адзначылі юбілей Алеся Зарыцкага. Нераскрытыя і нерасчытаныя — гэта можна аднесці да творчасці і Зарыцкага, і Міколы Лобана. Трэба, каб іх ведалі, беларускай літаратурай ганарыліся".

Вольга Гуляева, вядучая вечарыны, нагадала галоўныя вехі жыцця Міколы Паўлавіча, больш як трыццацігадовую працу ў Акадэміі навук, яго асноўныя творы: трылогію "Шэметы", "Пяць раніц тыдня" і інш.

Стогадовы юбілей — гэта не толькі нагода перачытаць і асэнсавацьпакінутуюпісьменнікам спадчыну. Вартая ўвагі дата: яшчэ можна сабраць у адной зале тых, хто асабіста ведаў пісьменніка — яго маладзейшых сяброў і калег, іх дзяцей. З радасцю прыгадвалі значныя для біяграфіі юбіляра факты і падзеі Т. Грахоўская, Г. Далідовіч, Т. Тарасава, А. Булыка, А. Вярцінскі, У. Мехаў, А. Саламаха. Таццяна Грахоўская зачытала ўрыўкі з дзённіка бацькі. Сяргей Грахоўскі называў Міколу Паўлавіча "чалавекам рэдкай чысціні і сумлення". Яго адказнасць у карпатлівай працы над укладаннем слоўнікаў узгадвалі супрацоўнікі Акадэміі навук. Пра працавітасць, прамату і шчырасць гэтай асобы гаварыў кожны з выступоўцаў.



Чалавек жывы, пакуль жыве памяць пра яго. Дзякуючы намаганням дачок Міколы Лобана, яго сяброў і супрацоўнікаў музея прыхільнікаў творчасці пісьменніка паболее.

***На здымку: Таццяна Грахоўская згадвае пра сяброўства Міколы Лобана і Сяргея Грахоўскага.***

Артлінія

# Мінск і Яраславія

**Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Барыс Аракчэеў адзначае сваё 85-годдзе чарадой персанальных выставак. Адна з іх разгарнулася ў не так даўно створаным Музеі гісторыі горада Мінска. У самой назве тэматычнай экспазіцыі — "Мінск Барыса Аракчэева" — нібы люструецца трапяткое і паважнае пачуццё мастака да галоўнага горада ў яго жыцці. Так, з гэтым горадам ужо без малога сем дзесяцігоддзяў спакроўлена душа Барыса Уладзіміравіча, у якой, аднак, не аціхае мелодыя любові да роднага кутка ў далёкім расійскім Паволжы — вёскі Турбанава, што на Яраслаўшчыне...**



Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

На вернісажы "Мінск Барыса Аракчэева" майстар падараваў маладому музею чатыры маштабныя жывапісныя палотны — як знак удзячнасці беларускай сталіцы, што сталася яго лёсам. Міжволі падумалася: а ў свой жа час і Літаратурны музей Максіма Багдановіча прымаў шчодры творчы дарунак ад Барыса Уладзіміравіча, якога з вялікім нашым паэтам паяднаў дух паволжскай зямлі, старажытнага Яраслаўля! Дарэчы, залетась у гэтым літаратурна-музейным асяродку ладзілася вялікая экспазіцыя жывапісу Барыса Аракчэева "Мая Яраславія". Гледачы дзівіліся на тэматычныя творы з фондаў музея Максіма Багдановіча, што паўсталі ў атачэнні размаітых пейзажаў — выяў яраслаўскіх ваколіц, маляўнічых гарадскіх куткоў, шматлікіх цэркваў. А мастак прыгадваў, як у 1944-м ваенны лёс прывёў яго, маладога вайскоўца, у Беларусь. І распавёў пра тое, як непарыўная духоўная лучнасць з роднай паволжскай зямлёй набыла для яго асаблівы сэнс, калі тут, у Мінску, Барыс Уладзіміравіч адкрыў для сябе паэтычны свет Максіма Багдановіча.

"Я ўдзячны жонцы, якая дала мне магчымасць мэтанакіравана папрацаваць, паехаць на пару месяцаў у мясціны майго дзяцінства і ранняга юнацтва, пабываць у Яраслаўлі, пахадзіць там, вобразна кажучы, ужо і сцежкамі Максіма Багдановіча, — успамінае мастак. — Калі б не было гэтага гіганта духу, дык не было б і многіх маіх твораў. Я пачаў наведвацца ў Яраслаўль і пісаць, імкнучыся ўявіць горад такім, якім бачыў яго беларускі паэт". Старажытныя сцены яраслаўскага крамля; гімназія, дзе вучыўся Максім, і рэканструяваны на палатне, дзякуючы архівам, ліцэй; дом на беразе Волгі; славуты драматычны тэатр імя Волкава... Мінск і Яраслаўль містычным чынам звязалі пуцявіны двух творцаў. А праз палотны Б. Аракчэева мы адкрывалі "сваю Яраславію".

Выстаўка "Мінск Барыса Аракчэева", якая ўяўляе сабой унікальны маляўнічы летапіс галоўнага горада краіны ад першых пасляваенных гадоў да нашых дзён, уключае і рэтраспектыву ранніх графічных накідаў, эцюдаў, і лепшыя карціны, створаныя ў розны час, і зусім новыя палотны майстра. Яна прабудзе ў музеі да 11 снежня.

***На здымку: Барыс Аракчэеў "Дом у Яраслаўлі, дзе жыла сям'я Багдановічаў" (палатно, алей). 1981 год.***

Повязі

# Багдановіча помняць у Ялце

Максім ВАЛОШКА,
фота аўтара

**2 і 3 снежня ў Ялце адзначылі 120-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. На свята завіталі як госці з Беларусі — дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску Таццяна Шэляговіч, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп і пісьменнік Анатоль Бутэвіч, — так і прыхільнікі таленту нашага класіка, якія прыехалі за сотні кіламетраў — з Севастопаля, Запарожжа, Феадосіі ды іншых мясцін.**



Галоўнымі падзеямі гэтых дзён сталі адкрыццё ў гісторыка-літаратурным музеі спецыяльнай выстаўкі "Геній зямлі беларускай" з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску, сустрэча са студэнтамі-філолагамі Крымскага гуманітарнага ўніверсітэта і яго рэктарам Аляксандрам Глузманам, а таксама мітынг-рэквіем на Старых гарадскіх могілках Ялты, дзе восьь ужо 94 гады спачывае Максім Багдановіч.

Яшчэ адну выстаўку — "Маладыя гады — маладыя жаданні" — навучэнцаў Ялцінскай дзіцячай мастацкай школы, дзе кожны твор атрымаў своеасаблівы эпіграф з вершаў Максіма Багдановіча, у хуткім часе змогуць пабачыць і ў Мінску — гэтую ідэю падтрымала Таццяна Шэляговіч.

Рэдактар часопіса "Крым — Беларусь" Дзіна Шаўчэнка падзялілася прыемнай навіной з Ялцінскага Нікіцкага батанічнага сада: яго кіраўніцтва прыняло рашэнне адзін з новых гатункаў цюльпана, які мае валошкавы колер, назваць імем Максіма Багдановіча.

Удзельнікі святочных імпрэз усклалі кветкі да памятнай дошкі на будынку клуба, на месцы якога некалі стаяў дом, дзе паэт правёў апошнія дні, да дошкі на вуліцы імя Максіма Багдановіча, дзе ён жыў у 1909 годзе, да помніка паэту на тэрыторыі санаторыя "Беларусь" у Місхоры.

Акрамя таго, у Ялце было прэзентавана і зусім новае арыгінальнае выданне твораў Максіма Багдановіча, выпушчанае Беларускім фондам культуры. Гэта багата ілюстраваны трохтомнік, у кожную кнігу якога ўвайшло па адным вершы паэта з перакладамі на 9 замежных моў. А вершы гэтыя — "Слуцкія ткачыхі", "Пагоня" і "Раманс (***Зорка Венера ўзышла над зямлёю…)". Украінскім навучэнцам і беларускім суполкам былі перададзены бібліятэчкі твораў Максіма Багдановіча, літаратуры пра яго.

Наогул, як адзначыла Таццяна Шэляговіч, "усё, што адбылося за гэтыя два дні ў Ялце, варта светлай памяці і таленту Максіма Багдановіча". І гэта праўда.

***На здымку: падчас ускладання кветак да помніка Максіма Багдановіча.***

З-пад пяра

➤ У межах шматлікіх мерапрыемстваў з нагоды 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча на базе сталічнай гімназіі № 14 прайшоў заключны этап конкурсу творчых работ вучняў Завадскога раёна г. Мінска, прысвечаных даследаванню спадчыны класіка беларускай літаратуры. Лепшымі прызнаны работы Юлі Гарбуз і Міхаіла Смольскага з гімназіі № 14, а таксама Наталлі Тараско з СШ № 186. Пераможцы прадставяць свае работы на навуковай канферэнцыі ў БДПУ імя М. Танка.

**Анатоль ЗАРЭЦКІ**

➤ Усе мерапрыемствы, якія ладзіліся ў СШ № 191 г. Мінска ў межах Тыдня беларускай мовы і літаратуры, былі прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Сярод іх — конкурсы эрудытаў, насценных газет і творчых вучнёўскіх работ, літаратурная віктарына і музейны ўрок па творчасці паэта. Завяршыўся тыдзень конкурсам чытальнікаў, на якім у выкананні вучняў прагучалі паэтычныя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Канстанцы Буйло, Васіля Віткі, Алеся Ставера, Яўгеніі Янішчыц. З асаблівай увагай слухалі школьнікі выступленне госця і адначасова члена журы конкурсу чытальнікаў пісьменніка Анатоля Зэкава.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

➤ Даўно і плённа супрацоўнічаюць Мінскі гарадскі прафесійна-тэхнічны каледж дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя М. А. Кедышкі і публічная бібліятэка № 1 імя Л. М. Талстога г. Мінска. Нядаўна навучэнцы каледжа зноў завіталі ў бібліятэку, каб сустрэцца з выкладчыкам Белдзяржуніверсітэта, кандыдатам філалагічных навук, даследчыкам беларускай літаратуры Анатолем Вераб'ём. Сустрэча была прымеркавана да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. З цікавасцю слухала моладзь аповед пра жыццёвы і творчы шлях слаўнага сына Беларусі, гучалі цудоўныя вершы паэта.

**Тамара ЗАЙЦАВА**

➤ У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа прайшла вечарына, прысвечаная вядомаму беларускаму пісьменніку, крытыку, літаратуразнаўцу Алесю Марціновічу. Адкрыла яе дырэктар музея Зінаіда Камароўская. Сярод выступоўцаў таксама адзначыліся сябры і калегі пісьменніка — Міхась Колас, Мікола Жыгоцкі, Вадзім Спрынчан, Павел Саковіч, Юлія Зарэцкая. А самыя цікаўныя госці змаглі пазнаёміцца з выстаўкай кніг А. Марціновіча.

**Дар'я ШОЦІК**

➤ У Рэспубліканскім інстытуце кітаязнаўства імя Канфуцыя Белдзяржуніверсітэта нарадзіўся новы творчы праект — пастаянна дзеючы семінар мастацкага перакладу з кітайскай мовы, які аб'яднаў студэнтаў і выкладчыкаў факультэта міжнародных адносін і філалагічнага факультэта БДУ. У многіх з маладых кітаязнаўцаў-перакладчыкаў ужо ёсць вопыт. Алена Раманоўская пераклала на беларускую мову вершы Ван Вэя. Святлана Казакевіч увасобіла на рускай мове паэтычныя творы Сюй Чжымо. У полі зроку іншых маладых перакладчыкаў творчасць вядомых сучасных пісьменнікаў Кітая: Юй Хуа, Бі Фэйлюя, Ван Аны, Цань Сюэ, Мэн Кэ, Чжан Айліна і іншых. Не выключана, што наперадзе ў беларускіх перакладчыкаў — выданне калектыўнага зборніка.

**Сяргей ШЫЧКО**

Марына ВЕСЯЛУХА

# Горада чароўныя прынады

**Сярод мноства адкрытых Максімам Багдановічам шляхоў і творчых кірункаў вылучаецца ўрбаністычная тэма. Зварот да яе быў наватарскім і чаканым адначасова. Чаканым — бо, у адрозненне ад большасці беларускіх пісьменнікаў, выхадцаў пераважна з сялянскіх нізоў, Багдановіч — інтэлігент у другім калене. Наватарскім — бо менавіта ён стаў першым паэтам, які свядома, а не выпадкова звярнуўся да ўрбаністычнай тэмы. У яго вершах дэталі жыцця горада з'яўляюцца не стыхійна, а цалкам прадумана і сістэмна, яны, акрамя прамой намінацыі, нясуць яшчэ і дадатковы філасофскі сэнс, паказваюць глыбіню разумення паэтам самой сутнасці горада як з'явы культуры.**

Захопленасць паэта гарадской культурай паўплывала на стварэнне ім не толькі нізкі "Места", але і шэрагу іншых вершаў. Багдановіч, у адрозненне ад іншых, бачыў красу не толькі ў прыродзе, але і ў архітэктуры, пабудове вуліц, чуў прыгажосць у гукание, што нараджаўся ад руху фурманкі па бруку. Дарэчы, і старую Беларусь Багдановіч бачыў гарадской. Так, у вершы "Агата", які не ўвайшоў у нізку "Старая Беларусь" (быў напісаны пазней), але, паводле меркавання Р. Бярозкіна, "горнецца да яе і гістарычным матэрыялам, і сродкамі, і метадамі яго асэнсавання", дзеянне адбываецца ў горадзе. Твор пабудаваны на вострым канфлікце. Прысвечаны каханню, ён пачынаецца радкамі пра з'яву жорсткую і фанатычную: вогнішчы каля ратушы, на якіх паляць "ведзьмакоў". Р. Бярозкін заўважае, што сама "ратуша", уведзеная ў сюжэт, адразу лакалізуе дзеянне, замацоўвае яго за беларускім горадам, які да гэтага часу (XV — пачатак XVI ст.) дасягнуў, як сведчаць гісторыкі, значнага эканамічнага развіцця і карыстаўся магдэбургскім правам. Гэта тлумачыць, чаму Багдановіч бачыў "старую Беларусь" пераважна гарадской: гарады былі цэнтрамі беларуска-літоўскага Адраджэння, Рэфармацыі, новай нацыянальнай культуры, у аснове якой ляжалі і нацыянальная самасвядомасць, што ў тую эпоху фарміравалася вельмі інтэнсіўна, і самасвядомасць асобы.

У Вільні Максім Багдановіч упершыню пабываў у 1911 годзе. Гэты горад уразіў яго сваім імклівым жыццём, прыгажосцю, велічнасцю будынкаў. Зачараваны быў М. Багдановіч і самім подыхам гісторыі, што адчуваўся ў Вільні, яе чароўным магнетызмам. Але не толькі гістарычны аспект існавання горада вабіў паэта. Старажытная Вільня ў пачатку XX ст. стала цэнтрам нацыянальнага адраджэння беларусаў. Таму не дзіўна, што для юнака, захопленага ідэяй развіцця на беларускай глебе традыцый сусветнага прыгожага пісьменства, гэты горад стаў сапраўднай крыніцай натхнення. Натхняла Вільня і іншых паэтаў, натхняла незнаёмасцю, дзіўнасцю і слаўным гістарычным мінулым, легендамі, а таксама новымі магчымасцямі, якія з'явіліся тут. М. Багдановіч, які рос і выхоўваўся ў гарадскім інтэлігенцкім асяродку, мог сапраўды зразумець, адчуць красу горада. Больш за тое, далучаны да сусветнай літаратурнай спадчыны, урбаністычнай традыцыі, якая да пачатку XX ст. ужо склалася і стала прысутнічала ў многіх еўрапейскіх літаратурах, ён валодаў і "моўным інструментарыем" перадачы фактаў гарадской рэчаіснасці.

Менавіта Вільні прысвечаны вершаваны цыкл "Места". Лагічнае і гарманічнае "ўпляценне" гэтай нізкі ў структуру і змест "Вянка" забяспечваецца перш за ўсё вершаваным "Уступам". Уступ выконвае некалькі функцый: рыхтуе чытача да пераходу з "прывольных палявых дарог" на вулкі горада і тлумачыць, чаму ж Муза натхніла аўтара на зварот да ўрбаністычнай тэмы: "У грудзі кволья запала // Дачка каменняў, места мне". Важную сэнсавую нагрузку нясе і эпіграф да нізкі — словы з верша В. Брусава: "Ты — чарователь неустанный, // Ты — неслабеющий магнит". Маюць рацыю даследчыкі, якія адзначаюць, што гэтым эпіграфам М. Багдановіч пазначае сваю далучанасць да еўрапейскай і сусветнай урбаністычнай традыцыі.



Мікола Купава, "Вільня".

Імпрэсіяністычны па сваёй скіраванасці верш "Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць…" нібы перадае першыя ўражанні чалавека, які толькі што трапіў у Вільню, апынуўся ў вiры гарадскога жыцця. Успрыманне лірычнага героя з-за хуткасці руху і вялікай колькасці падзей, што адбываюцца, выхопліае толькі асобныя яркія дэталі: "Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць, // Коні мчацца, трамваі трывожна звіняць…" Але заўважае ён не толькі яркасць, багацце і раскошу цэнтральных вуліц, але і кантрасныя ім завулкі з прыкметамі запусцення і незагледжанасці, дзе "Цёмны шыбы глухіх, старасвецкіх будынкаў; // Між каменнямі — мох і сцяблінкі травы…" Лірычны герой глыбока ўсхваляваны і зачараваны пабачаным у горадзе. Ён адчувае нават неўтаймаваны дух кажана, аматара начных прагулак па Вільні: "І не спім мы адны — // Я ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы".

Санет "У Вільні" ідэйным зместам падобны на першы верш нізкі, але ход апісання рэалій горада ў ім больш узважаны, асэнсаваны, рытм запаволены. Калі ў першым вершы карціна атрымліваецца даволі хаатычнай, то ў санеце кожны новы радок, нібы мазок пэндзлем на палатне, дадае дэталёў да адной цэласнай і завершанай карціны. Увага аўтара звернута толькі на "чароўныя прынады" горада, яго прыгажосць. Нават гукі Вільні да чытача даносяцца нібы "прыглушаныя", згладжаныя ўсёй станоўчай і гарманічнай атмасферай санета: "А дальш — за радам кас, ламбардаў, банкаў — // Агні вакзала… павадка фурманкаў… // Віры людзей… сіпішчы паравоз…"

М. Багдановіч першы ў нашай паэзіі эстэтычна адкрываў, асвойваў, абжываў свет беларускага горада. Верш "За дахамі места памеркла нябёс пазалота", на першы погляд, найбольш гарманічны ў гэтым радзе. Кантрасты і супярэчнасці горада тут нібы згладжаны, прыглушаны вячэрнім "ціха гусцеючым мрокам", ён уключаны ў агульную гарманічную карціну свету, дзе штучнае, урбаністычнае не засціць спрадвечна прыроднага: "за дахамі места" відаць "нябёс пазалота", а поруч з іскрамі, што "злятаюць з трамвайнага дрота", "бачна, як зоркі гараць і зрываюцца ў небе далёкім". Т. Чабан заўважыла: "гэта падманная гармонія ў свеце ўяўных каштоўнасцей і штучнага святла, дзе трамвайныя іскры могуць здавацца зоркамі, і вулічны ліхтар — сонцам, дзе душа "к светлу прабіцца не можа… і томіцца марна".

М. Багдановіч гэтак, разам з А. Блокам, прыняў горад як свет сацыяльных супярэчнасцей і кантрастаў. Тут сканцэнтравана прыродная і народная стыхія —"мора гора", гневу, болю. Паэт адчуў пагрозлівы падземны гул стыхіі, які чыжэ ніхто, апроч яго, не чуе. Гэтыя свае адчуванні ён выказаў у вершы "На глухіх вулках ноч глухая…". Матыў раўнадушша, "глухасці" гарадскіх жыхароў, увасабленне ідэі "места", дзе "прабіла сцежку мору гора", спалучаюцца з думкай пра адсутнасць у горадзе прастору "дзеля прыроды буйных сіл", а значыць, няма месца і для асэнсавання падзей сучаснасці, "глухасць" да іх, да ўсяго свету.

Зачароўвае і ўражвае мастацтвам гукапісу М. Багдановіч у вершы "Завіруха". Рэфрэн "У **бубн**ы дахаў вецер **б'е**, // **Гр**ыміць па ім, **звініць, пяе**" (выдзелена мною. — **М. В.**) стварае асноўны дынамічны настрой верша, вылучае на першы план гукавое афармленне твора. Апісанне ж іншых момантаў завірухі толькі дадае дэталяў, зрокавых вобразаў.

Нягледзячы на ўсю чароўнасць і прыгажосць, горад усё ж стамляе лірычнага героя, асабліва калі на вуліцы спёка. "Ад спёкі пышуць дахі і асфальт, // На вулцы ўецца пыл, і грукацiць фурманка…" — у гэтых радках адчуваецца стома лірычнага героя, чый позірк паверхоўна "слізгае" па агульнай карціне і выхоплівае не тое, што яму падабаецца, а, наадварот, назаляе, перашкаджае думаць: "Хаця бы крышку часу адпачыць!" Паратункам можа стаць толькі чытанне ў адзіноце, на бульвары, на "далёкай лаўцы".

Завяршае нізку "Места" верш "Дзве смерці", эпіграфам да якога стала навіна пра самагубства нейкай Івановай І. І. з Мяшчанскай вуліцы. У гэтым вершы ўздымаецца праблема горада і смерці. "Дзве смерці" перагукаецца з творам рускага сучасніка М. Багдановіча М. Кузьміна, у якім апісана прыгожая смерць-самагубства рымскага патрыцыя. Таму, па сутнасці, першая частка верша "Дзве смерці" — літаратурная рэмінісцэнцыя з "Александрийских песен" Кузьміна. Другая — уласна багдановічаўская, пра іншую смерць — самагубства жанчыны з вуліцы Мяшчанскай. Штучнасць, канцэнтрацыя горада, якая паглынае, разувасабляе, — ці не тая небяспечная атрута, што губіць чалавека. Можа, стаць І. І. Івановай з вуліцы Мяшчанскай — гэта тая ступень разувасаблення асобы, якая сама па сабе роўная смерці. Мабыць, паэт прадчуваў тыя праблемы ўрбанізацыі, якія на пачатку XX ст. ледзь пазначаліся, каб стаць небяспечнымі і драматычнымі ў канцы яго.

У нізцы "Места" і некаторых іншых творах М. Багдановіч звярнуўся да помнікаў архітэктуры Вільні, яе гістарычна-культурнага аблічча. Настрой супакаення перадае аўтар у вершы "Касцёл Св. Ганны ў Вільні". Яму здаецца, што каля касцёла Св. Ганны могуць нават "сціхнуць сэрца раны" і "нікнуць сцені цяжкіх дум". Пасля М. Багдановіча гатычны касцёл апявалі многія беларускія паэты.

Да вобраза яшчэ аднаго сімвала тагачаснай беларускай сталіцы — Вострай Брамы — звярнуўся М. Багдановіч у вершы "Пагоня". Менавіта сузіранне старажытнага беларускага герба "Пагоня" на Вострай Браме натхніла паэта на стварэнне сапраўднага паэтычнага гімна. Перад намі нібы ажывае далёкае мінулае, паэт згадвае гераічную славу продкаў і гаворыць пра драму беларускай нацыі. Вільня — сталіца былой славутай дзяржавы ў Еўропе — паўстае як захавальніца нацыянальнай гісторыі, яе легендарных падзей.

Багдановіч адкрыў у нашай нацыянальнай літаратуры ўрбаністычную тэматыку, і менавіта дзякуючы яму Вільня для беларускай паэзіі станавілася амаль тым, чым Пецярбург для рускай: вобразам-сімвалам нацыянальнага горада ў адзінстве мінуўшчыны і сучаснасці, "чароўных прынад" і драматычных кантрастаў.

**Таіса ГУРКО-СУПРАНОВІЧ,**
**вядучы бібліёграф аддзела рэдкіх кніг Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, пісьменніца**

# Лёс Максіма

**Не так даўно ішла я на працу ва ўніверсітэт культуры і запрыкмеціла, як маладая жанчына стаяла каля "Беларускай хаткі" і нешта занатоўвала. Яна звярнулася да мяне, удакладняючы, ці гэта сапраўды тая хата, дзе ў 20-я гады спыняўся Максім Багдановіч.**

Жанчына была карэспандэнтам з Расіі. Я ахвотна падзялілася з ёй сваімі ведамі пра беларускага класіка, пра яго самотнае жыццё, яго геніяльную паэзію і наогул феномен яго творчасці.

Прыехаў Максім Багдановіч у Мінск у 1916 годзе ўжо цяжка хворым. Тут ён апынуўся сярод творчых і культурных дзеячаў Беларусі: Ядвігіна Ш., Галубка, Зоські Верас ды іншых. Спачатку Максім працаваў у губернскім харчовым камітэце, затым — у Таварыстве дапамогі ахвярам вайны. Бачачы нямоглаць Максіма, таварышы сабралі ў такі галодны і бедны час нейкія грошы і амаль сілком адправілі яго лячыцца ў Ялту. Потым ён напіша:

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сініх бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

Але больш самотны і незайздросны лёс, напэўна, выпадаў мала каму з беларускіх паэтаў.

На далёкай Волзе Максім не будзе знаходзіць паразумення ні ў кога. Нават родны бацька не падтрымае і не ацэніць пры жыцці талент сына. Мала таго, Адам Ягоравіч наогул лічыў, што такога народа — беларусаў — быццам і няма, а пра родную культуру, мову і літаратуру і слухаць не хацеў.

Максіма цягнула да Беларусі. Як ён настолькі палюбіў родную мову, пранікся беларускім духам у далёкай Расіі, аднаму Богу вядома. Магчыма, ад цёткі Марыі Ягораўны, роднай бацькавай сястры. Яна зусім маладой вельмі прыгожай дзяўчынай прыехала да аўдавелага брата гадаваць асірацелых дзяцей. Родам з Халопеніч, яна і размаўляла па-беларуску, і ладзіла ў сям'і ўсе беларускія святы, прытрымліваючыся традыцый, якія спрадвеку панавалі на Беларусі. Пасля цётка выйшла замуж, а Адам Багдановіч ажаніўся са сваячкай Максіма Горкага Аляксандрай Волжынай. Адаму было 37 год, Аляксандры толькі 17. Маладая мачаха добра ставілася да дзяцей, але пры родах памерла; немаўля забралі ў сваю сям'ю Пешкавы.

Першыя вершы Максім пасылае ў газету "Наша Ніва". Вершы ўхвалены і друкуюцца. Аднак няшчасці не пакідалі сям'ю. Хварэў бацька, хварэлі дзеці. Бацька, праўда, вазіў іх на кумыс, але здароўя гэта дадавала мала. Памёр старэйшы сын Вадзім, увесь час нездаровілася Максіму. Для дапамогі ў сям'ю прыехала цяпер ужо родная матчына сястра – Аляксандра Мякота. З ёю ў Максіма не склаліся адносіны. Зусім цяжка стала, калі адзін за адным пачалі нараджацца ў цёткі з бацькам дзеці. Максім зачыняўся ў сваім невялікім пакойчыку і пісаў. Бацька, як і раней, не ўнікаў у творчасць сына, лічыў, што быць літаратарам, асабліва беларускім, у лепшым выпадку несур'ёзна. Ён літаральна змусіў сына вывучацца на юрыста (потым Максім ні дня не працаваў па гэтай спецыяльнасці).

Максіма па рэкамендацыі "Нашай Ніvы" запрашалі ў Санкт-Пецярбург супрацоўнічаць з Акадэміяй навук па вывучэнні славянскіх літаратур. Але бацька быў супраць і фактычна не пусціў сына. Не будзем асуджаць за гэта Адама Ягоравіча, як ніколі не асуджаў яго і сын. Максім, ужо дарослы, разумеў, што бацьку біла жыццё з усіх бакоў: пахаваў дзвюх маладых жонак, паміралі малыя і дарослыя дзеці... Бацька адзін працаваў на ўсю вялікую сям'ю і проста вымушаны быў прымаць грашовую дапамогу ад Максіма Горкага.

Сын Максім лічыў бацьку няшчасным чалавекам і шкадаваў яго. Нават паміраючы ў Ялце, не хацеў турбаваць яго, хоць бацька знаходзіўся зусім блізка, у Сімферопалі. Так што жорсткі максімалізм Уладзіміра Караткевіча ў дачыненні да Адама Ягоравіча не да месца. Канечне, пазней, калі Максіма не стала, бацька ўсвядоміў, кім для Беларусі і наогул для свету быў яго сын. Але гэта ўсё потым, потым…

Вось пра што я расказала журналістцы з Расіі.

# У гэтым трагічнае схавана характва

**У адным з сучасных амерыканскіх кінафільмаў ёсць цікавы эпізод. Дырэктар школы звяртаецца да вучняў з пытаннем: "Калі ў вас ёсць грошы на дзве булачкі, што вы купіце?" — і сама ж адказвае на яго: "Булачку для цела і ружу для душы"… Гэтае пытанне я неаднойчы задавала студэнтам. У адным выпадку пераважалі прыземленыя адказы ("дзве булачкі", "булачку і больш нічога", "булачку сабе і булачку сяброўцы / маці"), а ў другім — разам з пабытавым значна большая ўвага надавалася духоўным каштоўнасцям ("ружу цяпер і потым", "булачку і паштоўку для родных", "булачку і кветкі", "зборнік Ясеніна"…). Пэўна, ёсць акрамя ўласна біялагічных і іншыя прыярытэты ў сучаснай моладзі. І сярод названых — кніга. Кніга, пра якую мы павядзём размову, з ліку тых неардынарных выданняў, што не так часта трапляюць на нашы кніжныя паліцы.**

Галіна АДАМОВІЧ

Кніга "Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" (укладанне Т.Шэляговіч), выклікае асаблівую цікавасць, хоць часта ў розных колах гучыць думка пра непатрэбнасць класічнай літаратуры, тым больш літаратуры пра класіку і класікаў. Кніга, прысвечаная Багдановічу, вядома, не атрымае шырокага распаўсюджання ў "грамадстве спажывання". Але, з другога боку, яна будзе мець свайго чытача. І гэты чытач будзе не толькі прафесійным філолагам. Гэта будзе чалавек, якому класіка патрэбна таму, што гэта своеасаблівая паэзія "чыстае красы". І таму, што "Бог даў Беларусі, як свята, паэта, // А з ім — адчуванне святой вышыні" (В. Жуковіч). І таму, што "калі ад слова роднай песні // Душу пяшчота ахіне, // Самота светлая ўваскрэсне, // Дык будзе хораша і мне" (Н. Гальпяровіч). І класіка будзе патрэбна таму, што, як казаў Максім-кніжнік, "когда пробудится душа человека, — только песня сможет утолить ее".

У чым можа заключацца ці заключаецца "звышзапатрабаванасць" гэтай кнігі? Першы адказ ляжыць на паверхні: спаўняецца 120 год з дня нараджэння Паэта. А было некалі і 50, і 75… "Яму было б зараз семдзесят пяць год… — пісаў у эсэ "Летапісец" У. Караткевіч. — Якая прычына, што Максім Багдановіч застаецца для нас ледзь не самай сімпатычнай і роднай постаццю ў гісторыі беларускай літаратуры?" І прапанаваў адзін з адказаў: "Максім Багдановіч даў нам першы ўрок гісторыі. Даў яго, нарадзіўшы ў нашых людзях гонар за сваё мінулае, і гістарычнае мысленне, і веру ў будучае.

Аднаго гэтага хапіла б на вечны яму помнік".

У кнізе змешчаны па-свойму эксклюзіўныя матэрыялы пра творчасць Максіма Багдановіча. І такія матэрыялы, без перабольшвання, складаюць асноўны змест кнігі.

"Каб зразумець паэта, трэба ісці ў краіну паэта…", — пісаў Гётэ. Наша падарожжа ідзе сцяжынамі Максіма: першы раздзел "**Светлы ж след будзе вечна жывым**…" уводзіць у кола тых, хто ведаў Максіма Багдановіча. Іх успаміны — багатая крыніца для прыхільнікаў біяграфічнага метаду вывучэння літаратуры. Тут прадстаўлены літаральна ўсе моманты, неабходныя для аналізу мастацкага свету паэта праз прызму яго біяграфіі і жыццёвага акружэння (сваякоў, сяброў, сучаснікаў); падаюцца звесткі пра выхаванне і адукацыю; увага звернута і на прыватныя моманты жыцця творцы, склад яго характару.

Першыя сярод усіх — успаміны бацькі паэта, Адама Ягоравіча Багдановіча. Раней яны друкаваліся ў выданні, якое стала бібліяграфічнай каштоўнасцю ("Страницы из жизни М. Горького", Минск, 1965). Успаміны сведчаць пра наяўнасць у Беларусі ў XIX ст. высокаадукаваных, інтэлігентных, багата адораных ад прыроды людзей. Нават і цяпер у сучаснай Беларусі не так лёгка знайсці сям'ю, дзе б выхаванне дзяцей адбывалася на такім сапраўды высокім, гуманістычным, духоўным узроўні. А што б магла напісаць маці паэта, калі б так заўчасна не скончылася яе маладое жыццё?! Вялікі мацярынскі пачатак ляжыць на ўсёй спадчыне Максіма Багдановіча. Калі адбітак бацькі — гэта вобраз Максіма-кніжніка, то правобраз маці выспяваў і крышталізаваўся ў самых любімых, запаветных радках паэта: "Там, пэўна, ціха калыхае лесунка, спяваючы над ім, старая лесуніха" ці "Я паняў... Я каленямі стаў прад табою"…




Сярод тых, хто ўспамінае Максіма, — сваякі (Г. Валасовіч-Грознова, Н. Кунцэвіч), сябры (З. Бядуля, З. Верас, Дз.Дзябольскі, А. Смоліч), знаёмыя (М. Агурцоў, А. Залатароў, С.Каныгін, М. Магульскі, А.Радкевіч, А. Цітоў) і інш. У іх успамінах паэт паўстае чалавекам незвычайнага характва; яго высакародная душа, непадкупнае сумленне, творчае гарэнне выклікалі здзіўленне і захапленне, павагу і непрыхаваны боль. Успаміны сяброў даюць цэласнае ўяўленне пра чалавека, які імкнуўся пражыць адведзенае яму кароткае жыццё асэнсавана, адухоўлена, пакідаючы па сабе не толькі "хорошую, добрую память" (А. Цітоў), але і спадчыну, якая патрэбна Бацькаўшчыне. Кніга ўспамінаў дазваляе здзейсніць падарожжа ў пачатак мінулага стагоддзя, адчуць веру ў адраджэнне роднага краю, любоў да роднай зямлі, што стала ахвярай важнных дзеянняў.

Гэта першае кола асоб, якія пакінулі менавіта гістарычнае сведчанне пра паэта, чалавека, сына, сябра, паплечніка. Яны ўзнавілі вобраз Максіма, перадалі атмасферу высокай духоўнасці, шчырай узнёсласці, якая была і засталася звязанай з яго імем. Раздзел кнігі мае адпаведную назву: "Светлы ж след будзе вечна жывым…", пакольскі след, пакінуты Максімам Багдановічам у жыцці тых, хто ведаў яго, светлы і прамяністы. Хочацца верыць, што гэты след пазначыў шляхі, якімі будуць упэўнена крочыць адданыя творчасці, радзіме, удзячныя сваім блізкім і мінуламу людзі.

Але гэта ўсё гістарычныя сведчанні. Яны ў большай ці меншай ступені аднаўляюць перад чытачом партрэт, гісторыю рэальнай асобы, канкрэтнага чалавека. Другі раздзел кнігі мае назву "**Госць з высокага неба**". Бо класік і ёсць "госць з высокага неба", той, хто адухаўляе сваёй прысутнасцю іншых, хто надае жыццю новыя вымярэнні… Спадчына класіка адрозніваецца тым, што яна змяняе духоўную атмасферу, перайначвае нават літаратурны працэс, даючы яму, з аднаго боку, вышэйшае мастацкае вымярэнне, выпрабоўваючы ім новыя творчыя здзяйсненні, з другога — яна з'яўляецца крыніцай натхнення для новых пакаленняў творцаў. *Госць з высокага неба* паўплываў на творчае асяроддзе свайго часу: М. Багдановічу прысвяцілі свае мастацкія творы яго паплечнікі, калегі.

Артыкулы, нататкі, эсэ, сабраныя ў раздзеле, раскрываюць спадчыну Максіма-класіка ў самых розных аспектах. Так, апавяданне "Страцім-лебедзь" Зм. Бядулі (датаванае 1941 г.) утрымлівае некалькі вобразных аналогій. Першая — Страціма з верша паэта і Страціма-Максіма. Другая аналогія: апавяданне напісана ў 1941 г. А аповед вядзецца пра падзеі, якія адбываліся ў гады Першай сусветнай: "Конец 1916 года. Мароз. Ноч…" Мастацкая паралель надзвычай выразная. У сумным 1941-м дапамагаў выжыць прыклад Максімавага жыцця…

Беларускія літаратуразнаўцы, даследчыкі роднай літаратуры прысвячаюць творчасці паэта сваю навуковую дзейнасць. Так, С. Александровіч піша мастацка-публіцыстычныя нататкі "Над Волгай" і "Ля сіняй бухты" пра мясціны, дзе жыў паэт. Славуты бібліёграф Н. Ватацы сабрала вялікі навукова-бібліяграфічны матэрыял пра жыццё і творчасць М. Багдановіча. У 1986 г. убачыла свет кніга яе гісторыка-культурных артыкулаў "Шляхі". Частка каштоўнага матэрыялу з гэтага выдання змешчана ў кнізе "Пясняр чыстае красы". "У дарозе" А. Бачылы — гэта мастацкі аповед-нарыс пра падарожжы "шляхамі Максіма", але ж гэта і падарожжа ў свет Максіма, у "паэзію і прозу" яго жыцця.

Класікай беларускай эсэістыкі з'яўляецца "Загадка Багдановіча" М. Стральцова — хрэстаматыйны твор, у якім выдатным чынам аднаўляецца прысутнасць *госця з высокага неба* ў нашым дні сённяшнім. І хоць "Загадка" напісана амаль паўстагоддзя таму, але ж яна паранейшаму захоўвае тое, чым з'яўляецца сапраўдная паэзія. Гэта лірычная споведзь аднадумцы, сутворцы, які чэрпае з чыстай крыніцы класічнай спадчыны і вучыцца глядзець і бачыць, услаўляць і апяваць вышэйшую прыгажосць.

"Летапісец" Караткевіча — гэта алюзія на аднайменны твор Максіма Багдановіча і скразны вобраз у творчасці двух класікаў — пачатку і другой палovы XX ст. Летапісец перакідвае мост паміж мінулым і сучасным, гэтаксама як "летапісцы часам адкладалі пяро і бралі ў рукі зброю, але галоўнай іхняй сілай было ўсё ж пяро — самая смертаносная зброя на зямлі. Таму што чыстае пяро, рана ці позна, абавязкова заб'е".

> *Кніга "Пясняр чыстае красы", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" (укладанне Т.Шэляговіч), выклікае асаблівую цікавасць, хоць часта ў розных колах гучыць думка пра непатрэбнасць класічнай літаратуры, тым больш літаратуры пра класіку і класікаў. Кніга, прысвечаная Багдановічу, вядома, не атрымае шырокага распаўсюджання ў "грамадстве спажывання". Але з другога боку, яна будзе мець свайго чытача. І гэты чытач будзе не толькі прафесійным філолагам.*

А. Вярцінскі, М. Лужанін, М. Ермаловіч, Т.Кабржыцкая, У. Конан, Я. Янішчыц, А.Бутэвіч. Кожны з іх усклаў сваю кветку, свой "цвяток радзімы" да велічнага манумента *госця з высокага неба*, што ўзвышаецца ў гэтае неба з кожным новым успамінам, прысвячэннем, ва ўдзячнай памяці нашчадкаў. І кожны з іх мог бы прыгадаць словы Максіма і сказаць так пра сябе: "Я паняў. Я каленямі стаў прад табою…"

Трэці раздзел "**Усе мы разам ляцім да зор**…" звернуты да ўсіх нас і з'яўляецца словам, якое маглі б вымавіць удзячныя паэту нашчадкі, "*усе мы…*" І хоць мы дыстанцыраваны ад паэта ў часе, але мы, магчыма, і больш набліжаны да яго. Бо паэты — гэта сутворцы. Суразмоўцы. Паплечнікі. Нават калі на раздзяляе не адно дзесяцігоддзе.

Вершы 69 паэтаў аб'ядналыя імем Максіма. Да Гіпакрэны, выбітай крылом Максімавага Страціма, прыйшлі і празаікі, што адгукнуліся сваімі вершамі: З. Бядуля, І. Мележ, С. Кавалёў… "Вянок" аб'яднаў не толькі "малюнкі і спевы" самога паэта, але і тых, хто чэрпаў з адной з ім крыніцы, углядаўся ў адну з ім Зорку, каго неслі адны з ім крылы вольнага птаха.

У вершах згадваюцца і апяваюцца родныя паэту мясціны (Мінск, Волга, Ракуцёўшчына, Ялта). Але найперш і найбольш — Ялта. Бо менавіта яна стала святым месцам, куды здзяйсняюць свае паломніцтва мастакі беларускага слова. І праходзяць яно не толькі праз Беларусь і Крым, але, як і ў вядомым сюжэце "Паломніцтва ў краіну Усходу" Германа Гесэ, яно ідзе па розных краінах, злучаючы людзей, пакаленні, пераходзячы ў новае стагоддзе.

Ніжні Ноўгарад згадвае ўкраінская паэтэса Мая Львовіч. Суперажываючы Максіму ў яго адзіноце ("ды сіратою рос…"), адчуваючы вялікі цяжар працы, узятай Максімам дзеля радзімы ("І цвердзь зямлі ўзяў сын"), роднай мовы ("І мову ўзяў"), паэтка верыць і разумее, што самаахвярная праца-жыццё не зніклі дарам: "І ўпаў Максім. // Ды з долу ўстала маці ўсіх — Айчына".

Ліра паэта пачынае гучаць, калі ўражвае не толькі прыклад жыцця і творчасці, але і адзін верш, адзін вобраз, радок… Самыя любімыя вобразы, на якія адгукаецца сэрца і душа паэтаў, — вобразы Страціма-лебедзя, зоркі Венеры. У гордага, вольнага птаха, у Максіма, ёсць іншыя аблічы: Сакольнік ("Дзякуй табе, Сакольніку" Р. Барадуліна), арол — "Ён радзіўся арлом // З крыллем орлім" ("Максіму Багдановічу" В. Віткі). Некалі паэт верыў у тое, што зорка Венера можа наблізіць чалавека да яго каханай. Сёння "вачамі зоркі Венеры" нам "глядзіць у вочы Максім Багдановіч" (Д. Бічэль). Толькі высокая паэзія сапраўды можа адкрываць шляхі, каб злучаць закаханых, знаходзіць спосабы пераадольваць Час і Прастору. І гэта магчыма дзякуючы высокай місіі паэта, які адкрывае такія шляхі, таму што "усе мы разам ляцім да зор".

"Усе мы" — творцы розных пакаленняў. "Усе мы" — гэта тыя, каго ўжо няма (А. Александровіч, П. Броўка, У. Дубоўка, У. Караткевіч, М. Лужанін, Р. Семашкевіч, С. Шушкевіч, Я. Янішчыц), і тыя, хто ўслаўляюць паэта сёння (Р. Барадулін, Л. Галубовіч, С. Валодзька, Н. Гальпяровіч, Л. Забалоцкая і многія іншыя). "Усе мы" — гэта прадстаўнікі розных народаў. "Усе мы" — гэта сутворцы, для каго спадчына Максіма — неспатольная крыніца натхнення ў майстэрстве паэзіі.

Кніга завяршаецца, можна сказаць, урачыстым вершам Я. Янішчыц — "Ялта-1917" — гімнам Паэту і Паэзіі. Бо "Смерці ў Паэта няма — // Ёсць Нараджэнне!" І такім новым нараджэннем Багдановіча стала кніга ўспамінаў, артыкулаў, прысвячэнняў. Таму што і гэта кніга ёсць таксама прысвячэнне Паэзіі.

Мабыць, не ўсё вымяраецца прагаю "булачкі" і патрэбамі цела…

*І ўсё ж же, ўсё ж же…*

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## Слова краязнаўцы



**Міхаілас Петраўскас з Гродна распавядае пра ўнёсак кафедры гісторыі Беларусі ГрДУ імя Янкі Купалы ў развіццё рэгіяналістыкі:**

— Кафедра гісторыі Беларусі факультэта гісторыі і сацыялогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы пачала дзейнічаць у 1981 годзе. Яна адразу ж стала адным з галоўных рэгіянальных асяродкаў вывучэння мінулага нашай краіны, а таксама цэнтрам папулярызацыі і трансляцыі ведаў у дадзенай сферы. Разам з асноўнымі кірункамі навуковага даследавання супрацоўнікаў кафедры (канфесійная гісторыя Беларусі, гістарычная ўрбаністыка), краязнаўства займае вялікую долю ў яе актыве.

Гродзеншчына з'яўляецца тэрыторыяй, якая аказалася і аказваецца пад уздзеяннем розных культур — беларускай, польскай, яўрэйскай, што сталася чыннікам для фарміравання спецыфічнай этнагістарычнай сітуацыі рэгіёна. Гэта ў сваю чаргу спарадзіла інтарэс да яе дэтальнага разгляду, таму ні адзін раён краю не застаўся па-за навуковай увагай выкладчыкаў кафедры гісторыі Беларусі. Праявіць вынікі пошукаў ім удалося на шматлікіх гісторыка-краязнаўчых канферэнцыях: "Старонкі гісторыі Зэльвеншчыны", "Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў", "Ліда і Лідчына (да 685-годдзя з дня заснавання горада)", "Ліпнішкі — 500 гадоў гісторыі" і іншых, на міжнародных "круглых сталах": "Тэадор Нарбут: жыццё, спадчына" (Зэльва), "Ігнат Дварчанін (да 115-годдзя са дня нараджэння)" (Дзятлава), гарадзенскіх чытаннях, якія праводзяцца на базе Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага. У іх працы актыўны ўдзел прымалі І. Крэнь, С. Марозава, І. Соркіна, В. Белазаровіч, С. Амелька, С. Сілава, А. Загідулін і іншыя выкладчыкі, магістранты і аспіранты кафедры. Краязнаўчы матэрыял выкарыстоўваецца і ў манаграфічных даследаваннях І. Соркінай "Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.", С. Амелькі "Гісторыя саслоўяў Беларусі".

Акрамя таго, кафедра ўключае ў краязнаўчы рух і студэнтаў, у першую чаргу праз студэнцкі навуковы гісторыка-краязнаўчы гурток "НіКа". Гуртоўцы не толькі наведваюць экспазіцыі гродзенскіх музеяў, але і самі ладзяць выязныя экскурсіі, праводзяць самастойныя даследаванні.

## Музейны ўнікат

# Цёмныя плямы гісторыі

Ульяна БЯЛОВА, фота аўтара

**Беларускія навукоўцы і біёграфы Максіма Багдановіча ўжо не адно дзесяцігоддзе плённа працуюць над гісторыяй роду і паходжання знакамітага паэта. Звесткі чэрпаюцца з успамінаў паэта, яго сяброў, калег, карпатліва даследуюцца творы класіка і адпаведныя дакументы. Але часам цёмныя плямы гісторыі высвятляюцца нечакана.**



Так адбылося і з магілай дзеда Максіма Багдановіча па мацярынскай лініі, Апанаса Мякоты, наглядчыка Ігуменскай павятовай бальніцы. У кнізе Алеся Бачылы "Дарогай Максіма Багдановіча" пазначаецца, што Апанас Іванавіч памёр ад сухотаў 24 студзеня 1879 года. Але некалькі гадоў таму чэрвеньскі краязнаўца Уладзімір Дарагуж падчас наведвання магілы сваёй жонкі натыкнуўся на парослы імхом камень з выбітым на ім надпісам: "Прах раба божиего Афанасия Ивановича Мякото. Умер в 1878 году, 12 января". Уладзімір Георгіевіч не абмінуў гэтую знаходку і дагледзеў магілу. Цяпер ён часта прыводзіць дарослых і дзяцей да гэтага месца і падрабязна расказвае рамантычную гісторыю пра сустрэчу і каханне дзеда і бабулі паэта.



Тацццяна Малевіч закахалася ў Апанаса Іванавіча ва ўзросце 17 гадоў і выйшла за яго замуж насуперак бацькам, якія жадалі яе шлюбу з царкоўным служкам. Успаміны сучаснікаў Максіма Багдановіча сведчаць, што яго бацька, Адам Юр'евіч, часам называў маладога паэта "ах ты, Малевіч!" за цвёрды характар і ўпэўненасць у сваіх меркаваннях, якія ён пераняў ад бабулі Таццяны Восіпаўны. "Гэта ж адчуваецца і ў яго вершах!" — натхнёна разважае чэрвеньскі краязнаўца.

У Апанаса Мякоты і Таццяны Малевіч нарадзіліся чатыры дачкі і сын. Але цяжкая хвароба бацькі прынесла шмат выпрабаванняў для сям'і. Яшчэ да яго смерці дзеці трапілі ў прытулак. Адной з дачок, Марыі, пашчасціла пры падтрымцы папячыцеля гэтай установы атрымаць добрую адукацыю.

Пра лёс маці Максіма Багдановіча я даведалася ў Чэрвеньскім раённым краязнаўчым музеі ад навуковага супрацоўніка Станіславы Баркоўскай. Як высветлілася, Марыя Апанасаўна скончыла Аляксандраўскае жаночае вучылішча і Пецярбургскую настаўніцкую школу. Мабыць, менавіта цяжкі лёс і дрэнныя ўмовы жыцця сфарміравалі характар Марыі Апанасаўны такім моцным. Яна шмат чытала, нават сама спрабавала пісаць невялікія апавяданні. Адам Багдановіч не адзін раз падкрэсліваў яе талент, "выяўленчасць" мовы і "пакутлівую жвавасць уяўлення". Жанчыны з сям'і Малевічаў валодалі незвычайнымі рысамі характару, а паэтычны дар Максіму Багдановічу перадаўся менавіта ад маці.

Жаноцкасць, раскошныя валасы, гарачы позірк і прыроднае харство Марыі Малевіч захаваў на палатне беларускі мастак Уладзімір Стальмашонак. Ён перадаў партрэт маці Максіма Багдановіча мясцоваму краязнаўчаму музею.

— У Чэрвені добра ведаюць гісторыю сямей Мякоты і Малевіч, — распавяла Станіслава Баркоўская. — Наш народны майстар Генадзь Матусевіч вырабіў і ўсталяваў на вуліцы Максіма Багдановіча мемарыяльную дошку з выявай Марыі Апанасаўны, якую ў нас усе пасвойску называюць Марыляй і ўспрымаюць яе як сімвал маці.

Пабываўшы ў Чэрвені, разумееш: іншы раз менавіта такія даследчыкі, як краязнаўца Уладзімір Дарагуж, прыадкрываюць для нас завесу гісторыі.

***На здымках: партрэт Марыі Апанасаўны; краязнаўца Уладзімір Дарагуж ля магілы дзеда Максіма Багдановіча.***

# Іскрынкі адкрыцця

Марына ВЕСЯЛУХА

**Правядзенне канферэнцыі, прысвечанай вывучэнню розных аспектаў жыцця і творчасці Максіма Багдановіча, ужо даўно стала традыцыяй у Літаратурным музеі паэта. Але напярэдадні юбілею творцы традыцыя была крыху зменена, і пляцоўкай для міжнароднага навуковага форуму стаўся Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Канферэнцыя "Творчасць Максіма Багдановіча ў кантэксце сусветнай літаратуры" сабрала навукоўцаў з усіх рэгіёнаў Беларусі, а таксама з Расіі, Украіны, Польшчы. Падчас пленарнага пасяджэння і тэматычных секцый прагучала больш як шэсць дзясяткаў дакладаў.**

— Калі распрацоўвалася праблемнае поле канферэнцыі, мы стараліся ахапіць як мага больш пытанняў, сфер даследавання творчасці Багдановіча, — зазначала адзін з арганізатараў форуму, кандыдат філалагічных навук, загадчык аддзела беларускай літаратуры XX і XXI стст. Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі Алена Манкевіч. — І амаль на ўсе кірунку адгукнуліся даследчыкі, прапанавалі свае матэрыялы. Таму, як і планавалася, склалася пяць асноўных праблемных напрамкаў. Гэта секцыі: "Максім Багдановіч — паэт, празак, крытык — у кантэксце беларускай літаратуры пачатку XX ст: творчыя ўзаемадзеянні і ўплывы"; "М. Багдановіч і міжкультурная камунікацыя: славянскі і сусветны кантэкст" (тут у асноўным вялася гаворка пра пераклады твораў Багдановіча і яго дзейнасць як перакладчыка); "М. Багдановіч у творчым дыялогу з наступнікамі" (перагукванне творчасці паэта і наступнікаў, якія выкарыстоўвалі яго прыёмы ў сваіх творах); "Паэтыка і стылістыка творчасці М. Багдановіча" (гэтыя аспекты заўсёды даследаваліся тымі, хто цікавіцца творамі любога паэта, і Багдановіча ў першую чаргу); "Багдановічазнаўства ў XXI ст: вынікі і перспектывы" (у дакладах гэтай секцыі тэма крыху звузілася, багдановічазнаўства было прадстаўлена ў некалькіх аспектах, у тым ліку і ў аспекце вывучэння творчасці класіка ў школе).

Што да нечаканых адкрыццяў і новых сенсацыйных знаходак, іх не было, аднак кожнае выступленне, кожны даклад змяшчаў іскрынку новага. Даследчык гэта выявіў і палічыў неабходным падзяліцца з шырокай грамадскасцю. Па словах Алены Алёйзаўны, самыя маштабныя, глыбокія даклады прагучалі на пленарным пасяджэнні — доктара філалагічных навук прафесара Вячаслава Рагойшы, доктара філалогіі Міхася Тычыны. Цікавым было выступленне навукоўцы з Магілёва, доктара філалагічных навук Алеся Макарэвіча — пра Міхайлу Драй-Хмару, украінскага даследчыка творчасці беларускага класіка. І ў такім жа ключы прагучалі выступленні кандыдатаў філалагічных навук з Цярнопальскага ўніверсітэта — Лесі Вашкіў і Марыі Данілевіч — "Максім Багдановіч і беларуская літаратура ў даследаваннях прафесара І. Дзенісюка".

Цікавымі можна назваць не толькі даклады на пленарным пасяджэнні, але і выступленні на секцыях. А тут былі і дыялог, і бурныя дыскусіі, і нежаданне разыходзіцца пасля сканчэння канферэнцыі. Так, апроч знаёмства з вынікамі даследаванняў навукоўцы ўзнялі і некаторыя праблемныя пытанні. У прыватнасці, доктар філалогіі, дацэнт Універсітэта ў Беластоку Алена Глагоўская распавяла пра вывучэнне творчасці М. Багдановіча ў школах Беласточчыны, разважала пра неабходнасць павелічэння аб'ёму матэрыялу і прапанавала новыя метадалагічныя прыёмы працы ў гэтым кірунку.

Як падкрэсліла Алена Манкевіч, "канферэнцыя прайшла ўдала. Дарэчы, зацікаўлены чытач і даследчык мае магчымасць пазнаёміцца з тэкстамі дакладаў: зборнік матэрыялаў форуму ўжо пабачыў свет.

## Запрашае Траецкае

Бажэна СТРОК

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, Літаратурны музей Максіма Багдановіча і Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва запрашаюць наведаць выстаўку **"З вамі вярнуўся дахаты я..."**, прысвечаную 120-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча. У экспазіцыі ўпершыню прадстаўлены рэчы з дома Багдановічаў, якія сёння захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Найвялікшую каштоўнасць уяўляе фотаальбом з арыгінальнымі сямейнымі здымкамі. З фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры экспануюцца партрэты М. Багдановіча, прыжыццёвае выданне паэтычнага зборніка "Вянок" і выданні твораў паэта розных гадоў. Выстаўка праходзіць у Траецкім прадмесці, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

# «У родным краю ёсць крыніца...»

**Ірына ШОРАЦ,**
**супрацоўніца**
**Літаратурнага музея**
**Максіма Багдановіча**

**Адарваны ад Радзімы пяцігадовым хлапчуком, Максім Багдановіч да заканчэння гімназіі не бачыўся з Бацькаўшчынай. Падчас жыцця ў Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі далёкая і нязнаная Беларусь вабіла і прыцягвала да сябе ад той пары, як ён пачаў адчуваць сябе свядома. Судакрананне з Радзімай было праз беларускую песню, казку ці легенду, пачутыя Максімам ад цётак у Ніжнім Ноўгарадзе, прачытаныя ў кнігах. У душы жыў успамін пра Беларусь з часу дзяцінства ў Гародні і Вяззі. Гэта ўспамін, які ўласцівы душы паэтычнай, з багатым вобразным уяўленнем.**

Першая паездка Максіма Багдановіча ў Беларусь пасля доўгага з ёю расстання — адна з самых яркіх старонак у жыццёвай і творчай біяграфіі паэта. Паводле ўспамінаў бацькі паэта Адама Ягоравіча Багдановіча, Максім паехаў у Вільню ў сярэдзіне чэрвеня 1911 года, адразу пасля заканчэння гімназіі. Паездка цягнулася звыш двух месяцаў і "...обогатила его живыми наблюдениями родного края, ознакомила с его обитателями и деятелями, вообще поставила лицом к лицу с действительностью, которую до этого времени он знал по книгам или по рассказам моим и моих сестёр, его тёток. Часть времени он провёл в Вильне, живя в квартире секретаря редакции «Нашей нивы», а затем на каком-то хуторе не то в Вилейском, не то в Ошмянском уезде.

Поездкой он был очень доволен, и конечно, она была весьма благоприятна для его поэтической деятельности. Возвратясь, он много рассказывал о подвижниках белорусской литературы, о тех злоключениях, которые они переживают, о недостатках средств, о бескорыстном служении родному слову многих работников..."

Спачатку Максім Багдановіч наведаў Вільню, якая ў той час з'яўлялася цэнтрам беларускага культурнага адраджэння. Няўтомнымі працаўнікамі на ніве беларускага адраджэння былі Антон і Іван Луцкевічы, Аляксандр Уласаў — выдавец "Нашай Нівы". Вільня на пачатку XX стагоддзя — яшчэ і буйны культурны і грамадскі цэнтр Літвы і Беларусі. Максіма Багдановіча ўразіў горад, ён, зачараваны, любаваўся помнікамі архітэктуры. Гэтае захапленне потым перальецца ў яго цудоўныя вершы з цыкла "Места", прысвечанага менавіта гораду, асабліва прыгажуні Вільні.

Вострая брама, Базыльянскія муры, касцёл Святой Ганны — святыя для кожнага беларуса мясціны. Гэтым хараством захапляўся Напалеон. А ў Максіма Багдановіча стварыўся цудоўны верш пра касцёл Святой Ганны:

*Каб залячыць на сэрцы раны,*
*Забыць пра долі цяжкі глум,*
*Прыйдзіце да касцёла Ганны.*
*Там знікнуць*
*сцені цяжкіх дум…*

Цяпер цяжка сказаць, ці паэт напісаў верш уражаны гатычнай архітэктурай, ці ён успомніў сваю каханую Ганну. Касцёл і сёння ўражвае сваёй святасцю, лёгкасцю і прыгажосцю, яго называюць застылай музыкай, а верш Максіма застаецца непаўторным. Паэзія Максіма Багдановіча — гэта і багацце думак, пачуццяў, хваляванняў, яна чыстая, узнёслая.

Нягледзячы на тое, што ў Вільні паэт знаходзіўся непрацяглы час — па дарозе ў Ракуцёўшчыну і назад — каштоўнасць гэтых віленскіх дзён цяжка пераацаніць. Сустрэча з завочнымі сябрамі, размовы з імі, знаёмства з выдатнымі зборамі калекцыі Івана Луцкевіча — беларускімі абразамі і разьбой па дрэве, рукапісамі і старадрукамі, пячаткамі беларускіх князёў і старадаўняй зброяй, знакамітымі слуцкімі паясамі і іншымі экспанатамі, якія пазней прынеслі славу беларускаму гісторыка-этнаграфічнаму музею ў Вільні.

Прыехаўшы ў Ракуцёўшчыну, паэт пасяліўся ў фальварку Вацлава Лычкоўскага, у невялікім утульным доміку. Ціхая вёсачка з сасновым борам была спрыяльнай мясцінай для хворага на сухоты М. Багдановіча. У той час у фальварку гасцявала менская пляменніца Лычкоўскіх Эмілія Шабуня са сваёй двухгадовай дачкой Янінкай. Пра знаёмства з Максімам Багдановічам паводле аповеду сваёй маці Яніна напісала ўспаміны.

Ракуцёўшчына стала крыніцай паэтычнага натхнення, выклікала незвычайны творчы прыліў у Максіма Багдановіча.

Вацлаў Ластоўскі ў сваіх успамінах пра паэта ўзгадвае: "На вёсцы М. Багдановіч не марнаваў часу. Ён напісаў там цыкл вершаў «Старая Беларусь», у якіх адбіліся яго настроі з пабыцця ў рэдакцыі «Нашай Нівы» і, цешу сябе, — часцю мае з ім начныя бяседы, акрамя таго, — нізку вершаў «Место», урэшце, — «У вёсцы» і «Вераніка»".

Менавіта пасля гэтай паездкі Максім Багдановіч адчуў сябе беларускім паэтам, усвядоміў, што сэрца яго належыць Беларусі назаўжды.

Праз год пасля паездкі Максім Багдановіч напісаў:

*Даўно ўжо целам я хварэю,*
*І хвор душой, —*
*І толькі на цябе надзея,*
*Край родны мой!*
*У родным краю ёсць крыніца*
*Жывой вады.*
*Там толькі я змагу забыцца*
*Сваёй нуды…*

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, у юбілейны год паэта, працуе мастацка-дакументальная выстаўка "І толькі на цябе надзея, край родны мой…", прымеркаваная да 100-годдзя прыезду М. Багдановіча ў Вільню і Ракуцёўшчыну. На ёй прадстаўлены ўнікальныя прадметы з фондаў музея: аўтографы паэта, успаміны яго сяброў, фотаздымкі, кнігі, выдадзеныя ў Вільні на пачатку XX стагоддзя. Выстаўка аздоблена мастацкімі працамі з краявідамі Вільні і Ракуцёўшчыны.

# Падарожжа да Адама

**Адам. Імя першага чалавека з'яўляецца магутным абярэгам і у той жа час патрабуе ад яго ўладальніка поўнага раскрыцця творчых магчымасцей і самаахвярнасці на карысць роднай Бацькаўшчыны. Таму на Беларусі яго давалі ў выключных выпадках, нярэдка пасля таго, калі ў сям'і паміралі нованароджаныя. А калі ў чалавека два імя? Магчыма, ён мае і двух анёлаў-ахоўнікаў…**

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

Так здарылася, што знакамітага этнографа, краязнаўцу, педагога і бацьку, які выхаваў і запаліў на паэтычным небасхіле Беларусі адну з самых яркіх яе зорак, Адама Багдановіча пры нараджэнні (25 сакавіка 1862 года) назвалі Адольфам, Адолікам. А ў пятнаццацігадовым узросце, калі ён аднаўляў метрыку ў кансісторыі, яго назвалі Адамам. Да таго ж, і імён па бацьку ажно тры: Юр'евіч, Георгіевіч і Ягоравіч. Магчыма, два анёлы-ахоўнікі зберaглі яго і ад царскіх жандараў за ўдзел у мінскай арганізацыі "Народнай волі", і ад рук НКУС, калі ў 1932 годзе ён быў арыштаваны ў Яраслаўлі.

Першы раз у Халопенічах, дзе Адам Багдановіч нарадзіўся ў сям'і былых прыгонных дваровых сялян пана Лапы (Лаппо), я быў, калі мне было гады чатыры. Там жыла бацькава радня, таму іншы раз мы ездзілі туды з нашай вёскі Дварэц Чашніцкага раёна ў госці. Ездзілі на брычцы, запрэжанай школьным канякам, і гэты шлях, даўжынёй у паўсотні кіламетраў праз лясы, лугі, уздоўж неабсяжнага Лукомльскага возера, быў для мяне, маленькага, сапраўдным падарожжам. І вось 23 чэрвеня 2011 года ў дзень, які Адам Багдановіч у сваіх "Перажытках старажытнага светагляду ў беларусаў" называў Купаллем, я вырашыў паўтарыць дзіцячае падарожжа. Толькі гэтым разам ужо на аўтамабілі. І зноў тыя ж лясы з сунічнымі палянамі, лугі і неабсяжны блакіт Лукомльскага возера…

Халопенічы — адзін з нешматлікіх населеных пунктаў, якія захавалі ў сабе своеасаблівы дух і каларыт дарэвалюцыйнага мястэчка. Шмат старых будынкаў і дрэваў. Тая ж Замкавая вуліца, з левага боку ад якой — напаўразбураная старая царква і аднаўленая новая. У цэнтры гарадка, на ўзвышшы, сквер, дзе адразу прыцягвае ўвагу помнік Адаму Багдановічу. Калі ўглядаешся ў рысы мужнага і прывабнага твару, то міжволі прыходзіць думка: "Адкуль у выхадца з прыгоннай сялянскай сям'і такія высакародныя шляхетныя рысы твару?" І яшчэ адзначаеш падабенства Адама Багдановіча з сынам Максімам, у якім гарманічна зліліся мужныя рысы аблічча бацькі і французскі тып маці —Марыі Мякоты.

Сярэдняя школа ў Халопенічах носіць імя Максіма Багдановіча. Гэтае ж імя мае і школьны музей. Завуч школы і бібліятэкар знайшлі час, каб паказаць мне і музей, і бібліятэку з надзвычай багатай падборкай беларускіх кніг.

З вокнаў другога паверха бачны будынак старой школы, які разбіралі на дровы. Магчыма, пра гэту школу пісаў Адам Ягоравіч у "Маіх успамінах": "А побач з бальніцай стаяла школа, пабудаваная панам Лапам, драўляная, далёка не такая імпазантная, як старая..."

З пачуццём лёгкай настальгіі я пакінуў Халопенічы, але падарожжа на гэтым не скончылася. Справа ў тым, што ў "Маіх успамінах" Адам Багдановіч піша: "Вясной бацька распачаў новую справу — усё ў тых жа інтарэсах сям'і: ён вырашыў арандаваць сады <…> Многа мы садоў пабачылі, але некаторыя ялавелі, некаторыя былі здадзеныя, у іншых мы сустрэлі непаможных канкурэнтаў у асобе яўрэяў-арандатараў і пакуль што знялі адзін даволі стары сад у маёнтку Агурэц пана Астроўскага, на самым беразе Лукомльскага возера, гэта за 25 вёрст ад Халопеніч <…> У садзе былі яблыні і грушы, былі слівы, агрэст і маліна".

Мне хацелася пабываць у старым садзе, з якім у будучага этнографа было звязана столькі прыемных успамінаў. Вяртаюся ў Новалукомль, агінаю возера, і прасёлачная грунтовая дарога нясе мяне да пастаўленай мэты. Слабодка, Гілі і ўказальнік, на якім напісана: Гурэц — 2, Сіманавічы — 4. Якая назва правільная? "Огурец", пра які пісаў Адам Багдановіч, або Гурэц? Каб адказаць на гэта



пытанне, трэба знайсці дарэвалюцыйную карту Бабруйскага павета, да якога адносілася Халопенічы. І вось я ў вёсцы. Ля прызбы хаты сядзяць дзве бабулькі і дзед, у якіх я пытаюся пра стары панскі сад. Мне паказалі дарогу, і калі я адыходзіў, то пачуў услед: "Бач ты, пэўна панскі нашчадак прыехаў!"

Дарога, якая спачатку ішла па вясковай вуліцы з назвай Піцерская, хутка скончылася, і далей я пайшоў пешкі. А вось і рэшткі старога сада, пра які пісаў Адам Багдановіч.

Вядома, яблынь, якія рэдка пераживаюць стагоддзе, захавалася мала. Болей груш, дрэў больш даўгавечных. Між дрэў мірна скубе траву гнядая вясковы конік. Я абняў парэпаны ствол старой яблыні і прыціснуўся да яго шчакой. Колькі ўсяго пабачыла за паўтара стагоддзя гэтае дрэва! Бачыла яно і маленькага Адама Багдановіча.

Рушу далей. Вось і бераг Лукомльскага возера. Тыя ж пеністыя хвалі, той жа трыснёг, тыя ж чайкі і буслы, пра якіх пісаў этнограф, і толькі тры вежы Новалукомльскай ГРЭС на другім беразе сведчаць пра тое, што цяпер XXI стагоддзе...

Вось і закончылася падарожжа да Адама Багдановіча, майго земляка, чалавека, улюбёнага ў родны край, чалавека, які так многа зрабіў на карысць Беларусі і заслугоўвае таго, каб удзячныя нашчадкі выдалі кнігу з лепшымі яго творамі і ўспамінамі.

## Нашы каштоўнасці

# Захаванне — справа адказная

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

**Праблемы забеспячэння захаванасці музейных фондаў, выкарыстання сучасных тэхналогій маркіроўкі і алічбоўкі музейных прадметаў абмяркоўвалі на міжнародным семінары-практыкуме, які адбыўся ў Інстытуце культуры Беларусі пры падтрымцы Міністэрства культуры краіны.**

Удзельнікамі-выступоўцамі былі навукоўцы з Дзяржаўнага гістарычнага музея Расійскай Федэрацыі (Масква), карпарацыі "Электронны архіў «Элар»" (Расія, Масква), Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Інстытута культуры Беларусі.

Шматбаковы агляд прапанаванай тэмы дазволіў падзяліцца набытым вопытам, а таксама перадаць шмат карыснай інфармацыі для музейшчыкаў абедзвюх краін-удзельніц семінара-практыкума. Кожная галіна навукі і культуры пастаянна трансфармуецца, прыўносячы змены ў выкарыстанне пэўных тэхналогій. Важна не адстаць у тэхнічным развіцці, каб забяспечыць на належным узроўні працу музейнай і бібліятэчнай структуры. Таму адна з мэт правядзення падобных мерапрыемстваў — азнаямленчая.

Захаванне каштоўнасцей — адказная справа. Захавальнік музейных прадметаў — яшчэ і асветнік, носьбіт важнай і патрэбнай інфармацыі, таму, як заўважыла Ала Чайкоўская, галоўны захавальнік фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, важна зацікавіць маладых музейшчыкаў, павысіўшы іх адукацыйны ўзровень семінарамі і стажыроўкамі.

**У апошні перыяд свайго жыцця Максім Багдановіч сярод іншых выдатных твораў напісаў паэтычную легенду "Страцім-лебедзь" пра гордага, моцнага птаха, у якога "звычаі — арліныя", "уцехі — сакаліныя". І, бадай, знамянальна, што ў лёсе гордага Лебедзя ўвасобіўся і лёс самога паэта-пакутніка, таленавітага сына Беларусі, чыё імя стала векавечным у памяці нашчадкаў. Свой вялікі талент, энергію душы і сэрца ён аддаў да апошняй кроплі беларускаму народу. Яго вершы "Зорка Венера", "Слуцкія ткачыхі" і іншыя сталі шэдэўрамі нацыянальнай лірыкі, любімымі народнымі песнямі. Ніжэй друкуюцца вершы-прысвячэнні Максіму Багдановічу, шчырую ўдзячнасць і пашану яму выказваюць прадстаўнікі самых розных пакаленняў беларускіх паэтаў.**

# Смерці ў Паэта няма — ёсць Нараджэнне!..

## Максім БАГДАНОВІЧ

### *Страцім-лебедзь*

*Не анёл у трубу уструбіў —*
*З хмары Бог старому Ною гаварыў:*
*"Поўна з краем чаша гневу майго*
*На людскія грахі ды бясчыннасці.*
*Вось надойдзе часіна суровая,*
*Лінуць з неба залівы бязмерныя*
*І абмыюць ад бруду смуроднага*
*Ўсю зямлю яны, белы-вольны свет".*

*Пачынаў тут Ной будаваць каўчэг*
*З таго дзерава ліванскага.*
*Ўшыркі гэтаму каўчэгу — сто лакцёў,*
*А ўдаўжкі — болей тысячы.*
*Ды узяў туды Ной і птах і звяроў,*
*Каб не звёўся іх род з зямлі.*
*Ды не плыў к яму з мора сіняга*
*Страцім-лебедзь — горды, моцны птах,*
*Яго звычаі — арліныя,*
*Яго ўцехі — сакаліныя;*
*Пер'і-пер'ечкі бялеюцца*
*Ды на золаку агнявеюцца.*
*У яго ў крыле — трыста тры пяры:*
*Узмахне крылом — быццам бор шуміць,*
*Узмахне другім — што мяцель гудзіць.*

*Як учнуць дажджы,— пацякла вада,*
*Разлілася горш ад паводкі.*
*Затапіла ўсе лугі-лагі,*



Генадзь Грак, "Страцім-лебедзь"

*Усе лугі-лагі, ўсе лясы-бары;*
*Уздымаецца вышэй ад гор.*
*Птахі ў небе стаяй лётаюць,*
*Енчаць жаласна, ад нуды крычаць,*
*Выглядаюць стуль прытулачку.*
*А па ўсёй зямлі толькі хвалі б'юць,*
*Толькі хвалі б'юць белай пенаю.*
*Ды па іх дужы, смелы плавае*
*Страцім-лебедзь — горды, моцны птах.*
*Узмахне крылом — быццам бор шуміць,*
*Узмахне другім — як мяцель гудзіць.*
*І населі тут на лебедзя*
*Птахі дробныя ўсёй стаяю.*
*Лебедзь з сілы выбіваецца,*
*Птушкі ажна усцяшаюцца.*
*Дзень ён плавае, другі-трэці дзень,*
*На чацвёрты стаў прасіць-маліць:*
*"Вы ўзляціце хоць на час які,*
*Выбіваюся з астатніх сіл,*
*Дайце вы грудзям, гэй, вальней ўздыхнуць*
*Дайце вы крылам, гэй, шырэй ўзмахнуць!"*
*Не паслухалі птахі лебедзя.*
*Пацямнела у яго ў вачах,*
*Крыллі ўрэшце падламаліся.*
*Галава ў ваду апусцілася.*
*І пайшоў на дно мора сіняга*
*Страцім-лебедзь — моцны, горды птах.*

*Ад усіх цяпер патомкі ёсць,*
*Ды няма адных — Страцімавых.*

**1916**

## Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

### *Ялта-1917*

*Чысты пагляд васілька.*
*Ціха журыцца Радзіме.*
*Роднае поле радка*
*Ці не з табою, Максіме?*

*Чую, як мора шуміць.*
*Хваля тугі не адыме.*
*Хочацца верыць і жыць*
*Ці не табе, Максіме?*

*Белай самоты сцяна.*
*Дай яму лёту і сілы!*
*Ці не з журбы лесуна*
*Ў Лебедзя гордыя крылы...*

*Скруха душу апячэ,*
*А ці зніме нягода.*
*Гэта спяшаецца чэсць*
*У абарону народа.*

*Смерць, ты цікуеш дарма,*
*Белых галінак кіпенне.*
*Смерці ў Паэта няма —*
*Ёсць Нараджэнне!*

*Песняй абвостраны слых —*
*Чуеш, Максім? — не ўмірае!*
*Гэта з табой. І для ўсіх.*
*Зорка Венера світае.*

## Казімір КАМЕЙША

### *Дзённік Максіма Багдановіча*

*Насуперак звадам,*
*хлусні,*
*варажбе —*
*Абрыдла ад іх бараніцца, —*
*Сама, а сама*
*расказаць пра сябе*
*Прыйшла да мяне таямніца.*

*А хто б расказаў мне,*
*калі б не яна,*
*Пра горкае шчасце паэта?!*
*...Гранёным глытком залатога віна*
*Ускружана крымскае лета.*

*Не бойся, ты шчасця*
*не крадзеш свайго,*
*Адным з ім агнём дагараеш.*
*Пакуль кіпарысам узыдзеш да гор,*
*Тым мусіш адніць таго раю.*

*Дыханне адно і гарэнне адно,*
*Заходзіцца сэрца ад млосці.*
*Такая кароткая летняя ноч,*
*Як крошка ад лусты чыёйсьці.*

*Ад мора ў душу раптам зрынецца шал,*
*Абдыме спакуса зямная.*
*Не світка якаясь паэта душа,*
*І ўсё ж ён яе расхінае.*

*У экспертаў рукі дрыжалі не ў лад,*
*Заслёзнелі вочы ад хмелю.*
*"Такія абдымкі нам Бог пасылаў,*
*А гэтак кахаць мы не ўмелі".*

*Ужо расплылося чарніла, як дым,*
*Ды шчасце, яно ці не ў гэтым —*
*Памерці мужчынам,*
*шчаслівым прытым,*
*І ўскрэснуць адразу паэтам.*

## Мікола ЧАРНЯЎСКІ

* * *

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...

**Максім Багдановіч**

*Пісаў зямляк*
*Адтуль, з-за акіяна:*
*"Я аднаго на старасці прашу,*
*Пласцінку з песняй,*
*Для мяне жаданай,*
*Прышліце,*
*Каб адвесці мог душу.*
*Сардэчных песень*
*Тут даўно не чую я,*
*А песня краю роднага майго*
*Мелодыяй любога зачаруе,*
*Яна —*
*Мая радзіма з першых год.*
*Я не дарма прашу:*
*Я вам у меру*
*Даларамі, рублямі заплачу,*
*Бо хоць у думках*
*З "Зоркаю Венерай"*
*Я на радзіме пабываць хачу...*
*Пласцінку я паслаў*
*У край далёкі,*
*З душою шчырай,*
*З радасцю паслаў,*
*І ў бандэроль, нібыта незнарокам,*
*Лісток з радкамі ветлымі паклаў:*
*"Я платы браць*
*З цябе, зямляк, не меўся,*
*Аб ёй*
*Нікому ты не гавары,*
*Бо ён, паэт,*
*Свае народу песні*
*Не прадаваў,*
*Ад сэрца іх дарыў..."*

## Міхась РУДКОЎСКІ

### *Апошняя малітва Максіма Багдановіча*

*Краю мой любы,*
*краю мой мілы,*
*Як бы спаткацца з табою хацеў!*
*Меў бы я сілы,*
*меў бы я крылы —*
*Ўраз бы к табе паляцеў.*
*Каб прытуліцца да роднай зямліцы*
*Сэрцам збалелым і з думкай-жальбой*
*Вечным паклонам к табе пакланіцца*
*І развітацца з табой.*
*Лёс ужо лічыць не дні, а хвіліны...*
*Рана...*
*Так рана!..*
*А хочацца жыць*
*...Над анямелаю бухтаю сіняй*
*Зорка Венера дрыжыць...*

## Віктар ГАРДЗЕЙ

### *Максіму Багдановічу*

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Сколькі ў хмарках залётных агня...

**Максім Багдановіч**

*Зноў усход палымнее над ніваю:*
*Зорны час, звонкі дзень, светлы міг.*
*Дабратой і пяшчотай зычліваю*
*Б'е крыніца паэтавых кніг.*

*Ялта веку суровага рысамі*
*Адлюструецца ў чыстай вадзе,*
*А сцяжынка паміж кіпарысамі*
*Да блакітнай магілкі вядзе.*

*Халадком ці журбою павеяла?*
*Васількі? Божа мой, васількі!*
*Тут іх Лось Еўдакія пасеяла —*
*І любві, і радзімы цвяткі.*

*Жыў адзін — сэрца з болю сціскалася.*
*Сам сабе — брат, і друг, і радня.*
*Знай, Паэт, Беларусь дачакалася*
*Залацістага, яснага дня!*

*Зноў усход баравы разгараецца,*
*І пад шэлест паэтавых кніг*
*Аб чым марыў ён, тое збываецца:*
*Зорны час! Звонкі дзень! Светлы міг!*

## Ніна КАВАЛЁВА

### *Веранiка*

Чым болі сходзіць дзён, начэй,
Тым імя мілае вышэй.

**Максім Багдановіч**

*Яго кахання чысціня,*
*Як неба, вымытае раннем,*
*Яго кахання вышыня,*
*Бо вышэй зорак ёсць каханне.*

*Як толькі зведае яго,*
*Душа становіцца на крылы.*
*Каханне з сэрцайка ўсяго*
*Вялікім робіць вобраз мілы.*

*Яно пазнае ўсе хады*
*І ўсё адолее, напэўна,*
*Калі, як рыцар малады,*
*Ідзе за спячаю царэўнай.*

*Крышталь халодны разаб'е.*
*І вечным зробіцца імгненне,*
*Калі убачыць ён яе*
*Чароўны момант абуджэння.*

## Браніслаў ЕРМАШКЕВІЧ

### *Васількі*

*На нязвыклай зямлі і чужой,*
*Гэткай цёплай, ды сэрцу нямілай,*
*Ты заўчасна знайшоў свой спакой —*
*Рана склаліся вольныя крылы.*

*У вачах тваіх промень пагас*
*Назаўжды дваццаць пятага мая.*
*І вясновай парой кожны раз*
*Без цябе нас твой дом сустракае.*

*Разышліся ад слёз берагі —*
*Хвалі Нёмана ўзносяць малітвы.*
*Наш Максім, наш зямляк дарагі,*
*З тваім імем навекі мы злітны.*

*Твае песні жывуць на зямлі,*
*У далёкім лунаюць сусвеце.*
*Паглядзі — васількі расцвілі,*
*Мы прынеслі табе іх, Паэце.*

## Станіслаў ЛУКАШЭВІЧ

### *У Вяззі*

*Бог беларусам даў цябе —*
*Паэта збуджанай краіны.*
*Твой спеў да сэрца дастае,*
*Як з неба покліч жураўліны.*

*Бог Беларусі даў цябе,*
*Як жыватворную крыніцу,*
*З якой струмень чароўны б'е,*
*І ў душах будзіць зарніцу.*

*І ў Вяззі дух лунае твой,*
*Дзе зор пасеў, што быццам свечкі,*
*І гэты дух парой начной,*
*Як белы лунь, ляціць да рэчкі.*

*Напэўна, прах сумуе твой,*
*Што ён ляжыць усё на чужыне,*
*А дух над спеўнаю зямлёй*
*Ляціць і цешыцца Радзіме!*

## Валянціна ПАЛІКАНІНА

### *Беларуская хатка*

*Як хочацца тут памаліцца,*
*Не здаўшыся даўкім грахам.*
*Прыходзім сюды пакланіцца*
*І лёсу яго, і радкам.*

*"Пагоня" тут кліча на бітву,*
*Тут гонар і святасць ва ўсім.*
*Тут дзверы, нібыта малітву,*
*Вам шэпчуць стазыка: "Максім".*

*І з гэтым прамоўленым імем*
*Бароначы свет ад бяды,*
*Няспешна нагамі сваімі*
*Ў яго патрапляем сляды.*

*Якая высокая доля:*
*Няхай ты зусім маладзён,*
*Дзяліць канцэнтрацыю болю*
*На колькасць адведзеных дзён.*

*Адно што анёлак увішны*
*Прадоўжыць гатоў вечары*
*Ад мінскай паэзіі ўзвышнай*
*Да ялцінскай сумнай пары.*

*І да блізарукасці блізкі*
*Той час, што да згадак прывык,*
*Як вырваны ліст перапіскі,*
*Як змяты нагой палавік.*

**Пераклад з рускай Міколы Шабовіча**

## Максім ТАНК

### *Над магілай Багдановіча*

*Прагучыць сірэна ў порце часам.*
*Кіпарысаў дрэмле ціхі сад.*
*Дрэмле Ялта,*
*па крутых тэрасах*
*Льецца вішань белы вадапад.*

*Тут вясна асыпала ўсё цветам,*
*І цяжэй знайсці ўчарашні след.*
*Хоць над раннім курганом паэта*
*Напісалі імя і санет.*

*Мне шкада, што спозніліся годы,*
*А твае так рана адцвілі —*
*Сёння разам*
*выйшлі б мы да ўсходу*
*Прывітаць радзімы караблі.*

*Рокат мора,*
*збуджанага ветрам,*
*Воблакаў ключ сіні і зару,*
*Што з вяршынь*
*аснежаных Ай-Петры*
*Кожны дзень*
*плыве на Беларусь.*

*Цішыню прадвечнага спакою*
*Кіпарысы вартай сцерагуць.*
*Але, пэўна, калі гром прыбою*
*Змоўкне і растане ў пене гул, —*

*Чуеш ты, як звоняць сосны ціха,*
*Як, палі вітаючы свае,*
*Недзе ўнучка слуцкае ткачыхі*
*Пра вясну, шчаслівая, пяе.*

*Прэзентацыя*

# Постаць, вартая энцыклапедыі




**З'яўленне энцыклапедыі "Максім Багдановіч" — трэцяй персанальнай пасля Францыска Скарыны і Янкі Купалы — сапраўдная падзея ў айчынным кнігавыданні.
Таму, калі я завітала ў выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", каб даведацца пра адметнасці кнігі, сустракала мяне не толькі галоўны рэдактар Ларыса Языковіч, але і іншыя супрацоўнікі, якія працавалі над стварэннем энцыклапедыі.
Гэта намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва Ганна Малей, загадчык рэдакцыі літаратуры і мастацтва Таццяна Рослік і вядучы навуковы рэдактар рэдакцыі літаратуры і мастацтва Аляксандр Кастыка.**

**Марына ВЕСЯЛУХА**

— Задума стварыць такі праект існавала ўжо даўно, яшчэ год 25 таму, калі рэдакцыю літаратуры і мастацтва ўзначальваў Іван Саламевіч. Гэта была ініцыятыва Івана Уладзіміравіча, а таксама Ніны Ватацы, біёграфа Максіма Багдановіча і супрацоўніцы тагачаснай Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. Леніна, — распавяла Ганна Малей. — Яны вырашылі зрабіць слоўнік Максіма Багдановіча і энцыклапедыю. Слоўнік быў створаны, выйшаў накладам усяго 6 асобнікаў. Адзін з іх нават захоўваецца ў нас у рэдакцыі. У той жа час пачалася праца па стварэнні энцыклапедыі. Але яна ў сілу многіх прычын пабачыла свет толькі цяпер.

Праца была ўзноўлена ўжо ў 2008 годзе, пасля "круглага стала", у якім бралі ўдзел супрацоўнікі выдавецтва, Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, навукоўцы. Тады ж быў прызначаны навуковы кіраўнік выдання — кандыдат філалагічных навук, дацэнт Мікалай Трус, ён выступіў у якасці каардынатара працы навукоўцаў, а ад выдавецтва — Аляксандр Кастыка. Аляксандр Аляксандравіч працаваў з аўтарамі, рэдагаваў і адпраўляў на рэцэнзію артыкулы. Натуральна, што пры стварэнні новай энцыклапедыі былі выкарыстаны напрацоўкі 25-гадовай даўнасці (каля 600 артыкулаў), але іх трэба было "абнавіць", дадаць новыя звесткі, бо за гэты час у багдановічазнаўстве шмат што змянілася. З боку музея Максіма Багдановіча актыўным удзельнікам працы стала намеснік дырэктара Ірына Мышкавец, яна на аснове слоўніка Івана Саламевіча склала тэматычны слоўнік, дадала ў кожны раздзел новыя персаналіі, новыя звесткі пра творчасць. Асабліва шмат дадалося па замежным аспекце творчасці Максіма — гэта і перыядычны друк, і персаналіі.

> *У стварэнні энцыклапедыі "Максім Багдановіч" актыўны ўдзел узялі больш як 60 аўтараў. Усяго ў кнігу ўвайшло каля дзвюх тысяч артыкулаў, прысвечаных самому паэту, яго сваякам, сябрам, знаёмым, усім людзям, якія пакінулі след у яго творчасці і лёсе; артыкулы пра мастакоў, кампазітараў, якія натхніліся Багдановічам; шэраг літаратуразнаўчых артыкулаў, дзе прыводзіцца глыбокі аналіз кожнага з твораў Багдановіча.*

Што да цяжкасцей, Аляксандр Кастыка з усмешкай адказвае: "Усё было добра, цяжкасцей не было". І сапраўды, якія цяжкасці? Кожны з аўтараў — а сярод іх больш як шэсць дзясяткаў знакамітых у літаратуразнаўстве імёнаў — быў рады зрабіць свой унёсак у гэтую пачэсную справу. Доктар філалагічных навук прафесар Вячаслаў Рагойша (ён выступіў і ў якасці рэцэнзента выдання) член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхась Мушынскі, доктар філалагічных навук, прафесар Іван Чарота, кандыдат філалагічных навук Яўген Гарадніцкі… і гэта далёка не поўны пералік зорных імёнаў.

Як падкрэсліла Таццяна Рослік, асабліва актыўнымі былі супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Белдзяржуніверсітэта, Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы, Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. Значны аб'ём працы быў выкананы супрацоўнікамі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, яны не толькі пісалі артыкулы, прадастаўлялі звесткі, але і падбіралі ілюстрацыйны матэрыял да выдання.

— Максім Багдановіч — адметная постаць у нашай літаратуры, культуры, безумоўна, ёсць іншыя, можа быць, больш маштабныя пісьменнікі. Але за такое кароткае жыццё ён так шмат зрабіў! Таму Багдановіч, безумоўна, заслугоўвае такой энцыклапедыі, — зазначыла напрыканцы размовы Ларыса Языковіч.

Тыраж гэтага выдання — усяго дзве тысячы асобнікаў, таму аматарам беларускай літаратуры варта не спаць у шапку, а часцей зазіраць у кнігарню. Тым больш што нагода для перавыдання кнігі надарыцца не хутка. З'яўленне энцыклапедыі "Максім Багдановіч" — безумоўна, адзін з самых важных праектаў у ліку юбілейных мерапрыемстваў. Гэта і доўгая праца, і глыбокі погляд на творчасць і жыццё Максіма, і вялікі пласт нашай культуры. Гэта амаль усё, што мы сёння ведаем пра Багдановіча, яго сваякоў, настаўнікаў, сяброў, творы… Гэта класічная энцыклапедыя, прысвечаная заўсёды сучаснаму Максіму.

*У падтрымку чытання*

**Доктар мастацтвазнаўства прафесар Яўген Сахута:**

# Вандроўкі па Коласавых сцежках

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

— Чытаць я навучыўся рана, яшчэ перад школай. І чытаў усё, што мне трапляла ў рукі. Пачатковая школа была вясковая (вёска Вечатарова Стаўбцоўскага раёна), і бібліятэка адпаведная ў тыя часы — там усяго было патроху. Праўда, мне шчасціла — траплялі кнігі не горшыя. Літаратура беларускіх пісьменнікаў прачытана своечасова, і захапляла яна мяне, але запомніліся да гэтага часу і, можа, нават паўплывалі на абуджэнне маёй цікавасці да народнай мастацкай культуры зборнікі беларускіх народных казак, пераважна ў апрацоўцы Алеся Якімовіча і асабліва з ілюстрацыямі Валянціна Ціхановіча і Анатоля Волкава. На гэтых ілюстрацыях героі — і людзі, і жывёлы — былі апрануты ў традыцыйнае народнае адзенне, якое я толькі там і мог бачыць. Таму што з ужытку яно ўжо знікла, а ў музеях яшчэ не з'явілася. Я ўжо не кажу пра адпаведныя выданні. Вось да гэтага часу і помняцца. І, магчыма, яны аказалі пэўны ўплыў на выбар будучай прафесіі. Іншых тлумачэнняў, іншых стымулаў я прыгадаць не магу.

Значны след у маёй свядомасці пакінула паэма славутага земляка Якуба Коласа "Новая зямля". Гэта не трэба лічыць банальшчынай: мае родныя мясціны літаральна побач з мясцінамі, якія так паэтычна апеты ў згаданай паэме. У дзяцінстве ж як думалася: вялікія людзі, класікі, маюць права нараджацца і жыць толькі ў нейкіх адметных, не тутэйшых краях. А тут, аказваецца, ты можаш хадзіць па тых жа сцежках, па якіх хадзіў класік, яны не выдуманыя, а цалкам рэальныя.

Сёння на маёй кніжнай паліцы літаратура, якая датычыць непасрэдна маёй навуковай даследчыцкай дзейнасці па розных відах народнай мастацкай культуры і, безумоўна, народных рамёствах, народнай прадметнай творчасці. Калі пасля школы выбіраў жыццёвы шлях, планаваў сур'ёзна займацца народнай культурай, моцна перажываў, што мне не пашчасціла з месцам нараджэння — чаму не Расія, Украіна, Літва ці Польшча. Як я мог думаць інакш: у хатняй бібліятэцы былі шматлікія шыкоўныя, прыгожа выдадзеныя кнігі па розных відах народнага мастацтва суседніх народаў — і ніводнай па прадметнай творчасці беларусаў.



На шчасце, у хуткім часе карціна стала выпраўляцца. Сёння ўжо ёсць цэлая бібліятэка шыкоўных выданняў па ўсіх відах нашай народнай творчасці. Тут ужо і бачыш, як казаў класік, што Беларусь заняла "свой пачэсны пасад між народамі", бо мае адметную культуру, якою можна ганарыцца і годна дэманстраваць. Выданні такой тэматыкі — асноўнае чытво. Канечне, чытаю беларускіх майстроў слова, сачу за знаходкамі, хаця не скажу, што апошнім часам яны мяне радуюць. Асабліва пільна сачу за творчасцю землякоў. Той жа Генрых Далідовіч амаль што пра мае мясціны піша, гэта жывое, што кожны адчувае ў сабе. Ну, і мой уклад на кніжнай паліцы ёсць.

*Маладзічок*

# Сустрэчы чакаюць

**Вольга НОРЫНА**

Хутка ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" ўбачыць свет кніга "Нам засталася спадчына". Гэта выданне даўно чакаюць чытачы. Зборнік нарысаў і вершаў, укладальнікамі якога з'яўляюцца Мікола Маляўка, Тамара Тарасава і Уладзімір Мазго, адрасаваны дзецям сярэдняга школьнага ўзросту і расказвае пра тое, дзе жывуць і чым ганарацца беларусы, каго шануюць, якія святы адзначаюць. У яго ўвайшлі творы, што друкаваліся на старонках часопіса "Вясёлка".

— Шмат гадоў таму мы выдавалі такі зборнік, яго ўкладальнікам была Тамара Тарасава, — расказвае Мікола Маляўка. — Разышлася кніга даволі хутка — па школах, бібліятэках. Даводзілася выступаць перад чытацкай аўдыторыяй, і часта бацькі і настаўнікі пыталіся, калі будзе перавыданне. На гэта я звычайна адказваў: "Пішыце лісты ў выдавецтва і ў рэдакцыю. Калі там убачаць, што кніга запатрабаваная, перавыданне адбудзецца". Але людзі так і не зрабілі канкрэтных крокаў. Прайшло многа гадоў, за гэты час на старонках "Вясёлкі" з'явілася шмат цікавых твораў. Мы паглядзелі, што кнігу можна дапоўніць. Сур'ёзна аднесліся да другога выдання: не проста змясцілі давесачак у канцы, а пастараліся, каб дапаўненні праходзілі праз усе часткі. Захаваны тыя самыя раздзелы: "З Богам у сэрцы", "Постаці", "Дзе мы жывём". Мы не абмяжоўваліся толькі нарысамі, дапаўнялі іх вершамі, якія могуць гучаць са сцэны падчас мерапрыемстваў. Тэматыка вершаў сугучная тэматыцы раздзелаў: яны прысвечаны гораду, краіне, асобе, падзеі, але ўкладальнікі сачылі, каб змест верша не паўтараў змест нарыса, а дапаўняў яго. Аўтары вершаў— Максім Танк, Пімен Панчанка, Васіль Вітка, Пятрусь Броўка. У кнізе вы знойдзеце лепшыя творы лепшых беларускіх аўтараў.

Спадзяюся, кніга прыйдзе ў кожную школу, стане добрым спадарожнікам для дзяцей, бацькоў і настаўнікаў. Цікавасць да мовы, нашай гісторыі, спадчыны, вядомых людзей краіны расце. Мы, здаецца, іх ведаем — імёны, творы. А ці так гэта на самай справе? Мэта стварэння кнігі — каб ведалі трошкі глыбей. Асабліва важна, калі цэласнае ўяўленне фарміруецца ў школьныя гады, каб вучні добра ўсведамлялі, хто былі іх продкі, з каго браць прыклад у жыцці.

**Літаратуразнаўцы, даследчыкі, бібліяфілы і, вядома ж, аматары беларускага прыгожага пісьменства, думаецца, з нецярплівасцю чакалі выхаду ў свет персанальнай энцыклапедыі, прысвечанай жыццю і творчасці Максіма Багдановіча. І вось — свята для багдановічазнаўцаў: кожны ахвочы цяпер можа набыць гэтае выданне, пагартаць яго старонкі. А пакуль не ўсе паспелі гэта зрабіць, "ЛіМ" прапануе ўвазе чытачоў падборку энцыклапедычных артыкулаў, што прадстаўляць Максіма Багдановіча як арыгінальнага, непаўторнага паэта і перакладчыка.**


Антаніна Лапіцкая, ілюстрацыя да цыкла вершаў "Места"

У. Л. САКАЛОЎСКІ

**"АЗРА"** — пераклад Багдановіча з нямецкай мовы на беларускую аднайменнага верша Г. Гейнэ з цыкла "Гісторы" яго кнігі "Раманцэра". Датуецца 1909. У 16 радках верша сцісла і ўражліва перадаецца трагічная гісторыя страснага і безнадзейнага кахання юнака-нявольніка Магамета з арабскага племені Азра да дачкі султана. Падзеі разгортваюцца з паступовым узрастаннем напружання: ад спакойных манатонных карцін жыцця султанскага палаца да раскрыцця драматычнага лёсу героя "з Іемена", які з сумам канстатуе: "А народ мой — тыя Азры, // Што канаюць ад кахання". Твор выглядае як простая народная песня — арабска-іспанскі раманс, напісаны класічным 4-стопным харэем, белым вершам — і выдатна перадае каларытны малюнак Усходу, атмасферу таго даўняга часу. Верш блізкі душы і напрамку творчасці Багдановіча вечнай тэмай кахання і смерці, сацыяльным асэнсаваннем жахлівай няроўнасці людзей у грамадстве, палкім імкненнем да вызвалення зняволенага народа. Матывы гэтыя перакліkаліся і з уласным лёсам Багдановіча, які быў і безнадзейна закаханы, і адарваны ад шчыра любімай ім радзімы. Пераклад адэкватна ўзнаўляе арыгінал, даволі дакладна перадае яго змест і структуру, прастату, лаканічнасць. Толькі двойчы Багдановіч адыходзіць ад арыгінала: змяніўшы рэалію "фантан" на "крыніца", наблізіўшы тым самым перакладны тэкст да больш арганічнага ўспрымання яго беларускім чытачом і пашырыўшы анафару Г. Гейнэ "штодзённа" да лексіка-стылістычнай канструкцыі "Кожны вечар ля крыніцы, // Дзе вада дзюрчыць, пляскоча", што паўтараецца двойчы. Гэта больш арганічна выяўляе экспрэсіўнасць арыгінала, надае перакладу ўзвышаны тон, запаволены тэмп, каларытна раскрывае ўзрастанне палкай страсці героя да яе найвышэйшага праяўлення — ахвярнасці.

Упершыню — "Творы", т. 1, 1927.

Т. К. ЧАБАН

**"ЗА ДАХАМІ МЕСТА ПАМЕРКЛА НЯБЁС ПАЗАЛОТА"**, верш Багдановіча. Напісаны ў 1911. Уваходзіць у цыкл вершаў "Места". Вылучаецца тонкай філасафічнасцю і глыбінёй, спалучэннем асабістага, сацыяльнага і агульначалавечага. Кантрасты горада ў ім не падкрэслены, а як бы згладжаны, прыглушаны вячэрнім "гусцеючым мрокам", што расхінае зорную прастору, — і вось ужо "за дахамі места" адкрываецца "нябёс пазалота", а побач з іскрамі, якія "злятаюць з трамвайнага дрота", "бачна, як зоркі гараць і зрываюцца ў небе далёкам". Горад нібы ўключаецца ў гарманічна-гожую карціну прыроды і Сусвету. Але ўжо з другой страфы ўзмацняецца драматычная нота — гармонія аказваецца ілюзорнай у свеце ўяўных каштоўнасцей і штучнага святла, дзе зоркамі могуць здацца трамвайныя іскры, а сонцам — ліхтар, на які ляціць машкара, "а к светлу прабіцца не можа… і топіцца марна". У трох страфах верша тройчы ўзнікае матыў парыву да святла, да гармоніі, ідэалу: імкненне горада ўпісацца ў абсяг неба, зорак, Сусвету; у той жа час унутры горада "машкара" імкнецца да яго "чароўных прынад", падманнага святла. Парыў "к светлу" ў 3-й страфе паўстае ў высокім, абагульняльным значэнні як спрадвечнае імкненне да ідэалу, сутыкненне мары і рэальнасці, як драма асабістая, сацыяльная і агульначалавечая: "Мы к светлу ўзляцелі… і шкло ўкруг яго напаткалі". Зоркавы час узлёту чалавечай душы перададзены паэтам сімвалічна-ўзнёсла: "срэдзь асенняй нахмуранай ночы // Музыка зайграла, агні ў вышыне запалалі, // І дыхалі грудзі шырока, свяціліся вочы…" Сімвал шырокі, не абмежаваны канкрэтыкай — гэта можа быць і час рэвалюцыйнага ўздыму народа, задушанага рэакцыяй, і імгненне асабістага шчасця, суладнасці душ, якія напаткалі непераадольную перашкоду, мастакоўскі парыў да эстэтычнай гармоніі. Проціборства святла і цемры перадаецца сістэмай вобразаў-кантрастаў праз увесь верш: з аднаго боку — "ціха гусцеючы мрок", "памеркла", "срэдзь асенняй нахмуранай ночы", з другога — зоркі, ліхтарні, святло, "агні ў вышыне запалалі", "свяціліся вочы", "к светлу ўзляцелі". Памер верша — 5-стопны амфібрахій з яго доўгімі, амаль без цэзур, радкамі, шырокімі сінтаксічнымі перыядамі — передае намаганні ўзлёту, упартае і непераадольнае імкненне да святла. Музыка верша, нібы сумна-ўзнёслы харал, узсілівае трагічны ў сваёй нязздзейсненасці парыў да высокага, светлага, ідэальнага.

Упершыню — «Вянок». Перакл. на рус. мову М. Талаў, Б. Спрынчан.

Т. К. ЧАБАН

**"ВЕЧАР НА ЗАХАДЗЕ Ў ПОПЕЛЕ ТУШЫЦЬ…"**, верш Багдановіча. Напісаны ў 1910. Адзін з лепшых узораў пейзажнай лірыкі паэта. Наследуючы традыцыі Гётэ, М. Лермантава (у прыватнасці, адчуваецца пераклічка з вершам "Горныя вяршыні"), Багдановіч стварае арыгінальны, непаўторны малюнак заходу сонца, вечаровай цішы, спакою, гармоніі ў прыродзе і ў чалавечай душы. Верш адкрываецца велічным метафарычным вобразам вячэрняй зары: "Вечар на захадзе ў попеле тушыць // Кучу чырвоных кавалкаў вугля…". Надзвычай шчодра, умела і тонка выкарыстаны паэтам зрокавыя і слыхавыя вобразы, багатая гама колераў і гукаў, адценні і ўзаемапераходы якіх ствараюць не толькі карціну прыроды, але і адпаведны настрой. Вытанчана-прыгожыя каляровыя эпітэты дазваляюць "убачыць" паступовае затуханне зары, "пахаладанне" фарбаў вечара, калі чырвоны колер змяняецца попельна-шызым, бледна-сінім, ільдзіста-зялёным: "Сумна плыве маладзік бледна-сіні // Ў небе вячэрнім, зялёным, як лёд; // Іскрацца зорак сняжынкі маркотна, // Збожжа пакрылася шызай расой…" Гэтак жа вычарпальна выкарыстаны сродкі гукапісу, якія перадаюць тое, што перадаць, здавалася б, немагчыма, — цішыню: "Ціха ўсё; вецер лістка не зварушыць, // Не скалыхнуцца ні траўкай паля". Гукі прыглушаны, верш інтанаваны на шыпячых і свісцячых зычных, на шэпт: ш-ч-ц-с. Шырокія сінтаксічныя перыяды, сыходная інтанацыя радкоў, няспешнасць, запаволенасць рытму ствараюць мелодыю зацішання жыцця, запавольвання, спакою, настройваюць душу на элегічна-сузіральны лад. Гарманічную, цэласную карціну спачыну прыроды Багдановіч імкнецца прывесці ў суладнасць з душою чалавека: "Кіньма жа думкі аб долі гаротнай, // Хоць бы на момант спачынем душой!" Але гэтымі ж радкамі міжволі нагадвае і пра тую дысгармонію, супярэчнасць сацыяльнага жыцця, чалавечай "долі гаротнай" законам сусвету і прыроды, пра якую ніколі не забывалася беларуская паэзія.

Упершыню — "Вянок". Перакл. на рус. мову Б. Ірынін, Б. Спрынчан, Ф. Яфімаў.

Л. К. ТАРАСЮК

**"ВАШАЙ ЦЁТЦЫ, ЗДАЕЦЦА, ВЕЛЬМІ ПРЫЕМНА"**, верш Багдановіча, адрасаваны Г. Р. Какуевай. Чарнавы накід. Датуецца 1909—15. Непасрэдны зварот да Ані, блізкага яму чалавека, яго няспраўджанай мары аб шчасці, гучыць у шматлікіх вершах і накідах паэта, ёй прысвечаны цыкл "Мадонны". Багдановіч меў намер, як сведчыць надпіс, зроблены ім у аўтографе вершаў, "сабраць у асобны цыкл "Палын-трава. Вершы пра Аню Р-ну з яе партрэтам, аўтографам, з каментарыямі…" ("Шлях паэта", Мінск, 1975, с. 286—287). Разам з вершамі-накідамі ("Вы так часта пазіралі ў люстру", "Халодная, ясная ноч", "Толькі чаму ж гэта ў ночы глыбокія", "Больш за ўсё на свеце жадаю я", "Буду сніць і днямі і начамі", "Муар двума колерамі пераліваецца…" і інш.) утварае адзіны лірычны сюжэт, у якім чытаецца асабістая драма маладога паэта. У гэтых творах — біяграфія яго душы, цэлая гісторыя чалавечых узаемаадносін, прасякнутых высакародствам пачуцця і глыбокім драматызмам. Кожны факт у гэтай гісторыі — падзея, вартая паэтычнага асэнсавання, мастацкая задума вынікае з самой патрэбы душы выказаць свой парыў, свае радасць і боль, сваю тайну. Такі аўтабіяграфізм быў адзнакай высокага мастацкага прафесіяналізму, які вылучаў лірыку Багдановіча на фоне беларускай паэзіі пач. XX ст.; ён сцвярджаў давер да індывідуальна-непаўторнага чалавечага вопыту, адкрываў змястоўнасць лірычнага "я", далучаў беларускую паэзію да традыцый сусветнай лірыкі (да лірычных цыклаў А.Данта, Ф.Петраркі, А. Блока, таксама прысвечаных канкрэтным адрасатам). Вершы Багдановіча інтымнага характару напоўнены высокім духоўным зместам, перадаюць складаную эмацыянальную гаму чалавечых перажыванняў, іх псіхалагічныя нюансы. Прызнанне каханай дзяўчыне ў пачуццях мовай паэзіі не страчвае ў яго чалавечай натуральнасці, кранае гранічнай шчырасцю, шчаслівай разгубленасцю маладога закаханага, чыя сардэчная тайна міжволі адкрываецца староннему чалавеку: "Вашай цётцы, здаецца, вельмі прыемна // Рабіць обыск у маім сэрцы. // Яшчэ ўчора яна мне казала: // Прызнайцеся, што Вы палюбілі Аню!" Так безабаронна-шчырае пачуццё становіцца лірычным прызнаннем, цнатліва давяраецца паэзіі, нібы ратуючыся ад людской бестактоўнасці, якая асабліва выяўляецца ў наступным вершы "Мая гаспадыня".

Упершыню — "Творы", т. 1, 1927. Перакл. на укр. мову Р.Лубкіўскі.

М. М. ГРЫНЧЫК

**"З ПЕСНЯЎ БЕЛАРУСКАГА МУЖЫКА"**, адзін з найбольш ранніх цыклаў грамадзянска-патрыятычнай лірыкі Багдановіча. Упершыню часткова апублікаваны ў "Нашай ніве" (1909, № 39, 24 вер.) з пafеткай "Яраслаўль" і подпісам "Максім Б-віч". Складаецца з двух самастойных вершаў ("Гнусь, працую, пакуль не парвецца" і "Я хлеба ў багатых прасіў і маліў"), аб'яднаных адзінствам задумы і сацыяльна-філасофскай праблематыкі. Аднак 2-і верш быў апублікаваны значна пазней (1927) — захаваўся экзэмпляр "Нашай нівы", дзе ён быў зняты (цалкам зафарбаваны) царскай цэнзурай. Цыкл пабудаваны ў маналагічнай форме: у 1-й яго частцы "Гнусь, працую, пакуль не парвецца" адчуваецца моцны ўплыў беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры, яе гуманістычны пафас, шчырае спачуванне трагічнай долі працоўнага чалавека. Вобраз селяніна-працаўніка як асноўнага носьбіта найбольш каштоўных стваральных сіл у грамадстве тут істотна пашыраны і ўзбуйнены ("Адтаптаў сотні вёрст пехацьмя, // Будаваў я дарогі, масты; // Ліўся пот мой, як рэзаў на ком'я // Плугам глебы сухія пласты"). Пачуццё высокай працоўнай гордасці, усведамленне працы як творчасці, як прызвання наракае ў яго душы неадольную мару аб шчасці і волі ("Шчасце ж гляне і ў даль панясецца, // І магу я аб ім толькі сніць…"), якая выяўлена ў фінале верша парадаксальна, г.зн. праз адкрытае адмаўленне, праклён рэчаіснасці ("Дык няхай жа, няхай сабе рвецца // Мне жыццё, як сагніўшая ніць").

Трагічныя супярэчнасці, кантрасты, узлым і спад лірычных адчуванняў героя — адлюстраванне складанасці часу, душэўнага стану чалавека міжрэвалюцыйнай пары, адзнака імклівага росту яго палітычнай свядомасці, душэўнай актыўнасці. Гэтая думка істотна паглыблена ў 2-й частцы цыкла "Я хлеба ў багатых прасіў і маліў". Эмацыянальны пратэст, адкрыты "бунт душы" набывае тут касмічныя маштабы. Алегарычны вобраз сцяны ("І тыя камені між імі і мной // Сцяною вялізнаю ўсталі") сімвалізуе набліжэнне велічных апакаліптычных падзей, якія канчаткова разбураць існуючы лад, непраходную бездань паміж "багатымі" і "беднымі". У лірычных роздумах героя ("Што ж будзе, як дрогне, як рухне яна? // Каго пад сабой пахавае?") чутны выразны намёк (прыём алюзіі) на нядаўнія рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907. Цыкл "З песняў беларускага мужыка" сведчыць, што з самага пачатку сваёй творчай дзейнасці Багдановіч плённа абапіраўся не толькі на вопыт сусветнай літаратуры, але і багатыя здабыткі рэалістычнай школы Я. Купалы і Я. Коласа.

# Минуты вдохновения

Ольга ПОЛОМЦЕВА,
Екатерина БЕДУЛИНА

**Традиционно мы представляем читателям "Кніжнага свету" новые издания серии "Библиотека Союза писателей Беларуси" — одного из имиджевых проектов ООО "Харвест". Это новые произведения писателей и поэтов. Хотелось бы отметить, что среди них — и биографический роман, посвящённый Максиму Богдановичу.**

### На языке Родины

Какую девичью душу оставят равнодушными строки безвременно ушедшего поэта?! Не исключение и Елена Минчукова — поэтесса, педагог, режиссёр. А теперь ещё и биограф Максима Богдановича. Новая книга Елены, изданная в юбилейный для поэта год, называется **"Венок судьбы"** и ведёт читателя по тернистому пути тонкого белорусского лирика Максима Богдановича — от первой горькой утраты до последних одиноких дней в Ялте, где оборвалась его жизнь.

Тепло воссозданы первые минуты его жизни, подробно рассказано о родителях будущего поэта — Марии и Адаме — и их родственниках, испытаниях, вы-




павших на долю. Оба были достойными людьми и любили друг друга, но счастье их оказалось недолгим. Читатель внимательно следит за переездом семьи в Гродно, переживает смерть матери Максима, потом его маленькой сестрёнки Нины. Волнуется, когда в дом приходит мачеха (семья живёт в Нижнем Новгороде, и отец начинает часто пропадать по вечерам у Пешковых. Сестра жены Максима Горького, Александра Павловна Воложина, становится новой мамой сиротам), и переживает её утрату — она умирает сразу после родов… Идя с поэтом скорбным путём потерь, автор книги не упускает его становления, когда в русскоязычной среде мальчик пишет первые строки на запрещённом царским указом 1840 года языке своих предков — "стихи на языке далёкой униженной Родины". Лёгкий стиль Елены Минчуковой погружает нас в его любовь и кружит голову совершенством рождающихся строф. Мы сопереживаем Максиму, влюблённому в Аню и страдающему от того, что не может ей открыться.

*У адным музеі я бачыў*
*Над японскаю*
*вазаю надпіс:*
*"просяць рукамі*
*не датыркацца".*
*Тое ж скажу і аб каханні…*

Его предназначение — создать строки о Родине и о любви, которым суждено остаться в веках. И Максим следует своей судьбе.

Мы пройдём с ним по улочкам Ярославля и Вильни, вдохнём аромат садов Ракутёвщины, познакомимся с Вацлавом Ластовским, братьями Луцкевичами, Купалой и другими деятелями белорусской культуры, чьи имена сегодня знает каждый белорус. Откроем для себя новое в его биографии, умножив каждую строку на пережитое молодым поэтом. Закроем последнюю страницу — и вернёмся к сборнику стихов Богдановича.

*Пралятайце вы, дні,*
*Залатымі агнямі.*
*Скончу век маляды, —*
*Аблятайце цвятамі…*

### «Человек есть мера всех вещей»

Сентябрь — пора сбора урожая. Творческий урожай Миколы Бусько радует читательскую душу. Автор сборника, вышедшего в серии "Библиотека Союза писателей Беларуси", — художник, портретист и пейзажист, переводчик с польского, украинского, английского, исследователь, краевед, публицист порадовал нас разнообразием. В книгу **Миколы Бусько "Сляды ад верасня"** вошли не только рассказы и очерки, но также повести и сказки — оригинальные и переводные. Вместе с автором читатель побывает на "стеклянном мосту", в осеннем лесу, в "синичкиной школе", научится читать вороний почерк и подсказки сосны, улыбнётся заячьим танцам, попробует воды из колодца. С удовольствием прочтёт детям сказки, в том числе и впервые переведённую с английского на белорусский сказочную повесть "Паутина Шарлотты" Э. Б. Уайта.

В разделе очерков читатель откроет для себя "палітру дзён шаноўных", где смешаны краски прошлого и современного, что позволяет прочувствовать связь с корнями, с родной землёй, обновлёнными храмами и величественными берегами Нёмана, читатель полюбит людей, портреты которых Микола Бусько создаёт с такой любовью, — художника, агронома, учителя Павла Ободзинского, учительницы Ирины Гимпель, библиотекаря Любови




Шамкуть, руководителя производственного объединения "Барановичидрев" Григория Карабанова, инженера Евгения Немера и многих других, с кем автора сводила жизнь на разных дорогах.

Творческим кредо Миколы Бусько вполне может быть высказывание древнегреческого философа Пифагора: "Человек есть мера всех вещей".

### Мир Мечты, Любви и Вечности

Лирика **Елены Пехоты** наполнена мотивами любви, пророческими, философскими и мифологическими раздумьями. В сборник **"Вечная странница"** вошло лучшее, вышедшее ра-




нее в книгах стихов. Поэтика её стихотворений разносторонне насыщена: поэтесса использует исторический и литературный материал, библейские образы и мифы народов мира. Это придаёт особую интеллектуальную содержательность и направленность её поэзии. Мифологическая тематика усиливает привлекательность стихов, позволяя читателю погрузиться в идеальный мир мечтаний, отдохнуть от земной суетности и несовершенства.

Особый интерес представляют стихи-посвящения известным людям, чья жизнь полна была философских раздумий и поиска смысла. Это певец Игорь Тальков, легендарный Джон Леннон, Иоганн Себастьян Бах, русские писатели Михаил Булгаков, Алексей Толстой и Константин Паустовский. Поэтическая нежность выражается в стихах-обращениях к своим родным и близким. И как отклик неравнодушного сердца поэта — стихи-боль о жертвах майской трагедии на Немиге.

Поэтесса ищет связь между двумя мирами: реальным и таинственно-неизведанным, ищет грань между жизнью и небытием. Автор даёт своё философское определение смерти, связывая её с переходом в вечность и пространство Вселенной: "Жизнь — к смерти полёт, сон — реальности звук. // То, что было, уйдет, лишь время натянет лук..." ("Вечное движение"). Смысл жизни пытается найти в глубинных корнях предков: "…Голубые сумерки опустились ниц, // придавая таинство миллионам лиц… // Сказка поднебесная — в давние года. // Снизошли Архангелы в наши города".

### Диалог души с природой

Сборник стихов **Эдуарда Зубрицкого "Восень над вогнішчам"** наполнен яркостью, образностью, хорошим слогом. Автор обогатил поэзию великолепными образцами философской лирики, раскрывающей взаимоотношения человека и окружающей его природы: "І не лапкі рабін — не паверыш — // След калісьці пачатых высноў", "Лістапад на раз'ездах, закружаных лісцем. // Я даўно на раз'ездах і думак і слоў, // І грымяць цягнікі, як грымелі калісьці, // І не знаю, калі яны вернуцца зноў".

Сильны философские размышления поэта: "Над нераскрытай кнігай поля завей усплёскі і снягі. // Ім берагчы жытнёвы колас, жыцця злучыўшы берагі".

Человек у Э. Зубрицкого — часть природы, а земная природа — часть вселенского пространства. Автор умеет увидеть в природе таинственное и дать этому творческое определение: "Нябесныя расхрыстаны вароты, // ды толькі ў іх не трапіць аніяк", "На высокай птушынай арбіце // тчэцца Млечны завоблачны шлях".

Тематика природы тесно переплетена с образом женщины: "Глыбока, таемна і чыста, авеяна цішай зямной, высокае імя Жанчыны ўзыходзіць штодня нада мной". Женщина у Эдуарда Зубрицкого воспевается через любовь: "І толькі, любімая", "Я не магу табою надыхацца ўволю", "Растанне", "Твае далоні".




Вызывает интерес автора и жанр баллады: "Балада жадання", "Балада знікнення", "Начная балада", "Бахчысарайская балада", "Балада забытага паэта". Баллады Эдуарда Зубрицкого заслуживают самого пристального внимания и по своему содержанию, и по художественному совершенству. Автор говорит о человеческой жизни, её ощущениях и чувствах. В них много драматизма, много движения и страсти.

Сборник стихов отличается многожанровостью, в нём представлены и короткие поэмы: "«Аўтограф» на стале", "Наташа", "Горкі парог", "Каця", "Жальба Сар'янскай пушчы", "А недзе плакаў салавей".

## Марксизм — не догма!

Данила АРТИМОВИЧ




Однажды дочери попросили Карла Маркса ответить на вопросы составленной ими анкеты. На вопрос "любимое занятие" он ответил следующее: "Копаться, рыться в книгах". Счастливый Маркс! У него было для таких поисков время и желание. Но представьте, что вам необходимо срочно найти информацию по какому-нибудь узкому историческому вопросу, а зоны "wi-fi" рядом нет.

Как же найти выход из положения? Самым простым вариантом видится следующее решение: найти книгу, под обложкой которой была бы объединена необходимая информация. При этом книга должна быть подъёмной и написанной понятным языком. Этому вполне соответствует справочное издание **"Всемирная история: от древнего Вавилона до наших дней"**, авторами-составителями которого выступили **Владимир** и **Мирослав Адамчики**.

Книга рассказывает о наиболее значительных событиях всемирной истории с времён первобытного общества до начала XXI века. Для простоты изложения материал в издании структурирован по 16 разделам, охватывающим определённый регион или эпоху (например, "Эпоха Римской империи", "Европа в раннем Средневековье", "Эпоха крестовых походов" и др.).

Ценность этой книги в том, что она написана художественно, образно и просто. Особенно интересны характеристики исторических личностей, которые предстают в ярких, живых и запоминающихся литературных зарисовках. Обилие фактического материала, как и прекрасно подобранных иллюстраций, выгодно отличает это сочинение от многих учебных и популярных изданий.

Літаратура і мастацтва № 49 9 снежня 2011 г.

**Teenbook**

Даніла АРЦІМОВІЧ

## Светлы след будзе вечна жывым

**Юбілей Максіма Багдановіча падштурхнуў да стварэння шэрагу выданняў, прысвечаных жыццю і творчасці паэта. Наш сённяшні расповед — пра тры кнігі, якія выйшлі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".**

### "І толькі надпіс «Вераніка»"

Каб кіравацца законамі Яе Вялікасці Храналогіі, пачнём гаворку з 2009 года. Менавіта тады выйшаў зборнік **"Я хацеў бы спаткацца з Вамі"**, укладзены Таццянай Шэляговіч, дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Яго аўтарамі сталі супрацоўнікі ўстановы, а таксама вядомыя даследчыкі беларускай літаратуры. Зборнік складаецца з трох частак. Самая традыцыйная з іх, трэцяя, змяшчае вершы паэта ("Паэзія Максіма Багдановіча"). Першая частка, "Мясціны натхнення", знаёміць чытачоў з кропкамі на карце, што звязаныя з жыццём М. Багдановіча. Мінск, дзе ён нарадзіўся; Гродна, дзе прайшлі чатыры гады дзяцінства; Вяззе (ля Асіповіч), дзе знаходзіўся некалькі месяцаў; Ніжні Ноўгарад і Яраслаўль — гарады юнацтва і маладосці, Карпілаўка, Ратамка, зноў Мінск — месцы, дзякуючы якім Багдановіч наноў адкрываў для сябе Беларусь. Нарэшце, Крым, дзе закончылася зямное жыццё паэта і пачаўся шлях у вечнасць.

Другі раздзел, "Асяроддзе Максіма Багдановіча", расказа про людзей, якія паўплывалі на яго жыццёвы і творчы шлях. Гэта біяграфіі бацькі і маці Максіма — Адама Багдановіча і Марыі Мякоты. Іх радаводы, адшуканыя ў архівах. Жыццяпісы родных і зводных братоў паэта, яго блізкіх сяброў і знаёмых. Не абмінулі даследчыкі ўвагай і лёсы муз Максіма Багдановіча, дзякуючы якім ён напісаў лепшыя ўзоры лірыкі. У прыватнасці, увага звернута на Ганну Какуеву. Таксама асобны нарыс прысвечаны маленькай Вераніцы Залатаровай, якая натхніла М. Багдановіча на стварэнне знакамітай "Веранікі" ("Я ў сад пайшоў... Усё глуха, дзіка… // Усё травою зарасло. // Няма таго, што раньш было, // І толькі надпіс «Вераніка», // На ліпе ўрэзаны ў кары, // Казаў вачам аб тэй пары").



### Факсіміле = зрабі падобнае

Бадай, кожны прыхільнік творчасці Багдановіча ведае, што адзіным прыжыццёвым зборнікам паэта з'яўляецца знакаміты **"Вянок"**, што выйшаў у пачатку 1914 года ў друкарні "пана Марціна Кухты" (на вокладцы пазначаны 1913 год). Цікава, што першапачаткова зборнік меў назву "Кніжка выбраных вершаў". Канчатковая назва, а таксама ідэя прысвячэння кнігі крытыку Сяргею Палуяну належаць Вацлаву Ластоўскаму. Прычым, Максім з радасцю пагадзіўся з такім падыходам.

Але наклад "Вянка" быў невялікі. А паколькі Беларусь прайшла праз дзве сусветныя вайны, рэвалюцыі і неаднаразовую змену ўлады, ад зборніка засталіся лічаныя асобнікі. У наш час па тры "Вянкі" захоўваюцца ў музеях Максіма Багдановіча і Якуба Коласа, Прэзідэнцкай бібліятэцы, два — у музеі Янкі Купалы. Таксама зборнік можна ўбачыць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, трох музеях (Гісторыі беларускай літаратуры, Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, а таксама ў музеі Багдановіча ў Гродне), ў Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва.



У 1981 годзе, калі святкавалася 90-годдзе з дня нараджэння Багдановіча, была ўпершыню рэалізавана ідэя факсімільнага выдання (факсіміле азначае з лацінскага "зрабі падобнае"). 10-тысячны наклад разышоўся цалкам. Пазней кніга яшчэ двойчы перавыдавалася. Але паколькі попыт на "Вянок" не змяншаўся, сёлета факсімільнае выданне з'явілася на кніжных паліцах зноў. Зразумела, самі вершы лёгка можна знайсці ў зборы твораў або проста ў томіку паэзіі. Але часам так хочацца перанесціся ў мінулае! Акрамя таго, не будзем забывацца, што "Вянок" з'яўляецца, без перабольшвання, адной з легендарных беларускіх кніг і заслугоўвае таго, каб быць прадстаўленым у бібліятэцы кожнага беларуса ў сваім першапачатковым выглядзе.



### Святло зоркі Багдановіча

Але галоўнай "разынкай" сёлетняга кнігавыдавецкага сезона стала кніга Алеся Марціновіча **"Свяці, зорка, свяці"** — першая мастацкая біяграфія Максіма Багдановіча, адрасаваная юным чытачам. Каб патлумачыць яе значэнне, дазволю сабе нагадаць, што ў айчыннай прасторы адчуваецца катастрафічны недахоп папулярных біяграфій беларускіх пісьменнікаў. Можна прыгадаць кнігу "Янка Купала" Алега Лойкі, што выходзіла ў знакамітай серыі "ЖЗЛ". А з нешматлікіх выданняў, адрасаваных дзіцячай аўдыторыі, "Янкаў вянок: дзецям пра Янку Купалу" Уладзіміра Ліпскага. Між тым, любая папулярная біяграфія, напісаная проста, даступна, без прэтэнзій на літаратуразнаўчыя і мастацтвазнаўчыя адкрыцці, у якіх часам можна заблытацца, ідэальна падыходзіць для знаёмства дзяцей і падлеткаў з раней невядомым светам.

Сакрэт поспеху кнігі, наклад якой цалкам разышоўся літаральна за некалькі тыдняў, можна патлумачыць некалькімі прычынамі. Папершае, значным вопытам пісьменніка ў галіне дзіцячай літаратуры: з-пад пяра А. Марціновіча ўжо выходзілі творы пра Еўфрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Сімяона Полацкага… Падругое, тонкім успрыманнем слова і ўменнем аўтара знаходзіць у творчасці кожнага паэта лепшае. Пры аналізе сучасных творцаў такі падыход часам выклікае складанасці, бо далёка не ўсе "героі" заслугоўваюць высокіх крытычных ацэнак. А вось сітуацыя з класікай — бяспройгрышная. Па-трэцяе, выпрацаваным стылем. Нездарма на рахунку Алеся Андрэевіча маецца больш як трыста нарысаў і эсэ пра выбітных беларусаў і выхадцаў з нашага краю, што ўбачылі свет у кнігах з серыі "Гісторыя ў асобах". Максім Багдановіч займае тут належнае месца.

"Сімвалам творчасці Максіма Багдановіча даўно ўспрымаецца "цвяток радзімы васілька", — піша А. Марціновіч у сваёй кнізе.— Сам жа ён — той Васілёк, які, узгадаваўшыся на чужой зямлі, не засох. Выстаяў, каб не вярнуцца на радзіму. Зразумеў, што няма лепшай зямлі, чым свая зямля. І хоць М. Багдановіч спіць вечным сном далёка ад Бацькаўшчыны, ён заўсёды з ёю. Максім Багдановіч жыве. Максім Багдановіч будзе жыць. Да той часіны, пакуль жывуць на зямлі беларусы. Беларускі ж народ неўміручы".

**Школа добрых пачуццяў**

## Зоркавы і не самотны

Раіса БАРАВІКОВА



Як прыгожа калісьці напісаў пра Максіма Багдановіча Уладзімір Караткевіч: "…Іншым было лягчэй. Яны былі сузор'ем. Ён — самотнай зоркай, якая, вядома, бачыла святло ад вялікай галактыкі свайго народа і ад сузор'я лепшых сыноў яго, паплечнікаў сваіх, — але ўсё ж палала наводдаль". Так, безумоўна, Багдановіч — ці не самая агністая зорка ў небе нашай паэзіі, поўная таемнасці і загадак! Яго і называлі зоркай у шматлікіх артыкулах самыя розныя аўтары. І ўсё ж у Караткевіча ўсё значна шырэй — "сузор'е… вялікая галактыка… самотная зорка". Чаму, распавядаючы пра генія нашага прыўкраснага пісьменства, ён скарыстаў такую выключна касмічную вобразнасць? Атрымалася міжволі ці спрабаваў разгадаць загадку творчасці Багдановіча?

Са школьных гадоў нам добра знаёмы верш класіка "Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы…", які заканчваецца радкамі: "Нашто ж сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?" Такая простая ісціна, і так спакойна, не разумеючы і не прымаючы толькі аднаго: сварак, звадак, болю і горычы, сказаў пра гэтую ісціну, нібыта ведаў, як і што дакладна, дваццацічатырохгадовы паэт за два гады да сваёй смерці. Як тут не прыйсці да думкі, што ўсё сваё свядомае кароткае жыццё (адкідваю гады яго маленства) Багдановіч практычна ляцеў да зор, ва ўсялякім выпадку думаў пра гэты палёт. І, напэўна, задумваўся: а што ж там, у канцы?

Кажуць, чалавек шчаслівы ўжо тым, што не ведае пра час свайго апошняга зямнога дня. Максім Багдановіч ведаў пра сваё блізкае немінучае: спадчынная хвароба… У адным са сваіх артыкулаў "Свечка свеціць, свечка зязе, свечка дагарае…" Паўліна Качаткова згадвае верш Багдановіча "Цемень", прысвечаны М. Кіціцынай, і далей разважае: "Можна ўявіць размовы, якія вяліся паміж маладымі, інтэлігентнымі і ўжо асуджанымі на хуткую смерць людзьмі: пра несмяротнасць душы, вечнае жыццё…". Мне, у сваю чаргу, хочацца згадаць радкі з міфалагічнага верша Багдановіча "Змяіны цар": "…А памрэш — прыціснуць грудзь пласты гліны. Ўстану ж на яру, падыму галоўку праз кусты, гляну ў неба і памру".

Іншымі словамі, гляну туды, дзе ўжо толькі духам давядзецца жыць між зорак. І ў шмат якіх вершах Багдановіча прысутнічае гэты зоркавы россып: "Зорак дрыжачых вянкі", "зор грамада", "блішчыць у небе зор пасеў", "іскрацца зорак сняжынкі маркотна", "у небе ціха зоркі расцвілі"… Праз вобразы далёкіх зорак у сваіх радках паэт нібыта прызвычайваў сябе да жыцця нябёснага і даводзіў сябру (верш Д. Дзябольскаму):

*Быць можа, пуціна жыцця*
*Лягла пярсцёнкам, друг,*
*І я ў краіне забыцця*
*Не раз раджаўся, як дзіця,*
*Прайшоўшы поўны круг.*

*Быць можа, я не скончу жыць,*
*Бо ў ім няма канцоў.*
*Зноў шлях знаёмы пабяжыць,*
*І ўсё, што мозг здалеў забыць,*
*Перажыву я зноў…*

Што і як там насамрэч, уверсе, над намі, — вялікая таямніца. Але калі ўсё гэтак, як напісаў у сваім вершы Максім Багдановіч, дык ён добра ведае і заўжды будзе ведаць, што, сапраўды, не самотны. Што тут, на зямлі беларусаў, ён — вялікі Паэт. І пакуль мы, беларусы, будзем весці свой род — ён заўжды будзе заставацца для нас геніем. А што да загадкі Багдановіча… Дык мне здаецца, яе трэба шукаць у яго зоркавасці, у вельмі блізкім адчуванні неба, якое аднойчы ўзяло і прыцягнула яго да сябе, не чакаючы, пакуль паэт пройдзе свой поўны зямны круг. Усё, што яму было дадзена небам, ён зрабіў за вельмі кароткі тэрмін свайго зямнога жыцця.

Кацярына БЯДУЛІНА

## Каб жыццё было поўным

**У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылася прэзентацыя мастацка-публіцыстычнага выдання "Зарыфа Аліева" Гусейнбалы Міраламава, што пабачыла свет па-беларуску ў выдавецтве А. Вараксіна. На нашай мове кнігу пераствары ў Алесь Бадак.**

Пісьменнік, дэпутат Парламента Азербайджана Гусейнбала Міраламаў — адзін з аўтараў, якія найбольш часта публікуюцца і перакладаюцца ў роднай краіне. Асабліва папулярнай яго творчасць робіць жыццёвасць расказаных гісторый. Кніга Гусейнбалы Міраламава з серыі "Жыццё выдатных людзей" прысвечана вядомаму навуковаму дзеячу Зарыфе ханум Аліевай. Гэта своеасаблівы аповед пра жыццёвы шлях выдатнай жанчыны пабудаваны на архіўных матэрыялах, успамінах блізкіх людзей, дапоўнены фотаздымкамі, якія дапамагаюць раскрыць вобраз гераіні.

У чым сэнс жыцця чалавека? Сваю думку выказаў аўтар кнігі: "Важна, каб чалавек пакінуў пасля сябе добры след — у сэрцах мільёнаў людзей ці толькі сваіх нашчадкаў. Важна, каб ён мог зрабіць нешта добрае, і тады яго жыццё будзе поўным".

Зарыфу Аліеву паважалі і любілі ў роднай краіне ўсе. Яна была жонкай першага сакратара ЦК кампартыі Азербайджана і маці дзейснага прэзідэнта рэспублікі. Але знакамітая яна не толькі гэтым. Выбітны ўрач-афтальмолаг, доктар медыцынскіх навук, акадэмік, бліскучы навукоўца і ў той жа час добры педагог, настаўнік, мудры кіраўнік…

Тысячы людзей дзякуючы Зарыфе Аліевай змаглі аднавіць свой зрок. Яна пражыла нядоўгае жыццё. Але значнасць чалавечага існавання вызначаецца зусім не колькасцю пражытых гадоў, а іх творчым напаўненнем, духоўнай энергіяй. Кожны пражыты дзень Зарыфы ханум адзначаны шчырым і гарачым імкненнем служыць народу.

Унікальны праект

Алена КАРП,
фота Кастуся Дробава

# Багдановіч далёкі і блізкі

**Невычарпальна багаты, талент Максіма Багдановіча вабіць красою і загадкавасцю. Але шлях да яго спазнання далёка не просты і на сёння не скончаны. Пэўнае набліжэнне да асобы і творчасці паэта абяцае кніга “Максім Багдановіч: вядомы і невядомы”, якая неўзабаве пабачыць свет у выдавецтве “Літаратура і Мастацтва”. Пра працу над ёю, пра набыткі і перспектывы багдановічазнаўства распавядае крытык, літаратуразнаўца, даследчык Ціхан Чарнякевіч.**



**— Ціхан, раскажы, калі ласка, як ты прыйшоў да гэтай тэмы.**

— Я пачаў займацца творчасцю Багдановіча пару гадоў таму. Зразумела, што цікавіўся даўно, але займацца як навуковец стаў параўнальна нядаўна, напісаў некалькі артыкулаў. Пасля іх публікацыі ў “ЛіМе” дырэктарам РВУ “Літаратура і мастацтва” Алесем Карлюкевічам год таму была зроблена прапанова наконт укладання кнігі, што плануецца ў нашай выдавецкай серыі “Вядомы і невядомы”. Канцэпцыя ўжо фактычна была ў галаве ў момант гэтай прапановы. Нейкі план я сабе накідваў на перспектыву. Але калі з’явілася магчымасць зрабіць справу ў бліжэйшым часе і на нармальным навуковым узроўні, то я, вядома, тут жа згадзіўся.

**— Зразумела, што да юбілею Максіма Багдановіча рыхтуецца не адно выданне. Чым будзе адметная кніга “Максім Багдановіч: вядомы і невядомы”?**

— Ідэя была такая: найперш — каб кніга атрымалася свежая, абсалютна не зацяганая, каб там было як мага менш перадрукоўак з нядаўніх і нават з даўнейшых кніг савецкага часу пра Багдановіча. Каб увайшло як мага больш матэрыялаў паўзабытых: такім чынам серыя апраўдала б свой назоў.

Кніга, якая атрымалася, складаецца з дзвюх частак: першая — крытычная, другая — архіўная. У крытычную частку ўвайшлі артыкулы, прысвечаныя творчасці Багдановіча, пачынаючы з “нашаніўскага” перыяду да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Адкрываецца кніга праграмным артыкулам А. Луцкевіча “Пясняр чыстае красы”, які шмат у чым прадвызначыў кірунак багдановічазнаўства XX стагоддзя наогул. Затым ідуць працы, створаныя за часамі БССР, у 1920-я: У. Дзяржынскага, М. Піятуховіча, А. Вазнясенскага. Заканчваецца раздзел дзвюма кароткімі працамі Д. Савановіча, якія не перадрукоўваліся вельмі даўно, і наогул ніколі не публікаванай кандыдацкай дысертацыяй Р. Жалезняка (абодва аўтары — даследчыкі пачатку 1940-х). Асаблівасць гэтай часткі ў тым, што тут дадзена звод даследаванняў па эстэтыцы і паэтыцы Максіма Багдановіча.

Атрымаліся, можна сказаць, дзве асобныя кнігі ў адной. Вось гэтая першая кніжка — “Багдановіч у літаратурнай крытыцы”. У 1920-я выдаваліся такія зборнікі па творчасці Коласа, Купалы, Гартнага. Але пра Максіма Адамавіча кніга не была выдадзеная, хаця падрыхтоўка быццам бы ішла.

**— Наколькі гэтыя матэрыялы — спадчына даваеннага і пасляваеннага багдановічазнаўства — актуальныя сёння?**

— Якраз у 20-я гады багдановічазнаўства зрабіла вельмі сур’ёзны крок наперад, фактычна заклала магутны падмурак вывучэння Багдановіча. Тагачасны ўзровень дагэтуль, можна сказаць, непераўзыдзены. Зробленае літаратуразнаўцамі 1920-х сёння вельмі актуальна, вельмі патрэбна ў якасці прыкладу, як тэксталагічнага (успомнім двухтомнік Багдановіча пад рэдакцыяй І. Замоціна), так і тэарэтычнага — і гэта ўжо тыя артыкулы, што ўвайшлі ў кнігу.

Скажам так, асаблівасць даваеннага літаратуразнаўства ў тым, што яно больш займалася формай, а пасляваеннае — зместам. Тут я не бачу нейкіх супярэчнасцей. Недзе ў 1920-я формай вывучалі так, што ўвогуле не зважалі на ўсё астатняе, а пасля раптам пачалі больш займацца рэчамі зусім далёкімі ад Багдановіча. Зразумела, што і ў пасляваеннай БССР былі тэарэтычныя працы вельмі высокага ўзроўню, скажам, кніга М. Стральцова “Загадка Багдановіча”, кнігі Р. Бярозкіна, А. Кабаковіч. Гэта выдатнейшыя работы менавіта па эстэтыцы, якія пэўным чынам працягваюць тое, што было напрацавана ў 1920-я. Але ўсё ж такі ў 1950 — 70-я больш займаліся вобразнасцю, ідэйным зместам, пэўным чынам эсэізаванай міфатворчасцю. У 20-я гады ў вучоным свеце, наадварот, быў постпазітывісцкі пафас сцыентызму, то бок навукоўцы імкнуліся зрабіць літаратуразнаўства дакладнай навукай. Гэтую паўзабытую спадчыну, я думаю, даўно пара ўспамінаць, каб бачыць узровень аналізу, глыбіню пранікнення ў тканку тэксту і кантэксту.

**— Якія цяжкасці і цікавосткі былі звязаныя з другой, архіўнай часткай?**

— Архівы — гэта само па сабе вельмі цікава. Справа ў тым, што архіў Багдановіча фактычна згублены. Даследчыкам біяграфіі і творчасці Багдановіча даводзіцца абапірацца на тыя самыя работы даваеннага часу — каментарыі Замоціна да двухтомніка “Твораў” 1927—28 гг. і дысертацыю Жалезняка, якія нейкім чынам адлюстроўваюць стан архіва, багдановічаўскіх папер, што тады знаходзіліся ў Мінску. Архіў быў страчаны ў час Вялікай Айчыннай, хаця трэба сказаць, што Рыгор Жалязняк у сваёй працы неаднаразова і настойліва адзначае адсутнасць лістоў Максіма Багдановіча. Гэта значыць, што яны зніклі яшчэ да вайны падчас знаходжання ў Акадэміі навук. Відаць, хтосьці скраў іх. Паводле вопісу, там было недзе каля пятнаццаці лістоў, дзе яны цяпер — невядома. Даследчыкі вымушаныя абыходзіцца звесткамі ўскоснымі, і любая згадка Максіма Багдановіча ці дакумент, які праліве святло на яго атачэнне, жыццё, творчасць, каштоўныя, бо ствараюць пэўны кантэкст.

Вельмі многа па збіранні такіх матэрыялаў зроблена Літаратурным музеем Максіма Багдановіча, дзе мне пашчасціла папрацаваць. Багдановічазнаўчыя фонды знаходзяцца і ў БДАМЛМ, там ёсць асобны фонд — калекцыя Багдановіча. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі знаходзіцца фонд бібліёграфа Ніны Ватацы, якая прысвяціла ўсё жыццё збіранню матэрыялаў пра Максіма Багдановіча. Ёй знойдзеныя многія аўтографы Багдановіча, а іх увогуле амаль не было пасля вайны ў Беларусі. Нешта з гэтага фонду ўвайшло ў кнігу, напрыклад, лісты Зоські Верас да Ніны Ватацы, лісты Мікалая Лілеева да яе ж. Дарэчы, карыстаючыся выпадкам, хачу выказаць падзяку супрацоўнікам аддзела рэдкай кнігі НББ за шчырую дапамогу ў адшуканні каштоўных матэрыялаў. У Акадэмічнай бібліятэцы знаходзіцца фонд Юльяна Пшыркова, які таксама вёў перапіску па пытаннях творчасці Багдановіча і па пытаннях біяграфіі ягонага бацькі, Адама Багдановіча. Некаторыя матэрыялы з архіва Пшыркова таксама друкуюцца ў кнізе.

> *“Ідэя была такая: найперш — каб кніга “Максім Багдановіч: вядомы і невядомы” атрымалася свежая, абсалютна не зацяганая, каб там было як мага менш перадрукоўак з нядаўніх і нават з даўнейшых кніг савецкага часу пра Багдановіча. Каб увайшло як мага больш матэрыялаў паўзабытых: такім чынам серыя апраўдала б свой назоў.*

**— Укладанне кнігі — гэта праца, якая патрабуе і немалых высілкаў, і пэўных арганізатарскіх здольнасцей…**

— Пачынаючы з лета я працаваў у цесным кантакце з Юрыем Пацюпам, які, на мой погляд, з’яўляецца сёння адным з наймацнейшых багдановічазнаўцаў. Мы доўга абмяркоўвалі, што ўключаць, а што — не. Напрыклад, вяртанне з нябыту Д. Савановіча — цалкам заслуга Ю. Пацюпы. Але ўсё рэпублікаваць немагчыма: не тыя аб’ёмы былі зададзеныя. Праўда, праекты ўкладання ў нас былі зусім розныя. Ягоны часткова рэалізаваўся ў кнізе “Пясняр чыстае красы”, укладзенай Т. Шэляговіч.

Архіўная частка прыпала цалкам на маю долю. Найцяжэй было ўсё гэта перавесці ў набор, бо многія з архіўных тэкстаў былі ў рукапісах, гэта значыць, нямала часу спатрэбілася на тое, каб расчытаць іх, перадаць спецыфічную лексіку. Машынапісныя тэксты таксама запатрабавалі немалых высілкаў. Крытычныя працы даводзілася пераносіць са старога правапісу ў новы. Для кнігі Ю. Пацюпа склаў адмысловы гласарый: можна сказаць, пераклаў даваенную лексіку на сучасную беларускую.

Некаторыя тэксты нам так і не ўдалося адшукаць. Напрыклад, артыкул Дзяржынскага “Багдановіч як апісальнік прыроды” так і не быў намі знойдзены ні ў адной бібліятэцы Мінска. Мы звярталіся і ў сховішчы Санкт-Пецярбурга, там таксама не было. І гэты артыкул так і не ўдалося змясціць у кнігу, хаця ён, паводле меркавання Адама Бабарэкі, мае вялікую вартасць. А вось публікацыя Я. Карскага была дасланая з пецярбургскай бібліятэкі Дзмітрыем Вінаходавым, даследчыкам жыцця і творчасці Я. Баршчэўскага. І гэта ўдача, бо гэтага нумара газеты “Беларусь” няма ў нашай краіне. Бачыш, які збор “па сусеках”. З каменціраваннем было ўжо трохі лягчэй, бо персоны, якія сустракаліся на шляху Багдановіча і багдановічазнаўства, вядомыя. Яны ўсе закаталагізаваныя, прынамсі, Літаратурным музеем М. Багдановіча, і нескладана было падаць іх даты жыцця ў каментарыях. Каментары, дарэчы, таксама атрымаліся даволі прадстаўнічыя: каля двух друкаваных аркушаў.

**— Наколькі шырокі абсяг для пошуку ў сучаснага багдановічазнаўства?**

— Я думаю, што пазнанне творчасці Багдановіча — праца, далёкая ад завяршэння. Цяпер створана энцыклапедыя Максіма Багдановіча, даўно неабходная рэч, значыць, будзе сціснутая ў адным томе сфера асноўных яго зацікаўленасцей, атачэння, біяграфіі, будзе зроблены звод тэкстаў, яны будуць арганізаваныя ў адно цэлае шляхам энцыклапедычных спасылак. Але пакуль далёка да асвання ягоных, скажам, кантэкстуальных сувязей, кампаратыўнае даследаванне творчасці Багдановіча яшчэ не зробленае як след. Сапраўды фундаментальныя працы, можа, нават не адзін том, трэба прысвяціць тэмам: “Багдановіч і руская паэзія”, “Багдановіч і французскі сімвалізм”. Бадай, тут матэрыялу на восем доктарскіх толькі па паэтыцы, па кантэкстуальным і паэталагічным аналізе.

**— А ці могуць сучасныя даследчыкі спадзявацца на нейкія архіўныя знаходкі?**

— Перакананы, тут таксама ёсць магчымасць нешта вывудзіць. Іншая справа, што для гэтага трэба ехаць у замежныя сховішчы і весці доўгатэрміновыя “раскопы”, што цяпер, мякка кажучы, не кожнаму па кішэні. Я ўжо пісаў, што ў яго былі лістоўныя сувязі з Паўлам Багацкім і Мікітам Шапавалам, украінскімі выдаўцамі. Абодва памерлі ў эміграцыі, адзін — у Еўропе, другі — у Аўстраліі. Украінская дыяспара свае архівы захоўвае дбала. Але, каб нешта гаварыць пэўнае, трэба працаваць у тых архіўных сховішчах Еўропы і Аўстраліі.

Таксама трэба шукаць у расійскіх зборах аўтографы твораў, лісты Багдановіча і, магчыма, згадкі пра яго ў перапісцы. Магчыма, знойдзецца нейкі след архіва Багдановіча, згубленага ў Вялікую Айчынную вайну, або тых пятнаццаці лістоў, скрадзеных яшчэ да вайны. Можа адкрыцца ўсё што заўгодна. Тут нельга закрываць тэму, раз і назаўсёды ставіць крыж. Напрыклад, вядома, што ў архіве было не менш за сотню лістоў да Багдановіча. У той жа час лістоў самога Багдановіча там было пятнаццаць, але чарнавікоў і неадпраўленых. Лагічна меркаваць, што калі ішла да яго сотня лістоў, то і ад яго было прыкладна столькі ж.

**— Ці знойдзе чытач гэтай кнігі матэрыялы, якія ламалі б пэўныя стэрэатыпныя ўяўленні пра Багдановіча, разбуралі міфы?**

— Існуе міф пра Багдановіча як ціхмянага, рахманага летуценніка. Вельмі многія так і лічаць, але пасля вывучэння ўсіх магчымых эпісталярных матэрыялаў, мемуарных тэкстаў, якія дайшлі да нашых дзён, складаецца ўражанне абсалютна адваротнае. Насамрэч карціна такая, што Багдановіч быў вельмі імпульсіўным чалавекам, страсным і даволі цвёрдым у перакананнях, можа, нават недзе ўпартым. Ён ні ў якім разе не быў нейкім мяккім і падатлівым, як воск.

Разбураюць гэты міф ананімныя ўспаміны, якія былі надрукаваныя Іванам Саламевічам у жнівеньскім нумары “Полымя”. З гэтых мемуараў Багдановіч паўстае паборнікам амаралізму, які, паводле Караткевіча, “рве панылае наканаванне і плюе на спрадвечны закон”. У такім ракурсе Максіма Адамавіча яшчэ свет не бачыў. У архіве Ніны Ватацы і Алеся Бачылы таксама знайшліся лісты, якія высвятляць асобу паэта з нечаканага боку.

Міфы ўзнікаюць ад таго, што мы вельмі мала ведаем мемуарных тэкстаў і архіўных дакументаў, а менавіта яны даюць факт у яго голай сутнасці. Чытаючы такія тэксты, мы ўбачым асобу і пэўную сітуацыю, прынамсі, вачыма сведкі. Тут ужо не праз чацвёртыя рукі, як у папулярнай біяграфіі пэўнага творцы, мы даведваемся пра яго жыццё, а ад ягонага сябра ці бацькі, брата ці сястры. Адпаведна, ёсць магчымасць атрымаць факты ў першым набліжэнні, а калі мы звяртаемся да апасродкаванай і папулярнай літаратуры, то аддаляемся і ад творчасці, і ад асобы. Думаю, што зборнік “Максім Багдановіч: вядомы і невядомы” дае максімальнае набліжэнне да класіка. Тут ёсць даследчыкі, якія імкнуліся прачытаць Багдановіча як мага лепш, і мемуарныя тэксты людзей, якія ведалі яго асабіста. Няма якіх-кольвек надуманых рэчаў, усё вельмі факталагічна. Бадай, менавіта гэтая кніга якраз ушчыльную наблізіць да Максіма Багдановіча кожнага, хто яе прачытае.

Унікальны праект

# Стихи и цветы для Нюты

*Имя Нюты Гапанович, двоюродной сестры Максима Богдановича, давно вошло в историко-литературный оборот. Да и понятно это: имена, которые были дороги белорусскому поэту, должны быть на слуху. Это имя дорого и Беларуси в целом: именно в семье Анны Селивановской сохранился рукописный сборник стихов Богдановича "Зеленя". Подаренный наследниками, он стал одним из самых ценных экспонатов сегодняшнего музея Песняра. Вместе с тем, знают и повторяют о Нюте Гапанович только то немногое, что написал в своих "Материалах к биографии Максима Адамовича Богдановича" отец поэта — Адам Егорович. Более подробные сведения до настоящего времени были достоянием узкого круга хранителей и исследователей архивных фондов. С одним из таких подробных биографических документов — рассказом о Нюте Гапанович авторства Аркадия Бараховича — мне удалось познакомиться при подготовке сборника архивных и литературоведческих материалов "Максім Багдановіч: вядомы і невядомы". Правда, в итоговый вариант книги текст не вошел: немного не вписывался в концепцию издания. Думаю, читателям приложения "Кніжны свет" он будет интересен. Автор, Аркадий Барахович (он, к сожалению, скончался несколько лет назад), — российский сценарист, переводчик белорусской поэзии на русский язык, страстный поклонник и дальний родственник вечно молодого классика, на протяжении многих лет переписывался с Литературным музеем М. Богдановича. Этот текст Аркадий Барахович прислал в письме к известному библиографу Нине Борисовне Ватаци. Оригинал документа хранится в отделе редких книг и рукописей Национальной библиотеки Беларуси.*

**Тихон ЧЕРНЯКЕВИЧ**

**Аркадий БАРАХОВИЧ**

## Анна Ивановна Селивановская (Гапанович)



Родилась в 1892 году в семье Магдалины Егоровны и Ивана Станиславовича Гапановичей в Минске, была третьим ребёнком. До неё родились Вера (1888), Пётр (1890), после Наталия (1895). В Нижний Новгород семья переехала примерно в 1900 г. (в 1899 г. Вера Гапанович ещё училась в Минске). В семье А. И. Гапанович звали Нютой. Она блестяще училась в нижегородской мариинской гимназии и закончила её с золотой медалью, как, впрочем, и другие дети Гапановичей. Ещё в гимназии проявила выдающиеся математические способности и после окончания гимназии поступила на физико-математическое отделение Высших женских курсов в Москве. В эти же годы в Москве учился Лев Богданович. У Павла Адамовича сохранились многочисленные записки Нюты ко Льву с просьбой "прислать рубль", найти какую-нибудь книгу по математике, помочь в решении сложных уравнений. Эти записки, видимо, были дороги Льву, он возил их с собой на фронт Первой мировой войны, и они вернулись в семью после его гибели.

Дорожил мнением Нюты и Максим Богданович. Ровесники, они детские годы провели рядом, воспитывались на одних и тех же книгах, придерживались близких взглядов, по существу, жили в одной семье. После переезда Богдановичей в Ярославль туда наведывалась Нюта, приезжал в Нижний и Максим. Знаменательно, что именно Нюте Максим посвятил свои авторские переводы "Зеленя". Нюта была обаятельной, очень остроумной девушкой. Во время учёбы в Москве она на каникулы и праздники приезжала в Нижний. Наталья Глебовна вспоминает её в эти годы кудрявой, большеглазой, душистой (тонкий запах духов исходил от её платьев, мехового воротничка пальто). Племяннице Наташе она привозила от "Мюра и Мерилиза" (торговый дом, сейчас универмаг "Центральный") тетрадки в крупную клеточку.

В 1917 г. вышла замуж за нижегородца, студента Московского университета, призванного в армию, Евгения Михайловича Селивановского, который вскоре погиб, так и не увидев родившуюся в 1918 году дочь Катю.

После революции А. И. Селивановская работала в фотографии Дмитриева, с дочерью которого Анной Максимовной была дружна с гимназических лет до последних дней своей жизни. Последние годы жизни Анна Ивановна работала в управлении железной дороги в должности экономиста-плановика. Умерла она от туберкулеза 24 мая 1941 года. Дочь её Катя училась в это время в Ленинграде в Горном институте, и Анна Ивановна жила вместе с сестрой Верой Ивановной Кунцевич и её детьми (Наталия, Анастасия, Татьяна) и с незамужней сестрой Наталией Ивановной Гапанович, которую в семье нежно звали "тётик". Наталия Ивановна переехала в Ленинград к Кате и до последних дней жила в ее семье. Свою дочь Катя назвала, как и мать, Анной, а все близкие по традиции зовут ее Нютой, у Нюты растёт дочь Яна.

Общение с Анной Ивановной оставляло глубокий след в сердцах всех. Ее подруга по гимназии Ольга Сыромятникова (Ольга Петровна Владимирова) жила во Владимире, с Анной Ивановной они переписывались до самой смерти Анны Ивановны. Но и после её смерти Ольга Петровна ежегодно к 16 февраля, в день именин Анны Ивановны, присылала Н. Г. Кунцевич письма, в которых вспоминала Анну Ивановну как чудную, талантливую женщину.

Умерла О. П. Владимирова в середине семидесятых годов. В Горьком живут её родственники, через которых, возможно, удастся получить письма Анны Ивановны, если они сохранились.

По рассказам Н. Г. Кунцевич, один из бывших гимназистов (Фома Шабловский) вспоминал, что поклонники Нюты Гапанович бросали в форточку окна букеты цветов, благо Гапановичи одно время жили в полуподвале.

Очень любили Анну Ивановну (тётю Нюту) дочери ее старшей сестры Веры. Она умела найти с детьми общий язык, была не только старшим товарищем, но и другом, доступным и веселым, щедрым на выдумку.

Наталия Глебовна вспоминает, что в 7 классе у неё был плохой учитель по математике, и она как-то сказала тёте Нюте, что не любит математику. И Анна Ивановна прочитала ей лекцию, в которой развернула общую картину математики начиная от Эвклида и включая основы геометрии Римана и Лобачевского. Эту лекцию Наталия Глебовна помнит до сих пор. Не без влияния Анны Ивановны она стала инженером, специалистом в радиотехнике, почётным радистом СССР.

Из литературных привязанностей Анны Ивановны — поэзия Тютчева, юмористические стихи Вл. Соловьева и его "Три разговора о войне, прогрессе и конце всемирной истории с приложением краткой повести об Антихристе" (книга была у Е. Е. Селивановской в Ленинграде); Анатоль Франс ("Харчевня королевы Гусиные лапки"); Короленко, Чехов, Достоевский, Лесков; меньше Толстой. В последние годы "12 стульев" и "Золотой телёнок" И. Ильфа и Е. Петрова.

У Анны Ивановны был хороший слух, она любила напевать романсы "Сомнения", "Плыви, моя гондола", арии из опер. Музыкального образования у неё не было, рояль появится в доме в Нижнем Новгороде только в конце 20-х годов (в Минске было пианино, В. И. училась музыке).

Из художников ей нравились работы Серова, Нестерова, Рябушкина, сказывалось влияние двоюродного брата Бориса Трифоновича Голована, сына Марии Егоровны.

В комнате Анны Ивановны висели крупноформатные фотопейзажи работы М. Дмитриева, в частности, "Толгский монастырь" (негативы как будто находятся в музее Горького в Москве).

Анна Ивановна очень хорошо шила — и на дочь, и на племянниц, вкусно готовила: школа Магдалины Егоровны, а если дальше, то и Егора Лукича.

*Апрель-май 1982 г.*

## Афарызмы Максіма Багдановіча

• Ах, колькі ёсць красы цудоўнай поруч з намі,
Калі глядзець вакол дзіцячымі вачамі!

• Трэба журыцца душою на свежых магілах пуста пранёсшыхся дзён.

• Дай на свеце сумным радасна пражыць.

• Проці цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

• Маладое жыццё праляціць, прабяжыць, —
Не забудзься вясёлых калёраў зажыць.

• Бароначы наш народ, мы павінны бараніць і нашу культуру. І што б там не было, а гмах яе, калісьці распачаты, павінен быць збудаваны да канца.

• Хай чарада гадзін панурых, нудных, шэрых,
Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,
Хаваючы агонь гарачай веры, —
Хай не відаць яго… а ўсё ж ткі ён не згас!

• Добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

• Хваробы лечаць і атрутамі.

• У паэзіі пераважнай стыхіяй з'яўляецца інтуіцыя.

• Кожны інтэлігент павінен адпавядаць наступным двум патрабаванням: па-першае, ён мусіць мець памкненне да ведаў, па-другое, ён мусіць імкнуцца несці свае веды на карысць народу.

• Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы.
Калісь глядзеў на сонца я.

• Не тое, каго майстар малюе, а толькі тое, як ён гэта робіць, толькі здольнасць і ўлежнасць яго могуць малюнку хвалу і каштоўнасць надаваць.

• Дзіцё, што ў коласе зярно.

• Рупная пчала ўмее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак.

• Ўсё знікае, праходзіць, як дым,
Светлы ж след будзе вечна жывым.

• Цэласнасць далёка яшчэ не сінонім аднароднасці.

• Мудры і кіпучы верш… — як дар прыроды,
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы,—
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно.

• Занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго, — гэта знача глуміць народную душу.

• Жыві і цэльнасці шукай,
Аб шыраце духоўнай дбай.
І ў напружэнні паўнаты
Свайго шырокага жыцця
Без болю, ціха зойдзеш ты
Ў краіну забыцця.

• Мудрай прамовы мёд залацісты.

• Чалавечай душы няхораша мацаць рукамі. Далікатныя людзі самі ведаюць гэта, а недалікатным аб гэтым напамінаюць.

• Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць…

**Сабраў Зміцер ЦЕХАНОВІЧ**

# Дзявяты вал, або Прызнанне ў любові

## Памяці Максіма Багдановіча

### Апавяданне




Ён дарэмна да болю ў вачах узіраўся ў далеч мора — дэльфіны не з'яўляліся. Дзіўна! — зірнуў на гадзіннік. Яны ж ніколі нават на хвіліну не пазніліся. Штосьці ў іх здарылася? А-а-а! Ноччу была бура, і дэльфіны, мабыць, цяпер адпачываюць. Ён жа чуў, як грозна гуло і бунтавала мора...

Кожную раніцу Ён прыходзіў на бераг, каб паглядзець на дэльфінаў. Яны прыплывалі як па камандзе адтуль, дзе ўставала таямніча-трывожнае барвовае сонца. Чорныя спіны дэльфінаў, спачатку ледзь бачныя, то ўзнімаліся над залаціста-срэбранай роўняддзю вады, то знікалі пад ёю.

"Сёння дэльфінаў не будзе", — з сумам падумаў Ён і, перш чым ісці на сняданак у сталоўку пансіяната, вырашыў яшчэ крыху пагуляць па беразе мора. Ступіў дзясятак-другі крокаў і запыніўся, уражаны.

На яшчэ мокрым пасля начной буры пяску ляжала скурчанае, чырвонае, маленькае, вельмі падобнае на чалавечае, дзіцяня дэльфіна. "Гэта яго ноччу хваляй выкінула. Можа, яшчэ жывое?" Ён прысеў на кукішкі і асцярожна крануў пальцам халоднае, слізкае цельца. "Не, ужо мёртвае. Можа, яго мёртвае хваля і выкінула. Трэба было б пахаваць небараку..." І Ён азірнуўся ў надзеі знайсці якую ладную трэску. Але, акрамя дробнага ракушачніку, адпаліраванай дробнай галькі, на вочы нічога падобнага не трапіла. "Добра. Як-небудзь пасля пахаваю..."

Вярнуўшыся пасля сняданку на пляж, Ён быў здзіўлены вялікім гуртам дарослых і дзятвы, што акружалі малога дэльфіна. "Хто-небудзь з іх абавязкова пахавае яго. І добра зробіць. Трэба ж па-людску!" — з палёгкай падумаў.

Але людзі падыходзілі, штосьці гаварылі паміж сабой, дзівіліся, некаторыя невядома чаго смяяліся ці шкадавалі і... разыходзіліся шукаць зручнае месца, каб легчы на ўжо крыху прыгрэты пясок.

Сонца бралася вышэй і вышэй і, як гэта бывае на поўдні, пачало неміласэрна пячы. Над маленькім дэльфінам закружылі сваю брудную карусель вялікія чорныя мухі. "Нядобра гэта. Трэба па-людску пахаваць..." — дакараў Ён сябе і пачаў азірацца, шукаць які аскабалак. І зноў нічога прыдатнага не знайшоў і стаў папракаць сябе за нездагадлівасць, бо трэба было захапіць якую жалязяку, каб выкапаць ямку.

"Такая спёка, а ён ляжыць. Нядобра гэта. Трэба б пахаваць... Каб па-людску... Вазьму ў сталоўцы, як буду палуднаваць, лыжку і пахаваю", — рашыў канчаткова.

На вячэру Ён не пайшоў. Дачакаўся, пакуль апусцее пляж, дастаў з-за пазухі лыжку і пачаў капаць ямку. Месца выбраў вышэйшае, на пагорку, каб не падмывала вада. "Зраблю магілку прастарнейшую, хай вольна будзе яму, бо калі цесна, то нядобра", — разважаў сам сабе.

Пасля на руках панёс маленькага дэльфіна да мора. У апошні раз апусціў у мяккую, ласкавую ваду, апаласнуў ад пяску і яшчэ раз падзівіўся падабенству з чалавечым дзіцем.

Перад тым як апусціць дэльфіна ў магілу, Ён сыпануў у выкапаную ямку пяску, бо падалося, што выкапаў яе занадта глыбокай. "Калі глыбокая, то гэта таксама нядобра — зямля будзе ціснуць на грудзі..." Засыпаў, зрабіў невялікі капец. Але невысокі, каб у вочы не кідаўся. Успомніў, што яшчэ штосьці не зрабіў, і перахрысціўся. "Вось цяпер па-людску..." Ён не ведаў, якая сіла літаральна (ці гэта ўсё ж быў сон?!) прымусіла яго павярнуцца да мора. Падпарадкаваўся гэтай сіле і паволі пайшоў да вады. Насустрач яму, ужо на гэты бок буёў, плыў дэльфін. Крыху воддаль бачны былі чорныя спіны, шмат спін, але астатнія дэльфіны трымаліся па той бок буёў, метраў за сто ад першага.

— Чалавек! — пачуў Ён голас дэльфіна. — Ты ўсё зрабіў па-людску. Ты пахаваў наша дзіцяня, што стала ахвярай раз'юшанага марскога д'ябла. Дзякуй табе, чалавек! Але менавіта ты павінен быў гэта зрабіць. У цябе захаваўся генетычны інстынкт спагады. Мы хочам аддзячыць табе. Зараз дастанем з марскога дна такую вялікую ракавіну, якой ты ніколі не бачыў. Мы пакатаем цябе па моры. Табе спадабаецца...

— Сядай, чалавек! — урэшце прапанаваў ён. — Вось на гэты выступ. Там табе будзе зручна.

— Але тут два выступы. На каторы сесці? — вяртаючыся да рэчаіснасці, спытаў Ён.

— Лепш на той, што справа, бо злева будзе сядзець Яна,— параіў дэльфін, і, пачуўшы гэтыя словы свайго важака, зноў радасна загаманілі, пачалі падскокваць і біць хвастамі па вадзе астатнія яго родзічы. Ён хацеў спытаць, хто такая "Яна", пра каго гэта дэльфін, але той, нібы падслухаўшы думкі чалавека, сказаў:

— Цябе, чалавек, занёс сюды на сваіх крылах вецер няшчаснага кахання. Ты хворы целам, але больш душою. Ты думаў знайсці тут паратунак ад скрухі, але замаркоціўся яшчэ больш. Бо ці не з тваёй душы ліліся, а вусны шапталі, вось гэтыя словы:

*Даўно ўжо целам я хварэю,*
*І хвор душой, —*
*І толькі на цябе надзея,*
*Край родны мой!*
*У родным краі ёсць крыніца*
*Жывой вады.*
*Там толькі я змагу забыцца*
*Сваёй нуды...*

— Дык вось, — працягваў дэльфін, — зараз мы паплывём да той, па якой баліць тваё сэрца. Яна тут, блізка...

Аднак плылі яны доўга. Бо дэльфіны маюць сваё ўяўленне пра адлегласць. Для іх сотня-другая кіламетраў — проста прыемны вячэрні маціён. Ён жа, седзячы хоць ва ўтульнай і такой прыгожай ракавіне, стаміўся, да таго ж пачаў хваляваца. "Можа, — думаў Ён, — дэльфіны жорстка ашукалі мяне? Вязуць на якую згубу?"

— Мы ніколі не крыўдзім братоў нашых меншых, — нечакана падаў голас дэльфін, і Ён зноў здзівіўся супадзенню іх думак. — Мы ўмеем цаніць спагаду і дабрату. А ў цябе, чалавек, сэрца чулае. Табе цяжка жыць сярод людзей, але лёгка будзе з намі. А вунь, паглядзі, стаіць Яна, тая, з-за якой у цябе грудзі ныюць і цела вяне. Кліч яе!

— Вераніка! — яшчэ не верачы сваім вачам, не то ўсклікнуў, не то паклікаў Ён. — Ты маё шчасце і мой боль, мая радасць і мой смутак, ты мая надзея і вера! Душа стамілася цябе чакаць!..

— Максім! — даляцеў да яго ласкавы шэпт. — Замаркоціўся ты без мяне. Супакойся, цяпер я буду з табою. Годзе табе нудзіцца...

Яна пайшла, сарамліва падбіраючы паркалёвую, у васількі, сукенку, у ваду, зайшла па калені і спынілася. І вочы яе васільковыя выпраменьвалі столькі ласкі і любові, што Ён не ўтрываў, памкнуўся скочыць, каб плысці насустрач.

— Не спяшайся, чалавек! — разважліва прамовіў дэльфін. — І шчасце трэба піць пакрысе. Сам бачыш, Яна пачула плач тваёй шматпакутнай душы. Цяпер вы навекі разам.

Ён дапамог дзяўчыне ўладкавацца ў ракавіне, узяў яе рукі, пяшчотна прытуліў іх да свайго твару.

— Чаму мы плывём да берага? — у адзін голас спыталі Ён і Яна. — Нам тут падабаецца. Мы яшчэ хочам паплаваць!

— Я асцерагаюся азвярэлага марскога д'ябла. Ён высачыў нас. Я ўчуў яго, наш вораг непадалёку. Нам трэба спяшацца.

— Позна! — аж забурліла вада, і страсянулася паветра, пачуўся нетутэйшы, як з глыбокага падвала, уладарны голас. — Позна! Чалавек зрабіў вялікае злачынства, і я павінен пакараць яго.

— Якое злачынства? — тулячы да сябе спалоханую дзяўчыну, здзівіўся Ён. — Я не зрабіў ніякага злачынства! І хто ты такі, каб караць ці мілаваць мяне? Дзе ты, пакажыся?

Вада забурліла яшчэ мацней, зрабілася чорнай, і метраў за сорак ад няшчасных падарожнікаў паказалася велізарная, усцяж лысая, квадратная галава страшыдлы. Ён паспеў толькі заўважыць, што ў д'ябла амаль не было шыі, галава была ўрослая ў тулава.

Дэльфіны па камандзе важака смела рынуліся ў смяротны наступ на д'ябла. Хутка наўкола вада стала чырвонай ад крыві. Дэльфіны змагаліся храбра, яны не хацелі аддаваць на страту людзей, але сілы былі няроўныя. Хітры д'ябал схаваўся ў свой металічны скафандр, і смелыя дэльфіны хіба разбівалі сабе галовы, не прычыняючы страшыдлу ніякай шкоды.

Важак з усяе сілы піхаў і піхаў ракавіну, але яны адплылі ад берага надта далёка, і надзеі на выратаванне заставалася ўсё менш і менш. Урэшце дэльфін са шкадаваннем сказаў:

— Прабач нам, чалавек! Ты зрабіў дабро — пахаваў наша дзіцяня. А мы вось не здолелі цябе ўратаваць. Выходзіць, мы будзем вінаватыя ў тваёй гібелі і гібелі тваёй любай...

— Не! Ён сам вінаваты! — заскрыгатаў зубамі азвярэлы д'ябал, які ўжо дагнаў іх.

— Дык у чым жа мая віна? — спытаў Ён.

— Я загубіў дзіцяня дэльфінаў таму, што яму дадзена было ведаць вялікую таямніцу. Яно магло расказаць яе людзям.

— Што ж гэта за таямніца, што яе нельга ведаць людзям? — уся калоцячыся, не ўтрывала, спытала Яна.

— Стаўшы дарослым, гэты дэльфін меўся расказаць людзям, хто яны, адкуль прыйшлі, навошта жывуць на грэшнай зямлі. Яго не трэба было хаваць! Такая мая воля! Чалавек узяў на душу цяжкі грэх, і ён павінен загінуць...

Не паспеў марскі д'ябал скончыць, як дэльфін-важак, крыкнуўшы: "Бывайце!", — адважна кінуўся на ворага і праз нейкі момант, мабыць, з разбітай галавою паволі пачаў апускацца на марское дно.

Усталявалася злавесная напятая цішыня. Ракавіна ціха гойдалася на вадзе. Ён і Яна стаялі, моцна прытуліўшыся адно да аднаго, чакалі, што будзе далей.

Ён стаяў здзіўлены і ашаломлены. У душы нараджалася і разлівалася па ўсёй істоце ціхая радасць. "Калі б каму расказаць — нізашто не павераць. Скажуць, што выдумаў усё", — паспеў падумаць і тут забурліла, запенілася вада, і на паверхні мора, непадалёку, насупраць яго, спачатку з'явілася ракавіна, пасля — самі дэльфіны. Ракавіна была сапраўды вялікая. Яна была як распілаваная напалову цыстэрна і злёгку гойдалася на хвалях. Паціху дэльфіны пачалі падпіхваць яе да берага, і калі ракавіна павярнулася сваёй зеўрай, Ён аслупянеў. Такой прыгажосці яшчэ бачыць не даводзілася. Усярэдзіне ракавіна была пяшчотна-ружовага колеру, крыху вышэй, па баках, аздоблена перламутрам, срэбрам і золатам. Плаўна пагойдваючыся пад косымі промнямі сонца, яна іграла ўсімі фарбамі вясёлкі і літаральна асляпляла, а само відовішча здавалася фантастычным, неверагодным, казачным.

Дэльфін, мабыць, той самы, зноў падплыў адзін, счакаў, пакуль чалавек нацешыцца і супакоіцца.

— І табе там, любая, цяжка без мяне. Вось якія далоні шурпатыя. Бачна, няшмат было вольных хвілін, усё працуеш?

— Такая ўжо мая доля, любы. Трэба ж камусьці клапаціцца і пра хлеб наш надзённы...

— Я ведаю,— сказаў Ён,— хлеб пахне зямлёю, сонцам, вадою і ветрам. Цяпер я чую гэты пах, ты прынесла яго ў сваіх залацістых косах. Дзякуй табе. Гэта цудадзейны пах, цяпер я павінен паправіцца.

— Я вылечу цябе. Ты ж мая надзея, ты патрэбен мне, бо ты мой заўтрашні залацісты, ясны дзень. — І Яна радасна, звонка засмяялася.

Дэльфіны, якія ганаровым эскортам праводзілі ракавіну, пачулі смех дзяўчыны і, шчаслівыя, пачалі дурэць: падскокваць, куляцца, плыць навыперадкі.

Хоць мора было ціхае і спакойнае, дзьмуў лёгкі, прыемны свежы вятрыска, аднак дэльфін-важак як бы пачаў чагось апасацца. Раптам ён развярнуўся і шпарка пачаў піхаць ракавіну да берага.

— Дык вось, — голасам уладара людскіх жыццяў загаварыў урэшце д'ябал. — Ты, чалавек, ведаеш сваю віну. Ты не хацеў жыць так, як усе. Ты мусіш загінуць. А Яна, — варухнуў квадратнай галавой д'ябал, — хай выбірае: альбо застаецца жыць — я дзьмухну, і ракавіну ветрам вынесе на бераг, — альбо застаецца разам з табою. Тады...

— Я застаюся з маім любым! — не дала дагаварыць Яна д'яблу і яшчэ мацней прытулілася да Яго. — Нашы лёсы паяднаныя. Ён мне, а я яму будзем патрэбны і на тым свеце...

Д'ябал змоўк. Зноў павісла нядобрая цішыня. Чуваць было, як падскоквае і плёхае аб ваду — ці то ловіць мошак, ці то цікуе за няшчаснымі — розная марская рыба.

— А воля мая такая, — казаў д'ябал, — вам застаецца жыць мала. Зараз пойдзе першая хваля, за ёй другая, трэцяя... Дзявятая хваля — ваша непазбежная смерць. Хвалі гэтыя будуць незвычайныя, самі ў тым пераканаецеся. У пакінуты вам для жыцця час вы можаце ўспамінаць, думаць, гаварыць усё, што пажадаеце. Дык помніце: дзявятая хваля — апошняя.

Д'ябал змоўк, і адразу ж падзьмуў халодны пругкі вецер. Мора загуло, загаманіла пасвойму, вада зарабацінілася, закіпела — удалечы нараджалася першая хваля. І была яна сапраўды незвычайная: мякка-ружовага колеру. Ён і Яна пераглянуліся і неяк адразу быццам апынуліся ў сваім дзяцінстве: цяністы здзічэлы сад, чаромха, ліпа, клён... Прыгадаліся белыя галубы. Тыя, колішнія...

Другая хваля, светла-зялёная, ішла наўздагон першай, і ўраз перад іх вачамі паўстаў такі да болю ў сэрцы знаёмы малюнак: буяе зеляніна, пахне дзяцельніцай, кропам, спелымі яблыкамі, і яны самі, узяўшыся за рукі, паволі ідуць па садзе...

— Досыць, любая! — усклікнуў Ён. — Д'ябал хоча нас расчуліць, каб мы папрасілі ў яго літасці. Але ж гэтаму ніколі не бываць! Ці не так, любая?

— Ніколі не бываць! — цвёрда сказала Яна. — Наша каханне святое, яно дасць нам сілы прайсці праз усе выпрабаванні. — І Яна прытулілася да ягоных грудзей.

А неўзабаве пачуўся глухі гул, ён усё нарастаў, і ўжо здавалася, што гэта з высокай гары сыплецца лавіна камянёў. Ён хацеў паглядзець туды, адкуль ішла дзявятая хваля, але адчуў, што не можа адарвацца ад любых вуснаў.

— Ха-ха-ха! — здзекліва зарагатаў д'ябал. — Ваш пацалунак быў такім гарачым, што вашы вусны прыкіпелі. Так вы і загінеце! Ха-ха-ха!

"Вось і добра, — падумаў Ён. — Гэта ўсё-такі не самая горшая смерць — загінуць у пацалунку з той, якой належыць тваё сэрца, думкі і пачуцці. Тут ты, ненавісны д'ябал, пралічыўся".

"Я паміраю ў абдымках таго, хто любіў мяне, як дзіця любіць сваю маці, — думала Яна. — Ён быў, нягледзячы на ўсе пакуты, што выпалі на яго долю, верным мне да канца".

У самы апошні момант Ён падняў вочы, каб паглядзець на хвалю, і не ўбачыў ёй канца. Яна была да самых хмар. І гэта ўжо была не хваля, а сапраўдны дзявяты вал. А колеру ён быў шэрага, і ўсё навакол раптам стала шэрым: вада, неба, чайкі, сам д'ябал, карпусы пансіяната, што бачыліся здалёку. Толькі дзіўная рэч — блакітнымі васількамі свяціліся вочы любай...

І калі ўжо здавалася, што няма і не можа быць ніякага паратунку, калі Ён і Яна адчулі на сабе жудаснае дыханне смерці, на небе мігнуў агністы грозны меч і рассек панурую, падобную да вялізнай жывёлы хмару. Халоднымі бічамі на зямлю лінуў... не, не дождж — лінула кроў. Зноў мігнуў імклівы меч, раз, другі стрэліў пярун, і чорная хмара рассунулася. На небе ярка, ярчэй за тысячу сонцаў, засвяціла зорка Венера. Яе святло спачатку асляпіла, пасля ўшчэнт спапяліла раз'юшанага марскога д'ябла, а шэры дзявяты вал, вуркочучы, нібыта маркотны лясун, паціху стаў адступаць і ўрэшце зусім знік у далечы мора.

— Мы будзем жыць! — радасна ўсклікнулі Ён і Яна.

— Пакуль будзе жыць зямля! — дадаў дэльфін-важак, увесь у свежых, яшчэ не зусім загоеных ранах, але які паспеў ужо заняць сваю вахту і падпіхваў ракавіну да берага.

— Пакуль будзе свяціць сонца! — горда хітнуў галавою Страцім-лебедзь, які прыплыў аднекуль здалёку.

— Мы будзем жыць вечна! — сказалі Яна і Ён. І нараджаліся ў сэрцы чалавека, а вусны шапталі, дзіўныя, залатыя словы:

*Жыві і цэльнасці шукай,*
*Аб шыраце духоўнай дбай...*

Яна ж глядзела на яго ласкава, як добрая маці, і ў думках блаславіляла на доўгае, сапраўды вечнае жыццё.

Галія ФАТЫХАВА

# Студэнт і Мысляр

## Сто радкоў пра два партрэты

**У майстэрні жывапісца Эдуарда Рымаровіча я ўбачыла два партрэты: “Юны Максім Багдановіч — студэнт” і “Максім Багдановіч — філосаф”. У такой паслядоўнасці яны і напісаныя. Другую з гэтых работ мастак яшчэ называе “Думы паэта”. Як з’явілася ідэя напісаць партрэт Багдановіча і чаму партрэтаў атрымалася два?**

“Я даўно марыў напісаць серыю партрэтаў знаных дзеячаў, якія пакінулі свой след у гісторыі Беларусі, — расказвае Эдуард Рымаровіч. — Шмат партрэтаў я напісаў, яны захоўваюцца ў музеях і галерэях розных краін. Калі я бываю ў архівах, дык бачу мноства фотаздымкаў гістарычных асоб, але партрэтаў, напісаных алеем, няшмат. Максіма Багдановіча пісалі ў асноўным паводле аднаго вядомага фотаздымка, які захаваўся ў архіве. Мне ж хацелася стварыць новы вобраз паэта. Я збіраў матэрыялы, чытаў пра яго жыццё, а самае галоўнае — учытваўся ў яго вершы, якія мне так запалі ў душу, асабліва вось гэты, датаваны 1910-м годам:

*Мая душа, як ястраб дзікі,*
*Што рвецца ў неба на прастор,*
*Вартуе вольных*
*птушак крыкі, —*
*Мая душа, як ястраб дзікі.*

*Учуўшы іх, страсе вялікі*
*Свой сон,*
*шыбне ды вышай гор, —*
*Мая душа, як ястраб дзікі,*
*Што рвецца ў неба на прастор!*

Прачытаўшы трохтомнік выбраных твораў паэта, дакументальнае эсэ “Яраслаўль у лёсе Максіма Багдановіча”, зборнік вершаў “Зорка Венера” 1991 года, набыўшы кнігу літаратурна-публіцыстычных артыкулаў “Я хацеў бы спаткацца з Вамі…”, выдадзеную ў 2009 годзе, я адчуў, што гатовы да працы над партрэтам”.

Эдуарда Рымаровіча зацікавіла родная мясціна М. Багдановіча, знакавая ў лёсе паэта. У доме, дзе нарадзіўся будучы класік беларускай літаратуры, з 1913 года размя-



шчалася рэдакцыя “Сахі”, затым “Лучынкі”, тут знайшло прытулак беларускае слова — тое слова, якое гэтак моцна ўзрушыла паэтаву душу. Адсюль пачалася беларуская сталічнасць Менска, сюды прыходзіў Багдановіч, калі наведваўся на радзіму падчас вучобы ў Яраслаўлі. І хаця самога дома ўжо не было, але навокал усё заставалася знаёмым і родным: зялёная вуліца, побач рака Свіслач, за ёй было відаць Татарскія агароды, мячэць, а на пагорку — царкву Святой Марыі Магдалены. Сюды, на сённяшнюю шумную сталічную вуліцу, названую ў гонар паэта, да помніка Максіму Багдановічу прыйшоў Эдуард Рымаровіч, мастак дваццаць першага стагоддзя, і адчуў нешта не-



вытлумачальнае, што ўсхвалявала яго і натхніла.

Два Багдановічавы партрэты, якія ўбачыла я ў майстэрні мастака, напісаныя ў класічнай манеры, у адмысловай тэхніцы, якой валодае толькі маэстра Рымаровіч: заліўка лакамі, пакрыццё воскам, затым фарбамі... Эдуард Георгіевіч робіць шмат залівак, жывапіс атрымліваецца глыбокім, насычаным, і твор захоўваецца надоўга, можна сказаць — на стагоддзі, і палатну не пашкодзіць, калі нават на яго трапіць вада. Працуе Рымаровіч, як старыя майстры: спачатку — падмалёўка, затым паступовае насычэнне колерам, каб партрэт на палатне стаў сапраўдным, паўнавартасным жывапісам, а не нагадваў эцюд.

Мастака ўражвае той факт, што Максім Багдановіч, пераехаўшы з сям’ёю ў Яраслаўль, атрымаўшы адукацыю ў Расіі, пражыўшы большую частку сваіх нядоўгіх гадоў у рускамоўным асяроддзі, пісаў вершы пра Радзіму Беларусь па-беларуску. Яго цудоўныя радкі і сёння кранаюць душы мільёнаў, і не толькі беларусаў. Сваё веданне роднай мовы ён удасканальваў па кнігах, думаў і пісаў па-беларуску, чуў яе музыку ўнутры сябе. Паэтычныя вобразы Багдановічавых твораў, што сталі сімваламі роднага краю, склалі такое “супольніцтва”, з якім асацыіруецца і вобраз самога паэта, і яго жыццёвы лёс...

Аднак першы партрэт не задаволіў Эдуарда Рымаровіча. Мастаку хацелася яшчэ дапрацаваць вобраз, увасобіць іншы душэўны настрой, стан паэта, паказаць яго старэйшым, больш сталым, хоць той не дажыў нават да сваіх дваццаці шасці.

Менавіта твар паэта — “духоўны цэнтр” выявы, у якім засяроджаны і праз які раскрываецца ўнутраны свет асобы, прыгажосць духу творцы. Багдановіча ў апошні год яго жыцця і ўвасобіў на другім партрэце Эдуард Рымаровіч. Максім піша, на стале сшытак, на старонкі якога кладуцца радкі новага верша, ен думае. У хвіліну роздуму позірк яго дапытлівы, глыбокі, разам з тым рамантычны. Паэт у творчым настроі, гатовы занатоўваць плён свайго натхнення... Гэты жывапісны партрэт — не толькі сведчанне майстэрства, высокай тэхнікі перадачы псіхалагічнага стану, але жывы стваральны свет думкі самога мастака, адлюстраваны ў вобразе паэта…

Мастацтва Эдуарда Рымаровіча, традыцыйнае паводле сваёй прыроды, перадасць наступным пакаленням вось такое ўспрыманне Максіма Багдановіча: паэта-філосафа, мысляра, прапаведніка — і чалавека рэальнага, які быў і застаўся ў нашай гісторыі.

***На здымках: два позіркі жывапісца Эдуарда Рымаровіча на вобраз паэта.***

# У музейны гродзенскі вянок

**Спадчына Максіма Багдановіча як шматгранны крышталь. Усё новыя грані, аспекты выяўляюцца, калі асэнсоўваеш яго паэзію. І з гэтага асэнсавання высноўваецца жаданне паразважаць, каб зразумець, напрыклад, якую ролю адыграў горад Гродна ў фарміраванні выключнай творчай асобы, нашага нацыянальнага генія.**

Людміла ДЗМІТРЫЕВА,
фота Віктара Кавалёва

Як вядома, асоба кожнага чалавека фарміруецца першыя пяць гадоў жыцця, а потым ужо развіваецца, сталее, выяўляецца ў розных сферах дзейнасці. У Гродне, дзе яго бацька працаваў у зямельным банку, Максім Багдановіч жыў у 1892 — 1896 гадах. Можна сказаць, што з тых часоў у архітэктурным абліччы горада мала што змянілася. Можна прайсціся па ім і многае ўбачыць тут нібыта вачамі паэтычнага дзіцяці, пакласці кветкі на магілу Максімавай маці на старых гарадскіх могілках, пастаяць побач з месцам, дзе быў дом сям’і Багдановічаў. У 1960-я гады той будынак быў разбураны, бо знаходзіўся ў кепскім, недагледжаным стане, а музей паэта вырашылі зрабіць у суседнім доме, які захаваўся лепш. Менавіта гэты дом стаў у 1982 годзе самастойным літаратурным музеем, які плённа працуе і сёння.

Побач з мемарыяльнымі і экспазіцыйнымі пакоямі ёсць у музеі і невялікая выставачная зала, дзе ладзяцца мастацкія экспазіцыі. Трэба прыгадаць, што фактам перадачы мастакамі Гродна твораў, прысвечаных Максіму Багдановічу, і было канчаткова зацверджана рашэнне наконт адкрыцця музея. Таму цяпер існуе добрая традыцыя: творцы, якія экспануюць тут свае работы, даруюць потым іх у музейны “вянок Максіму”.

Сёння, у дзень юбілею паэта, яго музей у горадзе над Нёманам адкрываецца выстаўка, якая злучыла мастакоў Гродна і Мінска розных пакаленняў. Яна называецца “Гродна — калыска паэта” і мае на мэце паказаць сувязь Максіма з горадам яго маленства, перадаць тыя памкненні да нацыянальнай культуры, мінуўшчыны, хараства прыроды, якія былі закладзеныя ў паэтава сэрца праз першыя дзіцячыя ўражанні ад адкрыцця навакольнага свету.

Мастакі вырашаюць гэтую задачу пазнаму і ў розных відах мастацтва. Яўген Шунейка прапануе тэматычныя кампазіцыі “Бацькі Максіма за піццём кавы”, “Максімка-кніжнік у дзіцячым пакоі”, “Аблокі-вершнікі над Гародняй”. Аляксей Навумчык прымеркаваў да выстаўкі цыкл выяў гродзенскіх вуліц у рамантычна-пейзажным адлюстраванні. (Мушу заўважыць, што Гродна яшчэ не стаў для беларускіх мастакоў значнай крыніцай пейзажнай тэматыкі. Хай жа Максімава Гродна будзе спрыяць далейшым адкрыццям у гэтым напрамку.) А вось Антон Вырва акцэнтуе ўвагу на зімова-веснавых краявідах Гродзеншчыны, што сімвалізуюць нараджэнне паэта-генія, які гарачым словам “рунь узняў на роднай зямлі” (Уладзімір Караткевіч).

Вельмі блізкі аказаўся паэтычны свет Максіма мастакам-прыкладнікам. Людміла Налівайка прапанавала на выстаўку цыкл “У зачараваным царстве”, маючы на ўвазе зачараванае царства ўласных гродзенскіх успамінаў, перадаючы загадкавы вобраз вечаровых, казачных асацыяцый з берагоў Нёмана. Алена Шунейка ў сваіх габеленавых кампазіцыях акцэнтуе ўвагу на гродзенскіх архітэктурных старажытнасцях, якія не менш за Вільню нясуць праз стагоддзі дух славутай нашай гісторыі. Алесь



Аўчыннікаў выканаў цэлую нізку кампазіцыйных выцінанак, у якіх ажывае тонкі стыль “нашаніўскага” мадэрн-дэкору з выкарыстаннем блакітных васільковых акцэнтаў.

Лепшыя творы з гэтай экспазіцыі будуць дзякуючы добрай традыцыі перададзеныя ў дар музею. А мастакі, натхнёныя духам сённяшняга вернісажу і, вядома ж, самога Гродна, будуць працягваць у сваёй творчасці гэтую невычэрпную тэму, абапіраючыся на чароўныя вобразы паэзіі і нязгаснае хараство горада, які таксама быў родны для Паэта.

***На здымках: Антон Вырва “Вялікая вада” (палатно, алей); Людміла Налівайка “Гродна. 1967” (лінарыт).***



## Сталічны вернісаж

Лана ІВАНОВА

На працягу месяца наведвальнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі знаёміліся з мастацкай выстаўкай, зладжанай у межах рэспубліканскага культурна-асветніцкага мультыпраекта “Вянок Максіму”. Тут экспанавалася больш як шэсцьдзясят твораў айчынных жывапісцаў, графікаў, фотамастакоў з фондаў НББ, Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, уласных збораў аўтараў прадстаўленых работ. У полі зроку арганізатараў гэтага праекта (а значыць, і гледачоў) апынуліся творы Барыса Аракчэева, Анатоля Бараноўскага, Юрыя Гаўрына, Арлена Кашкурэвіча, Уладзіміра Кожуха, Рыгора Сітніцы, Юрыя Хілько, Фёдара Ястраба, іншых знаных мастакоў.

Да 23 снежня можна наведаць рэспубліканскую мастацкую выстаўку “Я не самотны...”, прысвечаную 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, якая ўрачыста адкрылася 7 снежня ў Палацы мастацтва. Яе ладзіць Беларускі саюз мастакоў пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры краіны. Безумоўна, для артыстычнага асяроддзя нашага часу шматгранная творчая спадчына паэта з’яўляецца невычэрпнай крыніцай натхнення і змяшчае ў сабе адмысловы камертон. А ў працэсе падрыхтоўкі да гэтай знакавай выстаўкі, на думку яе арганізатараў, ажыццявіўся важны для развіцця нацыянальнай культуры працэс узаемапранікнення і ўзаемаўплыву мастацтва слова і мастацтва выяўленчага. У экспазіцыю ўвайшлі творы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва розных стылістычных напрамкаў і жанраў. Праект паяднаў больш як сотню творцаў розных пакаленняў, неабыякавых да крытэрыяў мастацтва і прыгажосці, да ідэйных, гістарычных, эстэтычных каштоўнасцей, над якімі разважаў і якія апяваў у сваіх вершах вялікі беларускі паэт.

# Пачаткам быў рамanс?

**Доўгая прэамбула да падзеі, якой наканавана разварушыць публіку, што наведаецца сёння на вечаровую прэм'еру ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Кастуся Дробава

Тонкая філасофская вобразнасць, незнарочысты, непадкрэслены, але заўважны артыстызм творчасці Максіма Багдановіча, які з тэмпераментам рамантычнага паэта любіў музыку, а яшчэ і ведаў, і сам пісаў пра яе, — гэты магутны няўгледны магніт улучаў дый улучае ў сваё поле самыя розныя таленты, падсілкоўваючы іх лірычнае натхненне. У гурме шматлікіх палоннікаў "магнітнага поля" Максіма-кніжніка насамперш апыналіся натуры музычныя. Калі было б інакш, не спусцілася б на будзённую нашу зямлю з паднебных вышыняў паэтавага духу "Зорка Венера" — пранікнёны верш, названы самім аўтарам як "Раманс"; верш, які збудзіў да жыцця мелодыю, кангеніяльную класічнай простасці ды чысціні сваіх строф.

Стаўшыся песняй, вершаваны раманс Максіма Багдановіча ўвайшоў у кожнае чулае сэрца. З пакалення ў пакаленне тысячы шчырых беларусаў прызнавалі ў "Зорцы Венеры" сваю самую шляхетную народную песню. Народную — бо ў вірах драматычных падзей, бязлітасных да каранёў нашага радаводу, да нашай гістарычнай памяці, да нашай духоўнай спадчыны, надоўга знікла імя аўтара мелодыі. Ды і сёння далёка не кожны скажа, што напісаў яе вядомы беларускі дзеяч, музыкант-аматар Сымон Рак-Міхайлоўскі. Было гэта ў пачатку XX стагоддзя. А праз колькі часу, калі на еўрапейскім абсягу акрэсліўся абрыс новай Беларусі і ў маладой савецкай рэспубліцы актывізавалася развіццё ўсіх сфер мастацкай творчасці, у тым ліку сваёй прафесійнай кампазітарскай школы, многія паэтычныя вобразы Максіма Багдановіча ўсё часцей раскрывалі сваю непаўторнасць у лучнасці з музыкай.

Дарэчы, днямі ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт з нагоды юбілею Паэта. Праграма ўключала буйныя вакальна-сімфанічныя творы, напісаныя на яго вершы нашымі сучаснікамі: Андрэем Бандарэнкам, Алінай Безенсон, Віктарам Кісценем, Вячаславам Кузняцовым. А колькі яшчэ кампазітарскіх імёнаў можна далучыць да гэтага пераліку! Вакальныя цыклы з адмысловым інструментальным суправаджэннем і рамансы для голасу з фартэпіяна, кантаты і паасобныя акапэльныя хары, песні на вершы самага маладога нашага класіка пісалі кампазітары ўсіх пакаленняў: Мікалай Аладаў, Яўген Глебаў, Эдзі Тырманд, Мікола Равенскі, Яўген Дзяцярык, Алесь Карповіч, Анатоль Зарубка, Сяргей Бельцюкоў, Аляксандр Гулай, Алег Залётнеў, Эдуард Зарыцкі, Уладзімір Карызна, Ларыса Мурашка, Яўген Паплаўскі, Людміла Шлег...

Анатоль Багатыроў адным з першых увасобіў у музыцы праніклівыя спеўныя радкі "Слуцкіх ткачых", зрабіў выбітную акадэмічную (і ў свой час вельмі папулярную ў выкананні шырмаўскай капэлы!) харавую апрацоўку "народнай" песні "Зорка Венера", а яго раманс "Маладыя гады" і сёння гучыць са шчырасцю і свежасцю сапраўднай класікі. Колішні вучань легендарнага кампазітара, сёння ўжо шаноўны класік, уладальнік рэдкаснага дару меладыста Ігар Лучанок падарыў Беларусі сапраўдны шэдэўр: песню "Веранiка". У 1977 годзе тагачасны выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Аляксандр Смольскі прадставіў у якасці дыпломнай работы араторыю "Памяці паэта", звярнуўшыся да тэкстаў Багдановіча. Шматгранную творчасць Галіны Гарэлавай яшчэ ў 1979-м упрыгожылі вытанчаныя і каларытныя "Дзявочыя песні" для сапрана, малой флейты і фартэпіяна. Атрымаўшы зарад натхнення ад "магнітнага поля" Паэта, Леанід Захлеўны апроч нізкі рамансаў для голасу з фартэпіяна стварыў вакальны цыкл для голасу, цымбалаў, габоя і фартэпіяна. А Валерый Іваноў у 1982 годзе напісаў для народнага аркестра канцэртную п'есу "Настрой. Памяці Багдановіча".

Пералік зацягнуўся, можна было б і шматкроп'е паставіць, але ўсё-ткі звярну ўвагу чытача на яшчэ некалькі знакавых імёнаў і назваў. Сталічная інтэлігенцыя старэйшага веку, пэўна, памятае прэм'еру, што адбылася пры канцы лістапада 1970-га ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР. Публіцы была прадстаўлена новая опера Юрыя Семянякі "Зорка Венера". Спектакль стваралі лепшыя майстры: аўтар лібрэта, паэт Алесь Бачыла; музычны кіраўнік і дырыжор Кірыла Ціханаў; рэжысёр Сямён Штэйн, хормайстар Аляксей Кагадзееў, мастак-пастаноўшчык Яўген Чамадураў, балетмайстар Сямён Дрэчын; вядучыя салісты тэатра. Калі ж мінула 15 — 20 гадоў і ўзгадавалася новае творчае пакаленне, а Беларусь, адчуўшы вольны подых перамен, пачала распраўляць крылы, каб, зважаючы на заклік іншага класіка, "заняць свой пачэсны пасад між народамі", свежае дыханне набыла і творчасць Максіма Багдановіча.

Зрэшты, магнетызм яго асобы ніколі "не адпускаў" па-сапраўднаму шчырых, не кан'юнктурных мастакоў, музыкантаў, артыстаў. Людзі родам з рознага дзяцінства, з розным жыццёвым і творчым досведам, далёка не пароўну надзеленыя талентам, працаздольнасцю ды эстэтычным пачуццём, яны чыталі, перачытвалі Багдановіча, на свой лад перастваралі яго вобразны свет сродкамі свайго мастацтва. Усё гэта разам — наш агульны вялікі культурны вопыт: у скульптуры, кніжнай графіцы, на філарманічнай сцэне, у радыёэфіры і на тэлеэкране, у спектаклі колішняга ТЮГа "Ля сіняй бухты" і ў нядаўнім "Інтымным дзённіку" на сцэне РТБД...



На першым канале Беларускага радыё днямі прыгадвалі "Вянок Багдановічу" — цыкл песень, які роўна 20 гадоў таму, да вялікага юбілею паэта, стварыў Уладзімір Мулявін. Прэм'ера адбылася ў Нью-Ёрку, у зале Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Той, хто ведае творчасць мулявінскіх "Песняроў", захоўвае ў памяці песні-залацінкі з гэтага музычнага вянка: "Слуцкія ткачыхі", "Пагоня", "Лявоніха"...

Не забываецца і прэм'ера, што ладзілася ў лютым 1992-га на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі: поп-опера "Максім". Яе музыку напісаў выдатны кампазітар, аранжыроўшчык, піяніст Ігар Палівода. Драматургічную канву выкшталцоўваў паэт Лявон Пранчак, які стаў і аўтарам некалькіх адмысловых песенных тэкстаў. Поп-опера "Максім": для беларускай эстрады гэта было не проста новым, але і сенсацыйным словам. І прагучала яно надзвычай уражліва ў выкананні тады яшчэ маладога, пяць гадоў як заснаванага, калектыву, вядомага цяпер як Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Пра тое, як ішла гэтая праца, пра трыумф яе прэм'еры Ігар Палівода бліскуча, з неадменнай самаіроніяй, пісаў у сваім дзённіку. Асобныя з тых старонак, не прызначаных для публічнага чытання, "ЛіМ" усё ж друкаваў, і нават з працягам. З дазволу ўдавы музыканта, Вольгі Пятроўны. Усім цікаўным рэкамендую зазірнуць у падшыўку нашай газеты за 2003 год: фрагмент дзённікавых запісаў пра поп-оперу "Максім" — у нумары за 26 верасня.

Асоба і творчасць Багдановіча здатныя ўзрушваць сучасную публіку і спараджаць сенсацыю? Мабыць, і так. Але толькі ў тым выпадку, калі да зачараванага вечка, за якім хаваецца датклівы і крохкі свет Паэта, наблізяцца шчырыя творчыя душы і палымяныя сэрцы. Тры гады мінула з часу яшчэ адной нешараговай і трыумфальнай філарманічнай прэм'еры, а ўражанні не забываюцца! Усё было гэтак нязвыкла, нават спалучэнне тэмы новага твора і яго жанравага вызначэння: "Дзень Максіма Багдановіча", сучасная містэрыя. Задуму той прэм'еры не сілкавалі перад'юбілейныя кан'юнктурныя намеры: яна ладзілася 10 снежня 2008 года. Аўтар праекта кампазітар Ларыса Сімаковіч (яна ж і драматург, і рэжысёр, і харэограф, і "генератар ідэй" сцэнічнага афармлення) суаднесла прэзентацыю новай работы з днём нараджэння Максіма Багдановіча. Тым днём, што руцінна паўтараецца кожны год, бо назаўжды прапісаны ў календары, але аднойчы можа стаць для кагосьці знакавым днём: ён быццам бы нічога не кране навокал, але аберне твой унутраны свет і зменіць светапогляд...

Да ўвасаблення містэрыі "Дзень Максіма Багдановіча" прычыніліся фальклор-тэатр "Госьціца", Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" (мастацкі кіраўнік Уладзімір Байдаў), Ян Жанчак ды "In search for", гурт "Ліцьвінскі хмель", артысты мінскіх тэатраў. Вобраз беларускага прарока, чыё імя — Максім Багдановіч, упершыню паўстаў на філарманічнай сцэне. Яго постаць абавязвала да ідэйнай глыбіні і маштабнасці формы, што было задачай "на пераадоленне" для кампазітара Ларысы Сімаковіч, якая ў прынцыпе не лічыць сябе прыхільніцай буйных жанраў і аддае перавагу камернай музыцы. Але Багдановічу (згадайма яго паэзію!) утульна і ў касмічных маштабах. Ці не таму для ўвасаблення ідэі, якая сілкуецца роздумам пра творцу і соцыум, прарока і натоўп, Ларыса Сімаковіч абрала складаны і не характэрны для сучаснага беларускага мастацтва жанр містэрыі?



"Як вынікае з назвы, спектакль — не пра Максіма Багдановіча, а пра дзень, наш з вамі дзень, у якім ёсць мы, нашы стасункі, у якім ёсць і Максім Багдановіч, але да яго яшчэ трэба дайсці. Немажліва напрасткі, жывучы ў пабытавым сёння, дайсці да гэтага чалавека-вяршыні (тут можна прывесці аналогію з недасяжнай зонай у "Сталкеры"). Трэба рыхтавацца да ўзыходжання. Жанр містэрыі дазваляе разгарнуць на сцэне чараду трансфармацый, пераўвасабленняў, з дапамогай персанажаў-сталкераў дасягнуць таго стану, праз які можна будзе наблізіцца да Багдановіча, яго душы і зразумець пэўныя нашы памылкі...", — так разважала кампазітар пра той маштабны праект, які выклікаў нягучную палеміку сярод яе калег. Крытыкавалі за відавочную эпатажнасць, за эклектычнасць — словам, за пэўныя фармальныя пралікі. Але нараканні па сутнасці спектакля... Ці маглі яны быць? Публіка ўпершыню ўбачыла беларускі нацыянальны, паводле сутнасці сваёй, твор: маштабную музычна-пластычную імпрэзу з нашай надзённай і спрадвечнай праблематыкай, з вакалам, танцамі, тэатралізаваным сінтэзам жанраў і фальклорным каларытам. А ў галоўнай ролі выступіла актрыса тэатра і кіно Святлана Зелянкоўская, якая ўвасобіла ўзрушальны маналог Душы Паэта, правяла яе пуцявінамі пакут, спакусаў, расчараванняў, роспачы і — надзеі. Гэта быў надзвычай арганічны вобраз, у які, што называецца, патрапіла актрыса. Яна іграла са шчырай — мала сказаць, неабыякавасцю: з агаленымі нервамі, з болем за драму чалавечага жыцця, за вечнае процістаянне Генія і Зайздрасці, за мову народа, культуру краіны, за гістарычную спадчыну і моладзь. Хто яшчэ з мінскіх акцёраў ці актрыс мог бы гэтак пераканальна сыграць дух і душу Паэта?

Сёння ў сталічнай філармоніі зноў дзень Максіма. Гэтым разам — святочны. І зноў — маштабная прэм'ера: Ларыса Сімаковіч у сваім новым творы раскрывае музыку багдановічаўскага "Апокрыфа". Філасофская прыпавесць Максіма Багдановіча набыла адмысловае драматургічнае аблічча і прыстане ў жанры мюзікла.

Ларыса Сімаковіч перачытвае "Апокрыф" як зварот-разважанне беларускага генія пра сутнасць і сэнс чалавечага існавання, пра немагчымасць жыцця без духоўнага здабытку. Таму цэнтральны персанаж спектакля, у якім ёсць і прарок, і апосталы, і народ, — Музыка. Яна — увасабленне нацыянальнай духоўнай праграмы, якую носіць у сабе кожная таленавітая душа. Абвостранае светаадчуванне, чуйная душа Музыкі не дае загінуць народу...

Прэм'ера мюзікла-прыпавесці прагучыць у выкананні Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Казінца, Дзяржаўнага камернага хору (мастацкі кіраўнік Наталля Міхайлава), фальклор-тэатра "Госьціца" (кіраўнік Ларыса Сімаковіч), маладых беларускіх салістаў і майстроў сцэны.

***На здымках: актрыса Святлана Зелянкоўская і Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава ў містэрыі "Дзень Максіма Багдановіча".***

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі**

# «І толькі на цябе надзея, Край родны мой!»

**Да 120-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча супрацоўнікі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі арганізавалі выстаўку "І толькі на цябе надзея, Край родны мой!"**

На выстаўцы прадстаўлена больш як 150 дакументаў, сярод якіх выданні твораў М. Багдановіча, а таксама працы даследчыкаў творчай спадчыны паэта.

Экспазіцыя пачынаецца з твораў, якія былі надрукаваны ў віленскіх друкарнях Марціна Кухты і Барыса Клецкіна.

Звяртае ўвагу першы том "Твораў М. Багдановіча" (Менск, 1927). Прадмову да гэтага выдання вершаў і апавяданняў напісаў Іван Замоцін, беларускі літаратуразнаўца, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску, дырэктар Інстытута літаратуры Акадэміі навук у 1931—1933 гг. У прадмове ён падкрэсліў каштоўнасць спадчыны паэта, якая засталася нам пасля яго смерці: "Уміраючы ў Ялце, ён цешыў сябе думкай, што пакідае пасьля сябе кніжку "з друкарні пана Марціна Кухты", г.зн. "Вянок". Другім сваім творам, якія былі часткаю надрукаваны ў часопісах, часткаю засталіся ў рукапісах, ён, як відаць, не надаваў такога значэньня, як свайму адзінаму зборніку. Але гэта рэшта, што расьцярушылася па беларускіх часопісах і захавалася ў чыставых і чарнавых сшытках і запісах, так значна і каштоўна з боку свайго зьместу для гісторыі беларускай літаратуры, што Інстытут Беларускай Культуры знайшоў патрэбным падрыхтаваць і выдаць поўны збор твораў М. Багдановіча".

Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Беларусі захоўвае кнігазбор бацькі Максіма Адама Ягоравіча Багдановіча. У свой час ён перадаў Інбелкульту асабісты архіў Максіма і "Матэрыялы да біяграфіі Максіма Багдановіча," якія сам напісаў па замове выдавецкай камісіі Інбелкульта. Гэта спрыяла выхаду ў свет у 1927—1928 гг. двухтомнага збору твораў Максіма Багдановіча. Экзэмпляр быў перададзены А. Багдановічу і цяпер захоўваецца ў яго бібліятэцы. У кнігазборы Адама Багдановіча ёсць яшчэ адна кніга яго сына — другое выданне вядомага зборніка вершаў "Вянок" Віленскага выдавецтва Б. Клецкіна (Вільня, 1927).

Нельга не сказаць і пра выданне з бібліятэкі Адама Багдановіча пад назваю "Крытычна-біяграфічны нарыс" (паасобны адбітак уступнага артыкула да другога тома акадэмічнага выдання М. Багдановіча) прафесара І. Замоціна з дарчым надпісам уладальніку кнігазбору: "Глубокоуважаемому Адаму Егоровичу Богдановичу от автора". Паасобны адбітак "Нарыса" быў выдадзены ў Мінску ў 1929 г., а ўпершыню надрукаваны ў 1927 г. у літаратурна-мастацкім часопісе "Узвышша", № 2. Гэты нумар за 24 мая 1927 г. з дарчым надпісам І. Замоціна таксама захоўваецца ў кнігазборы А. Багдановіча.

Творы нашага славутага земляка М. Багдановіча і літаратура пра яго ёсць і ў іншых асабістых кнігазборах, якія захоўваюцца ў фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў. Гэта кнігі з калекцыі П. Беркава: Збор твораў М. Багдановіча ў двух тамах. (Мінск, 1968), даследаванне М. Грынчыка "Максім Багдановіч і народная паэзія" (Мінск, 1963) з дароўчым надпісам Паўлу Навумавічу Беркаву ад аўтара.



У кнігазборы П. Глебкі таксама захоўваюцца творы М. Багдановіча: зборнік вершаў "Вянок" (Вільня, 1927), "Выбраныя творы" (Мінск, 1946) з дарчым надпісам Сцяпана Майхровіча, датаваным 1946 г.: "Глыбакопаважанаму дарагому П. Ф. Глебку".

Амаль у кожнай асабістай кніжнай калекцыі з фонду ЦНБ НАН Беларусі знойдуцца творы паэта, і расказваць пра іх можна бясконца.



У экспазіцыі выстаўкі шмат нумароў "Нашай нівы", дзе друкаваліся першыя творы паэта на працягу 1909—1914 гг.

Раздзел выстаўкі "Перавыданні, пераклады" дэманструе поўныя зборы твораў Максіма Багдановіча, якія выйшлі ў свет у 1927—1928 гг., 1991—1995 гг., 2001 г., а таксама выданні выбраных твораў, асобных вершаў паэта. Так, у 1981 годзе выйшла факсімільнае выданне "Вянка" (1913 г.).

Творы нашага славутага земляка былі перакладзены на мовы народаў свету. На выстаўцы прадстаўлены некаторыя з іх: на ўкраінскай ("Вінок", 1929 г.), літоўскай ("Vainikas", 1989 г.), а таксама выбраныя вершы на англійскай і французскай мовах, якія ўдала захоўваюць чыстую прыгажосць паэзіі М. Багдановіча, яго літаратурныя пошукі і імкненні.

У асобным раздзеле выстаўкі сабрана літаратура, прысвечаная даследаванням жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Сярод даследчыкаў — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, пісьменнік, гісторык, філолаг, літаратуразнаўца, этнограф Вацлаў Ластоўскі. Яго артыкул "Мае ўспаміны аб М. Багдановічы" надрукаваны ў часопісе "Крывіч" (1926 г., № 11). Гэта надзвычай цікавы матэрыял, у якім распавядаецца пра сумесную працу аўтара артыкула з М. Багдановічам у рэдакцыі беларускай газеты "Наша ніва", якая выходзіла ў Вільні на працягу 1906—1914 гг. В. Ластоўскі прывёў выказванне паэта пра беларускую мову: "М. Багдановіч казаў, што, не глядзя на ўсю яе беднасьць, яна мае ў сабе зародкі новых дум, новых цэннасьцяў. Край беларускі — лясісты і балоцісты. Вось нам і трэба ствараць паэзію лесу, паэзію дрыгвы. Тут ёсьць свая адменная краса, адменная рытміка, адменны чар. Трэба іх падглядзіць, знайсьці і вынесьці на шырокі сьвет…"

Сучасныя даследчыкі літаратурнай спадчыны М. Багдановіча знаходзяць багатую ніву для навуковых даследаванняў. На выстаўцы прадстаўлены працы М. Барсток, Г. Бярозкіна, Н. Ватацы, М. Грынчыка, Л. Зубарава, А. Кабаковіч, У. Конана, А. Лойкі, Я. Міклашэўскага, І. Навуменкі, І. Багдановіч, Т. Ганчаровай-Цынкевіч і многіх іншых. Сучасныя літаратуразнаўцы раскрываюць постаць Максіма Багдановіча і як даследчыка ўкраінскай літаратуры, праводзяць творчыя паралелі паміж ім і класікамі ўкраінскай літаратуры Т. Шаўчэнкам, І. Франко, М. Рыльскім, адзначаюць асаблівую лірычнасць паэзіі М. Багдановіча і яго ўплыў на станаўленне беларускай прафесійнай песні.

Творчая спадчына М. Багдановіча вельмі каштоўная для нас. Нездарма Якуб Колас некалі адзначыў: "Мы павінны сабраць і выпусціць у свет усю літаратурную спадчыну Максіма Багдановіча, каб на ёй раслі і гадаваліся нашыя маладыя кадры літаратараў".

***На здымках: кнігі з фондаў НЦБ НАН Беларусі.***

**Таццяна НАЛОБІНА,**
**загадчык аддзела літаратуры на замежных мовах Брэсцкай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна**

# Разам чыталі Клейста

**У Брэсцкай абласной бібліятэцы імя Максіма Горкага прайшлі нямецка-рускія чытанні, прысвечаныя 200-й гадавіне з дня смерці нямецкага паэта, драматурга і празаіка Генрыха фон Клейста. Ініцыятарамі чытання выступілі выкладчык нямецкай мовы БрДУ імя А. С. Пушкіна, супрацоўніца Германскай службы акадэмічных абменаў (DAAD) Альмут Каплунова і настаўнік нямецкай мовы СШ № 7 Карын Краўс (Цэнтральная служба нямецкіх школ за мяжой, ZfA). Зразумела, цікавую ініцыятыву падтрымалі работнікі бібліятэкі.**

Ідэя правядзення Сусветных чытанняў Клейста з'явілася ў Германіі, у Берліне, і знайшла падтрымку ў 50 краінах усіх кантынентаў: у Еўропе, Азіі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, у Афрыцы і Аўстраліі. Сярод удзельнікаў былі і нашыя блізкія суседзі — Польшча, Літва, Украіна, Расія. У Беларусі брэсцкаўчане першыя і адзіныя, хто далучыўся да акцыі. Для чытанняў былі выбраныя адны і тыя ж урыўкі з твораў Клейста.

Першыя чытанні ў Беларусі атрымаліся аматарскімі, без удзелу прафесіяналаў, майстроў слова. У горадзе над Бугам сабраліся супрацоўнікі абласной бібліятэкі, студэнты гістарычнага факультэта і факультэта замежных моў БрДУ імя А. Пушкіна, аматары нямецкай мовы, філолагі, навучэнцы і выкладчыкі школ, прадстаўнікі СМІ, чытачы — усе, хто хацеў далучыцца да творчасці Генрыха фон Клейста. Даўно заўважана: нішто так не аб'ядноўвае людзей, як жывое слова, і наўрад ці знойдзецца штосьці больш вартае памяці пісьменніка, чым публічнае прачытанне яго твораў.

Спадарыня Альмут распавяла пра жыццё і творчасць Генрыха фон Клейста, пра неспрыяльны яго лёс і складанасці характару, пра непрызнанне сучаснікамі і трагічнае рашэнне, якое рана абарвала яго жыццё. На чытаннях гучалі ўрыўкі з твораў Клейста "Маркіза д'О", "Пра тэатр марыянетак", "Міхаэль Кольхаас", артыкулы "Пра тое, як паступова складаецца думка, калі гаворыш", пісьмы Клейста яго каханай Генрыэце Фогель і сястры Ульрыцы, яго перадсмяротнае пісьмо. Тэксты чыталі нашыя суайчыннікі і прадстаўнікі з Нямеччыны. Слухачам былі прадстаўленыя ўрыўкі, якія б маглі зацікавіць, абудзіць жаданне даведацца, чым скончыцца інтрыга твора альбо да якіх высноў прывядзе філасофскі роздум, эмацыянальнае пасланне аўтара.

Сама ідэя нямецка-рускіх чытанняў, якая дазваляе пашырыць кола ўдзельнікаў акцыі, на дзіва цікавая. Асаблівую карысць і задавальненне атрымалі слухачы, якія валодаюць рускай і нямецкай мовамі. Як пасля заўважылі нямецкія сябры, больш пранікнёна гучалі лісты пра каханне якраз у перакладзе, на рускай мове. Да таго ж, сп. Альмут прапанавала азнаёміцца з выстаўкай плакатаў "У падарожжы па Еўропе. Падарожжы Генрыха фон Клейста" на рускай мове і кніжнай выстаўкай на нямецкай. Абедзве яны прадстаўленыя Інстытутам імя Гётэ ў Мінску. На выстаўцы кніг, у прыватнасці, было прадстаўлена некалькі манаграфій нямецкіх даследчыкаў жыцця і творчасці Генрыха фон Клейста і яго творы, выдадзеныя ў 2009 — 2011 гг. у Германіі.

# Аўтэнтыка пад мікраскопам

Ірына ТУЛУПАВА

**Кнігі, як і іншыя помнікі матэрыяльнай культуры, падлягаюць рэстаўрацыі і кансервацыі. Але калі пра працу будаўнікоў на старажытных замках і сядзібах мы збольшага ведаем, то пра кніжных рэстаўратараў, напэўна, чулі нямногія. Хаця менавіта яны зберагаюць друкаваную спадчыну — сведчанні нашага пісьменства.**

### Прайсці праз лякарню

Нягледзячы на тое, што кніжных рэстаўратараў у нас нідзе не рыхтуюць, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі больш як 30 гадоў працуе аддзел рэстаўрацыі і кансервацыі бібліятэчных дакументаў. З яго загадчыцай Зояй Каваленкай мы прайшліся па пакоях, дзе кнігі набываюць сваё другое жыццё.

— Адборам літаратуры для рэстаўрацыі і кансервацыі мы займаемся сумесна з бібліятэкарамі, — патлумачыла Зоя Станіславаўна. — У нас жа двайная функцыя: як кніжны архіў мы павінны захаваць друкаванае выданне, але перадусім, як любая іншая бібліятэка, мусім забяспечваць запыты чытачоў. Калі кніга знаходзіцца ў такім стане, што яе выдаць карыстальніку нельга, аддзелы, зразумела, аддаюць яе нам на выратаванне. І гэта не абавязкова рэдкая кніга — яна можа быць і сучаснай. Сучасная кніга — пераважна з бясшоўным клееным пераплётам. Некалькі разоў разгорнеш — і яна разлятаецца на лісце. Таму загрузка вельмі вялікая.

### Кнігі ў футаралах

Што датычыць пажылых, сталых, ці, правільней сказаць, рэдкіх кніг, тут супрацоўнікі размяжоўваюць два блізкія паняцці і вызначаюць, якія з фаліянтаў яны будуць рэстаўраваць, а якім неабходна проста кансервацыя. “Я прыхільніца кансервацыі. Калі была ў Польшчы, слухала там даклады нямецкіх, чэшскіх спецыялістаў. Між іншым, якраз немцы — найбольш актыўныя прыхільнікі кансервацыі. Таму што любое ўмяшальніцтва ў “арганізм” кнігі — гэта траўма для паперы. На рэстаўрацыі папера павінна прайсці такія аперацыі, як нейтралізацыя, адбелка, чыстка, прамыўка, прапітка. А гэта хімічная апрацоўка. І хаця пры нейтралізацыі кнігі праходзяць “мяккую” апрацоўку так званай мелавой суспензіяй, гэта, на мой погляд, крайняя мера. А для кансервацыі мы робім з бескіслотнага кардону футарал. У ім і захоўваюцца рэдкія выданні. Такі кантэйнер абараняе ад пылу, святла, вокіслаў. А якраз самая вялікая бяда для паперы — кіслата, якая асядае на аркушах.

Можа, праўда, з часам зменяцца тэхналогіі і падыходы да кансервацыі. На сённяшні дзень працэс гэты мае адзін вялікі мінус: кансервацыя — працэдура вельмі дарагая. Асабліва дарагі кардон, які дае рэзерв жыцця для кнігі гадоў на 50 і болей. Скрыначкі са спецыяльнага кардону за кошт шчолачнага рэзерву, у ім схаванага, абараняюць кнігі ад шкоднай для іх кіслаты. Кардон паглынае і нейтралізуе яе. Кніга ў такім літасцівым для яе рэжыме будзе радаваць вока не аднаго пакалення нашчадкаў. Але ў футарале яна не зачыненая для наведвальнікаў, як гэта можа падасца некаму — рэдкая кніга выдаецца. Хаця яе атрымлівае не кожны: у чалавека для вывучэння і карыстання рарытэтамі павінны быць адпаведны дазвол. Таму цяпер так часта гавораць пра неабходнасць лічбавых копій, і таму так актыўна ідзе алічбоўка фондавых дакументаў. Згадайма, як актыўна ўзнаўляюцца кніжныя зборы Сапегаў, Радзівілаў, Храптовічаў ды іншых. Якія з іх праходзілі праз рукі рэстаўратараў? Зоя Станіславаўна спяшаецца запэўніць: “Ніякія. Мы вырабляем толькі футаралы для іх”. Я бяру ў рукі кантэйнер — ён трывалы, не гнецца і не дэфармуецца. Скрыначкі кроіцца індывідуальна для кожнай кнігі — з улікам іх памераў.



### Грыбная хіміятэрапія

Зоя Станіславаўна прапануе завітаць у пакой да рэстаўратараў. Зауважаю на стале газету, датаваную 1917 годам — які выгляд яна мае, чытач можа сабе ўявіць. З вялікай цікавасцю да тэкстаў спрабую ўчытацца ў радкі. Дарэмна: замінаюць зацертасці на складках, якіх безліч, станчэлыя старонкі, якія страшна браць у рукі, каб не парваць газету чарговы раз: настолькі яна ломкая. Фактычна старонкі самі ўжо рассыпаліся! Гэты ўнікат рыхтуюць да размяшчэння ў лістазалівачную машыну, дзе ён будзе праходзіць наступную апрацоўку. Па ходу мой дасведчаны гід паказвае паперу, якая выкарыстоўваецца для ўмацавання разрываў, краю старонак. Японская! Яна танюткая: адзін квадратны метр важыць 8 грамаў.

Па дарозе да пакоя, дзе ўстаноўлена лістазалівачная машына, завітваем да мікрабіёлага. Ён працуе з рэдкай кнігай, вызначае ступень забруджанасці выдання і стан паветранага асяроддзя вакол яго. У біялабараторыі высяваецца флора, якая “жыве” ў сховішчы. Гэта цвіль, грыбы — асноўныя знішчальнікі паперы. Некаторыя пад мікраскопам выглядаюць нават прывабна. Але мыць рукі пасля судакранання з імі трэба абавязкова.

У розныя перыяды развіцця кнігі для яе друкавання выкарыстоўвалася розная папера і друкарскія фарбы. Па чым, уласна, вызначаюць узрост выданняў. Няўжо і шкоднікі прыходзяць да нас з глыбіні вякоў? — “Не абавязкова”, — заўважае мая спадарожніца. Грыб можна “падхапіць” як хваробу ў любым сучасным памяшканні. “А вы ж ведаеце, раней мы былі раскіданыя па ўсім горадзе. Цэнтральны корпус быў на Чырвонаармейскай, частка кніг знаходзілася ў касцёле ў Ракаве, частка — на Партызанскім праспекце. А памяшканні, як правіла, не прыстасаваныя, і там, дзе шмат пылу і выхлапаў, сітуацыя найгоршая. Таму і вывучаецца так скрупулёзна навакольнае асяроддзе.

— Добра б, каб і пры будаўніцтве бібліятэк улічвалі гэты фактар, — заўважаю маёй субяседніцы, пралічыўшы, што з такімі прыборамі, як тут, можна вызначаць найбольш забруджаныя месцы ў горадзе. Даўно ўлічылі! І зрабілі сістэму, якая падтрымлівае вільготнасць і тэмпературу ў сховішчы, — кажа мая суразмоўца. — Найбольш вывучаемае паветра — у аддзеле рэдкіх кніг: яны захоўваліся шмат у якіх шафах ды кабінетах, палітра шкоднікаў на іх — найбагацейшая. Усяго ж у свеце вядома каля 308 відаў 36 радоў кніжных грыбкоў. У Нацыянальнай бібліятэцы найчасцей сустракаюцца 35 відаў, астатнія знаходзяць у адзінкавых выпадках. Пасля таго, як грыб ідэнтыфікуюць, пад яго падбіраюць хіміятэрапію.

Паводле плана, які выконваецца і часта перавыконваецца, у год такую апрацоўку праходзяць 250 тысяч друкаваных лістоў — і гэта толькі пры ручной апрацоўцы. І больш як 7 тысяч экзэмпляраў кніг апрацоўваюць у дэзкамеры.

### Цуд-машына

Нарэшце мы падыходзім да лістазалівачнай машыны. З назвы лёгка зразумець і ўвесь немудрагелісты працэс ачысткі. Але хто б мог падумаць: каб газета ці гравюра жылі даўжэй, яны павінны прайсці чыстку дысцыляванай вадою! Для газет гэта жывая вадзіца: у яе дабаўляецца адмысловая цэлюлозная маса. Гравюра VIII ст. праяўляецца пасля апрацоўкі ў машыне на маіх вачах! Перад тым, як памясціць у ванну, гравюру пачысцілі ад цвілі, выраўнялі край, а затым на лістазалівачнай машыне надалі прыгожы эстэтычны выгляд. Чароўную масу для працы на лістазалівачнай машыне закупляюць у Чэхіі. Разлічваюць па квадрацыках, колькі грамаў масы патрэбна для ліста, які рэстаўрыруецца: падлік самы жорсткі!

Такія цуды тэхнікі цяпер ёсць у кожнай нацыянальнай бібліятэцы, дзе дакументы праходзяць рэстаўрацыю.

Працаваць на машыне можна толькі калі друкарская фарба, чарніла не цякуць з ліста, калі яны ўстойлівыя для вадкасцей. Гэта значыць, рукапісныя старонкі ў лістазалівачную машыну ніколі не трапяць.

### Ксеракс і “штопка”

На рэстаўрацыю больш за ўсё аддае дакументаў аддзел кнігазахавання. Паводле статыстыкі, калі дакументам карысталіся 38 разоў, яго ўжо трэба прыводзіць у парадак.

Здараюцца ўвогуле варварскія выпадкі, калі чытачы вырываюць альбо выразаюць старонкі кніг, газетныя артыкулы. Тады даводзіцца шукаць і ксеракапіраваць адсутныя фрагменты, нанова ўстаўляць іх у тэкст. Гэткая кніжная “штопка” — пакуль яшчэ справа не забытая.

Ці могуць нанесці шкоду дакументам модныя цяпер ксеракапіраванне і алічбоўка?

Ксеракапіраванне — так. Бо ультрафіялет парушае структуру любой паперы, асабліва старадаўняй. Алічбоўка — працэдура для кніг больш спрыяльная. Але каб яе зрабіць, даводзіцца кнігі расшываць: у такім выпадку не траўміруюцца пераплёт і старонкі.

Пры канцы падарожжа па кніжных сховішчах Нацыянальнай бібліятэкі мне паказваюць яшчэ адну “машыну”: так званую парафармалінавую камеру. У ёй у асобных камерах-боксах заражаныя кнігі праходзяць дэзінфекцыю. Кнігі пасля такой камеры становяцца чыстымі, пазбаўляюцца ад цвілі. А значыць, працягваецца іх жыццё.

Паўсюль у аддзеле рэстаўрацыі ўстаноўлены бактэрыяцыдныя лямпы — ужо з клопатам пра бяспеку чалавека, які тут працуе. Не скажаш, што паветра тут спрыяльнае — хімікаты робяць сваю справу.

Такія ж тэхналогіі працы з кнігаю выкарыстоўваюць і Нацыянальная расійская бібліятэка, і бібліятэкі Польшчы, Літвы і нават Партугаліі. Беларусь саступае, бадай, толькі па маштабах працы і колькасці супрацоўнікаў — калі ў той жа расійскай бібліятэцы ў штаце адпаведнага аддзела каля 100 чалавек, то ў нашай прафесійна працуюць 16 энтузіястаў. Праблема кадраў абвастраецца тым, што працуюць на рэстаўрацыі кніг, так бы мовіць, прадстаўнікі сумежных прафесій: выпускнікі альбо тэхналагічнага ўніверсітэта, альбо паліграфічнага каледжа. Хаця і гэта ўжо прагрэс: у былой “Ленінцы” было 8 чалавек, якія больш займаліся прафілактыкай “захворванняў”. А ў асноўным працавалі з пераплётам: кніг і газет. Між іншым, у год пераплятаецца ў падшыўкі больш як 3,5 тысячы экзэмпляраў газет. Калі гадавую падшыўку ўсіх газет пакласці разам, то стос будзе вышынёю з саму бібліятэку — 68 метраў! Гэта зазначае Зоя Каваленка перад развітаннем і рэзюмуе: “Працы, як і паўсюль, шмат, аднак асэнсаванне таго, што ты захоўваеш для пакаленняў нашу спадчыну, многае значыць”.




***На здымках: мікрабіёлаг за працай; кантэйнер з бескіслотнага кардону.***

---

## Штрых-код

## Што было

### Літаратурны «Снукер»

Пры Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя Леніна пачаў працаваць клуб аматараў літаратуры “Ні дня без кнігі”. Пастаяннымі наведвальнікамі яго з’яўляюцца людзі самых розных узростаў і прафесій. На апошнім пасяджэнні клуба адбылася сустрэча з лаўрэатам прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, вядомым беларускім пісьменнікам гамяльчанінам Васілём Ткачовым. Члены клуба пазнаёміліся з апошнімі кнігамі пісьменніка “Снукер”, “Дом камуны”, “Пад горадам Горкім”, “Булачка”. Васіль Ткачоў адказаў на шматлікія пытанні прысутных, падзяліўся творчымі планамі і прачытаў некалькі новых гумарэсак.

**Антон АЎГЕЕЎ**

### Ліцвянская сустрэча

Традыцыйна на Уздзеншчыне ладзіцца шмат цікавых імпрэз, якія прапагандуюць творы беларускіх пісьменнікаў. Нядаўна ў Ліцвянскай базавай школе адбылася творчая вечарына “З кнігай назначана сустрэча”. Яе падрыхтавалі і правялі бібліятэкары дзіцячага філіяла Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса сумесна з Ліцвянскай сельскай бібліятэкай. На вечарыну запрасілі члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, краязнаўца, лаўрэата шматлікіх літаратурных конкурсаў Дзмітрыя Вінаградава. Адбылася прэзентацыя яго кнігі “Паданне пра каханне” (2011), дзе аўтар знаёміць чытачоў з легендамі пра рэкі Лошу і Нёман. Пры канцы сустрэчы бібліятэкары правялі віктарыну для дзяцей “Ведай родны край”.

**Аксана ДРАЧАН**

### Замест лектара — пісьменнік

Адной з найбольш крэатыўных форм работы многіх бібліятэк з’яўляецца правядзенне сустрэч чытачоў з аўтарамі кніг — беларускімі пісьменнікамі. Звяртаюць увагу на гэта і пры арганізацыі вучэбнага працэсу ў Інстытуце культуры Беларусі, дзе круглы год павышаюць прафесійную кваліфікацыю работнікі адпаведнай галіны і дзе даволі часта лектарамі становяцца пісьменнікі.

Нядаўна ў інстытут завітаў Анатоль Зэкаў. Пісьменнік, які працуе ў розных літаратурных жанрах і творчасць якога шматгранная ў тэматычным плане, сваім выступленнем пераканаўча прадэманстраваў, як цікава могуць праходзіць бібліятэчныя сустрэчы. Госць чытаў патрыятычныя і лірычныя вершы, урыўкі з чарнобыльскай паэмы “Аварыя сумлення”, расказваў гісторыі з кнігі “Алесь”, прысвечанай свайму сябру, паэту А. Пісьмянкову, прэзентаваў кнігу для дзяцей “Зязюля Гулюля”, весяліў публіку гумарыстычнымі творамі і літаратурнымі пародыямі.

**Анатоль ПАТАПАЎ**

# Не схільныя да піяру

Марына СТУПІНСКАЯ

**По ініцыятыве бібліятэк Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы не адзін год ладзяцца сістэматычныя дабрачынныя акцыі ў дапамогу сацыяльна неабароненых людзей: дзяцей-сірот, дзяцей з асаблівасцямі развіцця, з малазабяспечаных сямей.**
**У лік неабароненых уваходзяць, на жаль, і адзінокія састарэлыя людзі.**

У 1996 годзе Цэнтральная гарадская бібліятэка імя А. І. Герцэна сумесна з Гомельскім райвыканкамам, упраўленнем па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва пры ўдзеле абласных упраўленняў культуры і аховы здароўя, абласнога драматычнага тэатра, Саюза мастакоў Беларусі стала праводзіць дабрачынныя акцыі ў бальніцы вёскі Старыя Дзятлавічы. Супрацоўнікі бібліятэк штогод збіралі кнігі і мастацкія карціны, сіламі музычнага каледжа імя Н. Ф. Сакалоўскага і дзіцячай музычнай школы імя П. І. Чайкоўскага арганізоўвалі выязныя канцэрты для састарэлых людзей. Дзякуючы акцыі ў насельнікаў бальніцы з'явілася ўласная карцінная галерэя і невялікая бібліятэка.

Паступова да сацыяльнай працы далучыліся і іншыя кніжніцы горада. Цяпер бібліятэкары часта сустракаюцца з выхавальнікамі Навабеліцкай школы-інтэрната, Дома немаўляці і насельнікамі Дуянаўскага дома састарэлых і інвалідаў. Штогод яны атрымоўваюць у падарунак цацкі і кнігі, адзенне, радуюцца салодкім сюрпрызам і музычным вечарынам. Здзейсніць задуманае дапамагаюць Гомельскі вагонарамонтны завод, Дом культуры «Фестывальны», творчыя калектывы музычных школ. Акцыя шырыцца, і да яе далучаюцца ўсё новыя людзі, прычым розных прафесій. Нават індывідуальны прадпрымальнік па сваёй ініцыятыве забяспечвае праезд да месцаў сустрэчы камфортным транспартам. Але пошук спонсараў не спыняецца.

Дабрачынныя акцыі бібліятэк звычайна прысвячаюцца пэўным датам календара: Міжнароднаму дню аховы дзяцей, Дню пажылых людзей, Дню інвалідаў, святкаванню Новага года і інш.

Дарэчы, бібліятэкі Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы арганізуюць сустрэчы ў клубах для састарэлых людзей. Гамяльчане сталага ўзросту маюць магчымасць прыемна бавіць час у трох падобных аб'яднаннях па інтарэсах. Для наведвальнікаў клубаў гэта месца сустрэч і прыемных гутарак паміж сабой і з запрошанымі гасцямі — акцёрамі, літаратарамі, музыкамі, майстрамі дэкаратыўна-прыкладной творчасці, самадзейнымі артыстамі. У адну з перадапошніх сустрэч госцем клуба "Мудрасць" пры бібліятэцы-філіяле № 14 стаў Уладзімір Зянкоў. Уладзімір Іванавіч працуе ўчастковым урачом у гарадской бальніцы, а свой вольны час аддае паэзіі. У творчай скарбонцы яго вершы лірычныя, маральна-філасофскія і — што рэдкасць у апошні час — байкі. Большасць з наведвальнікаў ведала госця як медыка і нават не здагадвалася пра яго захапленне высокім мастацкім словам. Але пасля сустрэчы на паліцах многіх хатніх бібліятэчак з'явілася новая кніга гэтага аўтара.

# Музычнае прачытанне

Дзмітрый СКУБІЛАЎ

**У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна прайшла літаратурна-музычная вечарына "Зорка Максіма ўзышла над зямлёю…", прымеркаваная да 120-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры.**

Сцэнарый для мерапрыемства падрыхтавалі студэнткі факультэта інфармацыйна-дакументных камунікацый Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Вікторыя Саук, Вольга Саулава, Юлія Ткачэнка, Аліна Фёдарава, Святлана Хахель і Кацярына Яскевіч. Кіравала працай студэнтаў кандыдат педагагічных навук дацэнт Анжаліка Прадзеіна. Інтэр'ер залы ўпрыгожвала выстаўка, прысвечаная Максіму Багдановічу.

Музычную частку праграмы склалі вакальныя кампазіцыі на вершы паэта.

Дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка распавяла пра архіўную спадчыну Максіма Багдановіча і прадэманстравала некаторыя архіўныя фотаздымкі. Ганна Вячаславаўна перадала супрацоўнікам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча дыск з запісанымі на ім дакументамі і фотаздымкамі са спадчыны сям'і Багдановічаў.

# «Шпарка коні імчацца ў полі…»

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

**Імгненнасць жыцця на зямлі, імклівасць падзей, незваротны кругабег часу — усё гэта рознымі выяўленчымі сродкамі імкнуліся перадаць у Гродне ўдзельнікі конкурсу творчых работ "Вечнае свята Максімавай зоркі".**

Постаць вечна маладога паэта вабіць сваёй шчырасцю і лірызмам, загадкавасцю лёсу і… паяднанасцю з краем, дзе нарадзіўся, рос і дзе за час, адведзены для жыцця, паспеў зрабіць ці не ўдвая больш за магчымае. На гэта якраз і звярталі ўвагу ўсе, хто снежаньскімі днямі спрычыніўся да прачытання выбітных беларускіх твораў.

Заснавальнікамі конкурсу да 120-годдзя Максіма Багдановіча выступілі ўпраўленне культуры Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта і Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага. А найбольш актыўна ўдзельнічалі ў ім студэнты вышэйшых навучальных устаноў, навучэнцы сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і агульнаадукацыйных школ горада. Пераважна гэта чытачы абласной бібліятэкі, розных яе аддзелаў, у тым ліку і юнацкага філіяла, які размяшчаецца ў славутым доміку Элізы Ажэшкі. Ведаючы, наколькі багатая паэтычная спадчына паэта, арганізатары не сталі абмяжоўвацца ўласна літаратурнымі спаборніцтвамі. Кожны ўдзельнік меў права выкарыстоўваць тыя выяўленчыя сродкі, мова якіх яму больш блізкая і дзе ён змог найбольш поўна выказаць свае ўражанні ад прачытання Максімавай спадчыны. Ацэньваліся малюнак, верш ды водгук, прысвечаныя жыццю і творчасці аўтара "Вянка".

Зразумела, што водгукі і вершы павінны былі быць выкананыя на беларускай мове. "Па кожнай намінацыі прадугледжвалася адно 1-е, адно 2-е і адно 3-е месца", — патлумачыла намеснік дырэктара па навуковай працы абласной навуковай бібліятэкі Марына Ігнатовіч. Вынікі конкурсу падводзіліся на пасяджэнні журы.

Узнагароджанне пераможцаў адбудзецца сёння, 9 снежня, на ўрачыстым сходзе. У намінацыі "Лепшы водгук" першае месца заняла Марына Рукша — вучаніца 8 "А" класа сярэдняй школы № 34 г. Гродна. "Лепшы верш" напісала Вольга Шахнюк — вучаніца 11 "Б" класа сярэдняй школы № 3 імя В.М. Усава г. Гродна, у намінацыі "Лепшы малюнак" пераможцай стала Анастасія Калбаска — вучаніца 5 "А" класа сярэдняй школы № 38 г. Гродна. Усяго журы разглядала 120 творчых работ.

Відавочна: конкурс гарадзенцамі заўважаны і з цікавасцю прыняты. Яго актыўна падтрымалі нават вучні сярэдніх школ і гімназіі № 6 г. Гродна, а таксама наведвальнікі цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Спектр", клубаў па інтарэсах (для дзяцей і падлеткаў) "Вясёлка", "Дружба".

Між іншым, намінацыя "Лепшы малюнак" прыйшлася даспадобы вучням малодшых класаў. Большасць малюнкаў яны прысвяцілі паэме "Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык". Вельмі ж хораша прадставілі яны сцэну вяселля: тут шмат паэтычнай выдумкі, гумару ў апісанні танцаў, частавання за сталом, віншаванняў.

Выклікалі зачараванне і малюнкі, падрыхтаваныя да зборніка М. Багдановіча "Вянок", па асобным вершы "Астры", а таксама водгук, часткай якога стаў малюнак, пад назвай "Шпарка коні імчацца ў полі" на верш "Зімовая дарога". Пры канцы года зімовая дарога гродзенцаў прывяла да М.Багдановіча.

Тры пытанні юбіляру

# Урокі красамоўства ў каледжы

Ірына ТУЛУПАВА

**Магілёўскі дзяржаўны бібліятэчны каледж імя А. С. Пушкіна святкуе сваё 65-годдзе. Менавіта тут рыхтуюць спецыялістаў, якія прапагандуюць беларускую літаратуру і культуру, далучаюць дзетак да чытання і даюць дарослым парады, што чытаць. Сёлета дырэктарам каледжа прызначана Святлана Казлова.**

**— Святлана Анатольеўна, напэўна, я пачну з пытання не зусім святочнага. Бібліятэчны каледж у Магілёве — адзіная ў краіне ўстанова, якая рыхтуе кадры бібліятэкараў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. І ў гэтым яго ўнікальнасць. Але ці дастатковы на сёння такі ўзровень падрыхтоўкі? Сучасныя бібліятэкі лічацца сацыякультурнымі цэнтрамі рэгіёнаў, да бібліятэкараў звяртаюцца людзі, якім патрабуецца інфармацыя з розных сфер, у тым ліку і навукі. Шмат хто шукае звесткі з сусветных баз дадзеных…**

— Так, і нягледзячы на тое, што кіраўнікі бібліятэк, дзе працуюць былыя навучэнцы, запэўніваюць, што нашыя выпускнікі — дастаткова кваліфікаваныя спецыялісты, мы разумеем, што сённяшнія патрабаванні да іх даволі высокія. Праца ў сучасных кніжніцах патрабуе намнога большага. Але справа ў тым, што якраз у нашых навучэнцаў і ёсць унікальная магчымасць павышаць адукацыю: мы шмат гадоў працуем з Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў, з яго профільным факультэтам — інфармацыйна-дакументных камунікацый. І ўсе жадаючыя могуць працягваць навучанне і атрымліваць ужо вышэйшую адукацыю па бесперапыннай скарочанай сістэме як на дзённым, так і на завочным аддзяленнях.

Паводле ацэнак выкладчыкаў, прафесараў гэтага факультэта, навучэнцы пасля заканчэння каледжа маюць добрыя веды — практычна 70 працэнтаў нашых выпускнікоў паступаюць у ВНУ і працягваюць навучанне. Таму наша супрацоўніцтва не спыняецца, а толькі развіваецца. У дні святкавання юбілею будзем канкрэтызаваць і працягваць дагавор.

**— Вядомы і іншыя лічбы: каля 80 працэнтаў вашых выпускнікоў складаюць кадры нашых бібліятэк.**

— Гэта так. У большай ступені мы забяспечылі спецыялістамі сваю родную Магілёўскую вобласць. І вельмі вялікая запатрабаванасць у нашых кадрах ва ўсіх абласцях без выключэння. Між іншым, дырэктар суседняй Бранскай абласной бібліятэкі Святлана Дзядзюля — выпускнік нашага каледжа. Абавязкова назаву Мікалая Аляксандравіча Яцэвіча — дэкана факультэта інфармацыйна-дакументных камунікацый, прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў — ён таксама наш выпускнік. Выпускніца нашага ў той час яшчэ тэхнікума Ніна Андрэеўна Ляйко — прафесар гэтага ўніверсітэта.

**— Сярод вашых выпускнікоў шмат і тых, хто сам стаў вядомым літаратарам. У чым жа сакрэт такога поспеху?**

— Многім вядомыя такія імёны, як Уладзімір Марук, Алесь Махнач альбо малады творца Алесь Паўлухін, які працуе ў Рагачове бібліятэкарам, а таксама актыўна друкуецца ў літаратурных выданнях Беларусі і Расіі. Назаву і іншых: Анатоль Чаркасаў, Аляксей Каўка, па творах якога здымаліся і дакументальныя фільмы. У чым сакрэт? Напэўна, літаратурнае асяроддзе каледжа, менавіта тая ўвага, якую надаюць мовазнаўцы вывучэнню мовы і літаратуры, спрыяе таму, каб сярод нашых навучэнцаў з'яўляліся творцы. Цягам многіх гадоў у нас працуе літаратурнае аб'яднанне, выдаюцца паэтычныя зборнікі. Не так даўно, як вы ведаеце, у Магілёве праходзілі Міжнародныя Сіманаўскія чытанні. У межах чытанняў праводзіўся абласны літаратурны конкурс. Дыпломам І ступені ў намінацыі "Малая проза" ўганаравана выкладчыца каледжа Алена Шаркова, у намінацыі "Паэзія" — дыпломамі ІІІ ступені — навучэнкі Таццяна Кавальчук і Кацярына Лясун.

Традыцыйна шмат гадзін аддаецца вывучэнню літаратур: як сусветнай, так і рускай і, бясспрэчна, беларускай — як класічных твораў, так і сучасных. У бібліятэцы каледжа, як і ва ўсякіх кожнай узорнай чытальні, праходзяць літаратурныя вечары, гасцёўні. І думаем, што літаратурную працу будзем пашыраць. У нашых бліжэйшых планах — стварэнне тэатральнага калектыву.

Што да самога працэсу навучання, то мы не так даўно адкрылі новую спецыяльнасць — "Дакументазнаўства і дакументацыйнае забеспячэнне кіравання". Шмат часу адводзім вывучэнню камп'ютарных дысцыплін. Таму, адказваючы на ваша першае пытанне, зазначу: мы сапраўды прызвычаіліся бачыць бібліятэку як месца, дзе захоўваюцца кнігі, але на сённяшні дзень усё больш важную ролю адыгрывае электронная кніга. І неабходна ўмець працаваць з ёю — каб зарыентаваць чалавека, на якіх сайтах лепш шукаць запаветны "томік", каб расказаць яму пра навінкі. Фарміраванне інфармацыйна-дзелавога цэнтра на базе бібліятэкі каледжа якраз і разлічана на тое, каб нашы выпускнікі ўмелі гэта рабіць. З улікам сучасных тэндэнцый у развіцці сферы культуры, мы шмат увагі надалі распрацоўцы новага вучэбнага плана па асноўнай спецыяльнасці "Бібліятэказнаўства і бібліяграфія", кірункам "Аўтаматызаваныя бібліятэчныя і інфармацыйныя сістэмы" і "Бібліятэчна-клубная работа".

І яшчэ заўважу: гісторыя нашага каледжа пачалася ў пасляваенныя гады, калі наспела неабходнасць у падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў для бібліятэк. Былі патрэбныя людзі, якія б прафесійна прапагандавалі дасягненні культуры, выхоўвалі любоў да кнігі. Прайшло шмат гадоў, змяніліся часы і тэхналогіі, а бібліятэкары па-ранейшаму дбаюць пра тое, каб стварэліся праграмы падтрымкі чытання, каб людзі любілі кнігі. Бо яны захоўваюць мудрасць пакаленняў.

# Брама вучонасці

Ірына ТУЛУПАВА,
фота
Аляксандра Сцефановіча

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі працуе выстаўка "Я знак бессмертия себе воздвигнул", прысвечаная 300-годдзю з дня нараджэння М. Ламаносава.**

Постаць гэтага чалавека ўражвае сваёй велічнасцю і маштабнасцю. Вучоны-прыродазнаўца сусветнага ўзроўню, паэт, жывапісец і гісторык, ён увасобіў у сабе шмат чалавечых якасцей, пра якія не лішне памятаць нашым сучаснікам. Найперш — апантаную прагу да ведаў, якая яшчэ ў дзевяцігадовым узросце дазволіла яго першаму настаўніку, дзячку царквы, які вучыў хлопчыка чытаць псалмы, з чыста хрысціянскай пакорай укленчыць перад вучнем і сказаць: "Гэтага чалавека я больш навучыць не магу".

Тое, што прага ведаў мела над ім неабмежаваную ўладу, падкрэслівалі ўсе, хто завітаў на ўрачыстае адкрыццё выстаўкі. Акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя звярнуў увагу на тое, што "Ламаносаў — асоба, якая належыць свету. І менавіта нашы продкі паспрыялі таму, каб сфарміраваліся першыя навуковыя погляды гэтага выдатнага, апантанага чалавека". Сярод экспанатаў выстаўкі асаблівую каштоўнасць маюць "Псалтырь в стихах" (1680) Сімяона Полацкага, "Арифметика" (1703) Лявонція Магніцкага і "Грамматика" (1721) Мялеція Сматрыцкага — кнігі, якія М. Ламаносаў называў "брамай сваёй вучонасці". "Мы, беларусы, павінны ведаць пра тое, памятаць і ганарыцца", — падкрэсліў дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Вячаслаў Даніловіч.

Прыклад Ламаносава як чалавека, які зрабіў карысныя напрацоўкі ў гістарычнай навуцы, таксама неацэнны. Што асабліва каштоўнае — гісторыя Расійскай дзяржавы ў межах таго часу фарміравалася з пункту гледжання рускага народа. Паводле Вячаслава Віктаравіча, гэты пастулат актуальны і для нас.

Дарэчы, цяпер на навуковых канферэнцыях рознага ўзроўню абмяркоўваецца вялікая спадчына М. Ламаносава. У Расіі выдадзены альбом, у якім адлюстравана 27 навуковых напрамкаў, дзе вучоны праявіў сваe веды. "Разгорнутая ў бібліятэцы Акадэміі навук Беларусі выстаўка павінна быць найперш звернута да маладога пакалення, трэба даводзіць юнакам і дзяўчатам, наколькі пазнавальныя факты ў ёй змешчаныя", — рэзюмаваў уражанні прысутных Аляксандр Каваленя.

Выстаўка мае некалькі частак, кожная з якіх па-свойму ўнікальная. У экспазіцыі прадстаўленыя прыжыццёвыя выданні М. Ламаносава, такія, як "Собрание разных сочинений в стихах и прозе" (1757), "Краткий российский летописец с родословием" (1760), а таксама больш познія выданні асобных прац вучонага, зборы твораў. Цікава: поўны збор твораў Ламаносава быў выдадзены ў СССР у 1950-х гг.

Яшчэ некалькі раздзелаў выстаўкі прадстаўляюць М. Ламаносава як вучонага-энцыклапедыста, "эпоху ў асобах" і выказванні "вялікіх пра вялікага". Выданні даследчыкаў яго жыцця і дзейнасці таксама ўражваюць сваёй вычарпальнасцю. Экспазіцыя змястоўная і як быццам усеабдымная. Хаця вельмі яркія расповеды людзей, спрычыненых да вывучэння спадчыны Ламаносава, усё ж пераконваюць: у шматграннай асобы нямала можна знасці нявывучанага ці прызабытага. На тую акалічнасць, што ў рускай культуры XVIII ст. Ламаносаў быў не адзіны шматбакова адукаваны, звярнуў увагу намеснік дырэктара Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Сяргей Гаранін: "Тое стагоддзе пачыналася з Пятра І, які таксама цікавіўся самымі разнастайнымі сферамі жыцця. Але Пятром І у літаратуры быў названы сучаснікамі Ламаносаў. І гэта таксама з'яўляецца своеасаблівай загадкай, на якую разам з тым ёсць адгадка".

Адгадак, напэўна, можна знайсці не адну. Можна захапляцца вучоным, які, прыкладам, не толькі засвойваў грамату красамоўства, але і з вялікай павагай ставіўся да сваёй мовы, заклікаў удумліва ставіцца да ўжывання іншамоўных слоў, перакладаць іх, альбо — пры немагчымасці гэтага — адаптаваць да рускай мовы. І той факт, што ў гісторыі быў час, калі Ламаносава памяталі пераважна як вершаскладальніка, таксама рэальны.

Супрацоўнікамі бібліятэкі да выстаўкі падрыхтаваны цудоўны відэафільм, які якраз і апавядае пра цікавыя факты жыцця, арганічна ўплеценыя ў агульную канву выключнага маналогу, прысвечанага выдатнай асобе гісторыі — заснавальніку першага ўніверсітэта М. Ламаносаву.



***На здымку: акадэмік-сакратар Аляксандр Каваленя на выстаўцы, прысвечанай 300-годдзю М. Ламаносава.***

## Штрых-код

**120-годдзе з дня нараджэння М. Багдановіча адзначаецца ва ўсіх бібліятэках краіны.**

### *Брэсцкая вобласць:*

**"І вее верш мой дзіўнай казкай"** — пад такой назвай у Брэсцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна праходзіў конкурс чытальнікаў. У конкурсе, арганізаваным сумесна з аддзелам адукацыі Ленінскага раёна г. Брэста, узялі ўдзел звыш 40 вучняў 5 — 11 класаў школ і гімназій горада.

**9 снежня** літаратурную гадзіну да 120-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча праводзіць Пінская цэнтральная раённая бібліятэка імя Я. Янішчыц.

У дні юбілею ў бібліятэках Бярозаўскага раёна пройдзе шэраг сустрэч, як, прыкладам, электронная прэзентацыя "Максім Багдановіч: жыццё і творчасць" (Малецкая сельская бібліятэка).

### *Віцебская вобласць:*

**9 снежня** літаратурна-музычную вечарыну "Незабыўны Максім Багдановіч" праводзіць Гарадокская цэнтральная раённая бібліятэка.

**9 снежня** на літаратурна-музычную імпрэзу "Я хацеў бы спаткацца з Вамі" запрашае сваіх чытачоў Полацкая гарадская бібліятэка імя Янкі Купалы.

**13 снежня** сустрэчу "Пад вернай зоркай Венерай" прапануе Віцебская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна.

### *Гомельская вобласць:*

**8 снежня** ў Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна прайшоў фінал гарадскога конкурсу чытальнікаў "Свет паэзіі Максіма Багдановіча". Заснавальнікамі творчых спаборніцтваў выступілі Гомельская гарадская цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма і Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**9 снежня** літаратурна-мастацкую вечарыну "Наш Багдановіч" арганізуе Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. І. Леніна сумесна з абласной філармоніяй, абласнымі аддзяленнямі Саюза мастакоў і Саюза пісьменнікаў Беларусі. У рамках вечарыны будзе адкрытая выстаўка работ гомельскіх мастакоў, прысвечаная аўтару "Вянка".

### *Гродзенская вобласць:*

**З 3 па 9 снежня** ў аддзеле краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага дзейнічае адкрыты прагляд літаратуры "Вечнае свята Максімавай зоркі".

**9 снежня** Асінаўшчызненская сельская бібліятэка Смаргонскага раёна запросіць чытачоў на літаратурную вечарыну. Пройдзе конкурс на лепшага чытальніка вершаў М. Багдановіча.

**22 снежня** пасяджэнне аматарскага аб'яднання "Літаратурныя чацвяргі", якое дзейнічае пры ўніверсальнай чытальнай зале абласной бібліятэкі, пройдзе ў Гродзенскім музеі Максіма Багдановіча.

### *Магілёўская вобласць:*

З **1 снежня** і да канца года аддзел інфармацыйных рэсурсаў Магілёўскай абласной бібліятэкі запрашае ўсіх жадаючых наведаць віртуальную выстаўку "Свята паэзіі Максіма Багдановіча", размешчаную на інфармацыйным сайце бібліятэкі (http://www.library.mogilev.by/). На выстаўцы прадстаўленыя дакументы і матэрыялы пра жыццё і творчасць паэта, яго кнігі. Акрамя таго, віртуальная выстаўка змяшчае вершы, цытаты беларускіх паэтаў і празаікаў, прысвечаныя Багдановічу, а таксама метадычныя распрацоўкі і інтэрнэт-рэсурсы.

**6 снежня** Бабруйская раённая бібліятэчная сістэма арганізавала сустрэчу "Ён жыў адным дыханнем з Беларуссю".

**8 снежня** аддзел беларускай і краязнаўчай літаратуры абласной бібліятэкі правёў паэтычную вечарыну з мультымедыйнай прэзентацыяй. Гучалі вершы паэта і песні на яго вершы ў выкананні студэнтаў педагагічнага факультэта Магілёўскага філіяла Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

### *Мінская вобласць:*

**2 снежня** падведзены вынікі злёту юных талентаў Маладзечаншчыны "Зямля мая, Маладзечаншчына" ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя М. Багдановіча.

**5 снежня** ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна прайшла літаратурная вечарына "Зорка Максіма ўзышла над зямлёю…"

**9 снежня** ў дзіцячай бібліятэцы-філіяле імя Я. Маўра Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна пройдзе літаратурна-музычная вечарына "Дарогамі Максіма".

**У першай палове снежня** адбудзецца ўрачыстае ўзнагароджанне пераможцаў раённага конкурсу сярод бібліятэк Маладзечанскага раёна па прапагандзе беларускай літаратуры і папулярызацыі творчасці Максіма Багдановіча "У родным краі ёсць крыніца".

## Зачытаныя кнігі

**Рэйтынг найбольш чытаемых кніг прапануе Цэнтральная гарадская дзіцячая бібліятэка імя М. Астроўскага**

### *Аддзел абслугоўвання чытачоў малодшага ўзросту (дашкольнікі — вучні 1 — 5 кл.)*

**Абанемент:**

1. Турова, Е. В. Рыжик в Зазеркалье / Е. В. Турова. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 144 с.
2. Бутэвіч, А. І. Прыгоды Віруса Шкодзі / А. І. Бутэвіч. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2009. — 64 с. — (Казкі ХХІ стагоддзя).
3. Бучынская, Н. С. Прыгоды маленькай Машынкі / Н. С. Бучынская. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2008. — 72 с. — (Казкі ХХІ стагоддзя).
4. Рабцэвіч, А. Казка пра дамавікоў і пажарны апавяшчальнік / А. Рабцэвіч. — Мінск: Рэдакцыя газеты "Юный спасатель", 2007. — 14 с. — (Аўтары — дзеці).
5. Ерамішын, А. В. Лясны пажар / А. В. Ерамішын. — Мінск: Рэдакцыя газеты "Юный спасатель", 2008. — 16 с. — (Аўтары — дзеці).

**Чытальная зала:**

1. Андерсен, Х. К. Русалочка / Х. К. Андерсен. — Минск: Книжный Дом, 2010. — 64с. — (Золотые сказки).
2. Самые любимые сказки / сост. Ю. Батюлева. — Минск: Современная школа, 2010. — 64 с.
3. Полезные привычки / автор текста Э. Р. Исмаилова. — Минск: Современная школа, 2011. — 48 с.
4. Потупа, А. С. Растеряшки / А. С. Потупа. — Минск: Книжный Дом, 2010. — 48 с.
5. Сундуков, И. А. Весёлый ветер / И. А. Сундуков. — Минск: Книжный Дом, 2010. — 48 с. — (Стихи обо всём на свете).

### *Аддзел абслугоўвання чытачоў старэйшага ўзросту (вучні 6 — 11 кл.)*

**Абанемент:**

1. Жвалевский, А. В. Гимназия № 13 / А. В. Жвалевский, Е. Б. Пастернак. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 312 с. — (Пераходны ўзрост).
2. Федарэнка, А. М. Шчарбаты талер / А. М. Федарэнка. — Мінск: Юнацтва, 1999. — 207 с.
3. Баравікова, Р. А. Казкі астранаўта / Р. А. Баравікова. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 176 с.
4. Бадак, А. Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца: аповесці. / Алесь Бадак; Казімір — сын Ягайлы + Насця з 8 "Б" / Раіса Баравікова. "Памалюся Перуну, пакланюся Вялесу..." / Алесь Наварыч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 176 с. — (Пераходны ўзрост).
5. Хвалей, Я. І. Прынцэса з тусоўкі / Я. І. Хвалей. — Мінск: БелЭн, 2000. — 224 с. — (Школьная бібліятэка).

**Чытальная зала:**

1. Мяснікоў, А. Ф. Сто асоб беларускай гісторыі / А. Ф. Мяснікоў. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009. — 344 с.
2. Бельскі, А. І. Класікі і сучаснікі ў школе / А. І. Бельскі. — Мінск: Аверсэв, 2005. — 352 с.
3. Асветнікі зямлі Беларускай / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. — Мінск: БелЭн, 2006. — 496 с.
4. Князева, В. М. Падарожжа па Беларусі / В. М. Князева. — Мінск: Беларусь, 2005. — 304 с.
5. З росных сцяжын: біяграфіі пісьменнікаў Беларусі / уклад. М. Мінзер. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009. — 464 с.

# Роздум пра зорны шлях

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Да юбілею Максіма Багдановіча ў Беларускім відэацэнтры старанна падрыхтаваліся — паводле сцэнарыя Аляксандра Чарнушэвіча рэжысёр Андрэй Леўчык зняў стужку-роздум, у цэнтры якой паэт і яго бацька. Цяжкімі бяссоннымі начамі да Адама Багдановіча прыходзіць з нябыту яго сын — і бацька зноў і зноў задае яму пытанні, каб зразумець абраны сынам шлях і ступень сваёй віны, што не падтрымаў своечасова, не прыслухаўся...**

Для выканання галоўных роляў у відэафільме "Максім Багдановіч. Зорны шлях" былі запрошаны беларускія акцёры Арцём Курань і Іван Шырубека.

На пытанні нашага карэспандэнта адказвае рэжысёр Андрэй Леўчык.

**— Чаму ў аснову вашага фільма пакладзены дыялог Адама Багдановіча з сынам?**

— Праблема бацькоў і дзяцей — заўсёды сучасная. І сцэнарый быў напісаны менавіта з гэтага пункту гледжання. Наўмысна падкрэслена, што Максім Багдановіч сфарміраваўся як беларускі паэт якраз насуперак жаданням бацькі. Хаця Адам Юр'евіч добра ведаў беларускую культуру, прынцыпова лічыў, што сын павінен абраць у якасці прафесіі зусім іншае. Нязгодны з бацькам, Максім ідзе ўласным шляхам. Так што і на экране размаўляюць яны на розных мовах.

**— Але тым не менш гледачам фільма зразумелы абедзве пазіцыі, яны не асуджаюць бацьку.**

— Так. Глядач разумее, чаму Адам Юр'евіч менавіта такі — на яго характар таксама паклалі адбітак страты блізкіх. Бо бацька жадаў сыну толькі лепшага, з-за хваробы прапаноўваў ехаць у Крым, а не ў Вільню. Крымскі клімат, канечне, быў больш спрыяльны. І хто можа асудзіць бацьку, які ўсё жыццё пакутуе і не здымае з сябе адказнасці з-за таго, што быў суровы да рана пайшоўшага з жыцця сына. Нагадаю, што менавіта Адам Юр'евіч быў першым самым актыўным прапагандыстам спадчыны Максіма Багдановіча.

**— Ці лёгка было падабраць адпаведныя тыпажы?**

— Беларускія акцёры — сапраўдныя прафесіяналы. З выканаўцам ролі бацькі было прасцей — тут галоўнае партрэтнае падабенства. На ролю маладога паэта спрабавалі студэнтаў трэціх-чацвёртых курсаў БДАМ, якіх рэкамендаваў іх выкладчык.

**— У кантэксце стужкі выкарыстана шмат дакументальных матэрыялаў.**

– Мы вельмі ўдзячны за дапамогу дырэктару літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяне Шэляговіч. Яна паклапацілася, каб у стужцы не было непрыемных недакладнасцей. Не адзін раз у музей прыходзіў і выканаўца ролі Максіма Арцём Курань, каб увайсці ў ролю.











Шмат у фільме і дакументальнай хронікі: на фоне здымак чарнобыльскай зоны балюча гучаць радкі паэта "Краю мой родны, як выкляты богам…", а словы "яны, бяздольныя, узяты ткаць залатыя паясы" кантрастуюць з бадзёрай савецкай хронікай ткацкай вытворчасці. Я хацеў падкрэсліць сучаснасць вершаў Багдановіча, наўмысна выкарыстоўваючы іх спалучэнне з гэтымі кадрамі…

**— Але пра якую сучаснасць ідзе размова, калі гэта савецкі час?**

— Культавая стужка "Светлы шлях" таксама не мела адносін да таго, што адбывалася на самай справе. Таму я дазволіў сабе паказаць і дэманстрацыю, якая ідзе назад, і ўвесці ў кантэкст фільма кадры з меладрамы Баўэра, якія суправаджаюць вершы паэта, прысвечаныя яго мімалётнаму захапленню – Клаве. (Напісаныя, між іншым, на рускай мове. Саладжавы напал "пачуццяў" меладрамы адлюстроўвае адносіны самога аўтара вершаў да таго, што з ім адбываецца.) Тым больш моцна гучаць творы, народжаныя пад уплывам сапраўднага пачуцця, якія натхнілі і працягваюць натхняць кампазітараў, паэтаў, закаханых.

Нездарма аператар Міхаіл Бродскі шмат здымаў рознымі планамі юныя твары тых, хто збіраецца ля помніка Максіму Багдановічу.

**— Менавіта ім і адрасаваны ваш фільм?**

— Тым, хто павінен абраць уласны шлях, прыслухоўваючыся толькі да памкненняў свайго сэрца, кіруючыся любоўю да Радзімы і ведаючы яе гісторыю і літаратуру.

***На здымках: кадры з фільма "Максім Багдановіч. Зорны шлях".***

## З глыбінкі

### І вечным робіцца імгненне...

У выставачнай зале Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея адбылася прэзентацыя новага зборніка вершаў члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніны Кавалёвай "Лодка кахання" — на беларускай і рускай мовах. Прысвечаны ён 120-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Кніга пабачыла свет дзякуючы спонсарскай падтрымцы акцыянерных таварыстваў "Горкілён" і "Белая Русь".

Аўтар імкнулася закрануць "вечную" тэму — тэму душы і памкненняў чалавека і распрацавала яе па-свойму, напоўніла павучальным сэнсам. Трапна прыкмечаны жыццёвыя абставіны, і ёсць над чым паразважаць.

Лірычная гераіня ў вершах Ніны Кавалёвай зведала розныя адценні любові. Гэта і першае трапяткое каханне, і мары пра шчасце, і горыч-шкадаванне пра нявернасць, і, наадварот, радасць ад душэўнай еднасці. Цеплыня мацярынскага сэрца і сямейнае хараство, калі дзве шчаслівыя палавінкі ўсё дзеляць папалам.

Удзельнікі студэнцкага клуба творчай моладзі "Дэбют" дэкламавалі вершы са зборніка, а ў выкананні лепшых спявачак горацкай сцэны Надзеі Курбасавай і Тацьцяны Турманавай гучалі песні на словы паэткі "Берагі", "Малады лейтэнант", "Краіна кахання".

Сваімі ўражаннямі пра новыя вершы падзяліліся і мясцовыя паэты. Наталля Ніканчук адзначыла, што "толькі на першы погляд складана адшукаць у вершах Ніны Дзмітрыеўны асабістыя перажыванні, усмаміны. Але калі ўчытацца і ўдумацца, то мы пачнём распазнаваць колеры яе душы — такой маладой і прыгожай". Усе выступоўцы — аматары паэзіі і прыхільнікі творчасці Ніны Дзмітрыеўны — дзякавалі ёй за тыя цудоўныя і праўдзівыя радкі пра каханне і прыгажосць пачуцця.

**Людміла ДЗЕРУЖКОВА,**
**г. Горкі**

### На зямлі юнацтва

У Чашніцкі раён з усёй Віцебшчыны прыехалі спецыялісты аддзелаў адукацыі, якія курыруюць пытанні выкладання беларускай мовы. Мясцовыя педагогі дзяліліся вопытам правядзення факультатыўных заняткаў.

Найбольш цікавае мерапрыемства адбылося ў Вядрэнскай базавай школе-садку. У літаратурнай гасцёўні сабраліся мясцовыя паэты, настаўнікі і іх вучні. З Мінска на сустрэчу з сябрамі завітала паэтэса Вера Буланда, член СПБ, таленавіты перакладчык, крытык. Шмат год таму пасля заканчэння педінстытута імя Максіма Горкага Вера Аляксандраўна працавала на Чашніччыне. Менавіта тады беларускія дакументалісты знялі пра яе, таленавітую маладую настаўніцу, якая рабіла першыя крокі ў паэзіі, фільм "Сэрца аддаць дзецям".

Сувязі з зямлёй юнацтва Вера Буланда не парывае. Цёплай атрымалася гэтая сустрэча. Паэтэса чытала вершы, адказвала на пытанні. Аўдыторыя была зачаравана. Увазе слухачоў сталічная госця прапанавала і раннія творы, напрыклад, верш "Жаданне", пра які ў свой час добра азваўся Пімен Панчанка, і напісанае ў апошнія гады. Верш "Закажы ў маю вёску таксі" гучаў як песня, як прызнанне ў любові да людзей, радзімы. Беларуска па бацьку, руская па маці, яна лёгка пераходзіла з адной мовы на другую, уражваючы здольнасцю ўспрымаць музыку слова.

**Ірына ТОРБІНА,**
**Чашніцкі раён**

# У лучнасці муз

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" у сёлетнім сезоне іграе гэты спектакль некалькі разоў на тыдзень. І кожны раз ён гучыць па-новаму, напоўнены духам творчасці, жывой музыкай і шчырымі эмоцыямі выканаўцаў, падтрыманы чуйнасцю неабыякавай публікі. З прэм'ерным натхненнем... Між тым, яго прэм'ера адбылася 9 снежня 1997 года. Але твор, у якім зіхацідь іскрынка Божая, не старэе, застаецца сучасным. Музычна-паэтычны спектакль "У краіне светлай, дзе я ўміраю…" увабраў у сябе тысячы такіх іскрынак, бо ў ім жыве таленавітае слова Максіма Багдановіча, які быў і назаўжды застаўся маладым. Тут ажываюць іскрынкі цудоўных мелодый, якія стварылі С. Рак-Міхайлоўскі, Р. Самохін, І. Лучанок, І. Палівода, У. Мулявін, І. Раманчук, М.Шчаглоў-Кулікові, А. Шундрык. Яго жывяць талент рэжысёра-пастаноўшчыка Галіны Дзягілевай і выканаўцы — артыста, спевака Вячаслава Статкевіча, трапяткі акампанемент Сяргея Сарокіна (гітара, вакал)...

Асаблівых абертонаў надала гучанню гэтага спектакля атмасфера Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, дзе нядаўна выступіў тэатр "Зьніч". Сімвалічна, што імправізаваная сцэна была размешчана непадалёк ад скульптурнага партрэта Максіма Багдановіча (аўтар — Генадзь Мурамцаў, чыя персанальная выстаўка разгарнулася ў музеі з нагоды юбілею майстра). Святочны паказ, які прайшоў пад знакам знамянальнай даты з дня нараджэння Паэта і называўся "...І толькі на цябе надзея, край родны мой!", адбыўся дзякуючы падтрымцы генеральнага партнёра Беларускай дзяржаўнай філармоніі — ААТ "Белзнешэканамбанк".

Між іншым, арганізатары імпрэзы звярталіць увагу на збег іншых знамянальных дат: Беларуская дзяржаўная філармонія рыхтуецца да 75-годдзя, "Беларусьбанк" святкуе сёлета свае 20, а тэатр "Зьніч" праз год адзначыць 15-годдзе свайго ўнікальнага монаспектакля, прысвечанага Максіму Багдановічу.

## Афарызм

*Уся паэзія – ад кахання.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Тацццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2826
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 8.12.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5845
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12